**Беларусь на конадні першае сьветнае вайны.** Бр. Скарыніч. (Бацькаўшчына, № 30-31, 32-33, 34, 36-37, 1954) Мюнхэн, 1954.

**С. Барысёнак. «Нацыянальны характар Літоўскага Статуту 1592 г.»** — рэцэньзія. (Бацькаўшчына, № 21, 22, 1955). Мюнхэн, 1955.

**Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР.** (Беларускі зборнік, кн. II). Мюнхэн, 1955.

**Нашаніўства й бальшавізм.** (Беларускі зборнік, № 7). Мюнхэн, 1955.

**The language policy of the Bolsheviks in the Belorussian SSR.** (Belorussian Review, № 1), Munich, 1955.

**Some new changes in the Belorussian language, as used in the Belorussian SSR.** — a review. (Belorussian Review, № 5), Munich, 1957.

**Ruska-Bielaruski Sloŭnik** — a review. (Belorussian Review, № 5) Munich, 1957.

**Яўген Рапановіч: Беларускія прыказкі, прымаўкі й загадкі.** — рэцэньзія. (Беларускі зборнік, кн. 12). Мюнхэн, 1960.

**Пскоўскі дыялект.** (Запісы, кн. 1). Мюнхэн, 1962.

**Хрышчоныя імёны вялікалітоўскія (беларускія).** Запісы, кн. 2). Мюнхэн, 1963.

## ЯШЧЭ НЕДРУКАВАНЫЯ ПРАЦЫ

**Беларуска-расійскі слоўнік.** (На навуковых падставах). Рыхтуе Юрка Станкевіч. Прадбачанае выданьне ў 1986 годзе.

## Др. Я. СТАНКЕВІЧ БЫЎ РЭДАКТАРАМ НАСТУПНЫХ ЧАСАПІСАЎ:

**«Родная мова»**, Вільня, 1930-1931.
**«Родныя гоні»**, Вільня, 1927.
**«Нёман»**, Вільня, 1932.
**«Веда»**, Нью Ёрк, 1951-1954, 1973.
**«Незалежнік»**, Нью Джэрзі, 1965-1966.

## Др. Я. СТАНКЕВІЧ СУПРАЦОЎНІЧАЎ З НАСТУПНЫМІ ВЫДАНЬНЯМІ:

**Наша Ніва**, Вільня, 1909-1913.
**Вольная Беларусь**, Менск, 1917-1918.
**Сялянская Ніва**, Вільня, 1926-1930.
**Sprawy Narodościowe**, Warszawa, 1928-1934.
**Калосьсе**, Вільня, 1935.
**Baltico-Slavica**, Wilno, 1936.
**Беларускі Голас**, Вільня, 1944.
**Adradžeńnie**, Regensburg, 1946.
**Бацькаўшчына**, Мюнхэн, 1947-1962.

**Беларус,** Нью Ёрк, 1950 —
**Беларускі Зборнік,** Мюнхэн, 1955-1956.
**Палесьсе,** Монтрэаль, 1955.
**Сяўбіт,** Нью Ёрк, 1958-1973.
**Запісы,** Мюнхэн-Нью Ёрк, 1962-1963.

---

**А. Калодка** (Аўстралія)

## ДР. ЯНКА СТАНКЕВІЧ

З др-м Янкам Станкевічам я запазнаўся ў канцы 1927-га году ў рэдакцыі газэты «Сялянская Ніва», дзе нейкі час працаваў мой прыяцель Уладзімер Бернякові̇ч. У 1928-м годзе падчас выбараў у польскі сойм, у які кандыдаваў др. Янка Станкевіч, я браў, супольна зь Берняковічам, вельмі актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі, перадусім займаючыся кальпартажам перадвыбарчай літаратуры, разклейваньнем афішаў, дапамогай у арганізаваньні перадвыбарчых сходаў. У выніку галасаваньня др. Янка Станкевіч быў выбраны паслом у польскі сойм, дзе годна рэпрэзэнтаваў беларусаў, змагаючыся з палянізацыйнай палітыкай і сацыяльнай несправядлівасьцяй у адносінах да беларусаў.

Пасьля выбараў, нейкі час працаваў я пры фальсаваньні (складаньні) газэты «Сялянская Ніва», рэдактарам-выдаўцом якое быў др. Янка Станкевіч. «Сялянская Ніва» была ворганам Беларускага Сялянскага Саюзу. Вось што піша аб «Сялянскай Ніве» Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (том 10, б. 164):

«Сялянская Ніва», буржуазна-нацыяналістычная газэта, орган кулацкай нацыялістычнай партыі Беларускі Сялянскі Саюз. Выдавалася ў Вільні ў 1925-30-х гадох на беларускай мове, выступала супраць рэвалюцыйнага руху, саюзу рабочых і сялян, за стварэньне буржуазна беларускай рэспублікі, супраць праграмы Сялянска-Работніцкай Грамады. Выйшла 199 нумароў».

«Сялянская Ніва» была газэтай для сялян. Яна выступала супраць камуністычнага руху, змагалася за Беларускую Народную Рэспубліку, абвешчаную актам 25-га Сакавіка 1918 году ў Менску. «Сялянская Ніва» вяла на ейных бачынах дыскусію зь іншымі беларускімі партыямі ў тым ліку й зь Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой, але гэтая дыскусія ніколі не пераходзіла ў змаганьне. Газэта імкнулася да падняцьця нацыянальнай сьведамасьці беларускага сялянства, давала фаховыя рады ў апрацоўцы зямлі, была за хутарнай рэформай, за парцэляцыю вялізарных лятыфундыяў (маёнткаў), газэта прапагавала ідэю каапэрацыі па вёсках і мястэчках Заходняе Беларусі. Супрацоўнікамі ў сельска гаспадарскай і каапэратыўнай галінах былі: абсальвэнт праскага ўнівэрсытэту інж. Малеві і Эдуард Будзька.

Янка Станкевіч апрача палітычнай і грамадзкай дзейнасьці ў Вільні быў выкладчыкам беларускай мовы ў праваслаўнай Віленскай духоўнай сэмінарыі, лектарам беларусаведы на Віленскім унівэрсытэце ды лектарам беларусаведы ў аддзеле праваслаўнай тэалёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Нягледзячы на ўсе згаданыя абавязкі ды пераладаваньне працай, ён усё-ж знаходзіў час на паважную навукова-дасьледніцкую працу — на дасьледваньне

беларускай мовы 16-17-га стагодзьдзяў. Гэтыя дасьледваньні беларускае мовы адносіліся перадусім да мовы Аль-Кітабаў, рэлігійных музульманскіх кнігаў з 16-17 стагодзьдзяў пісаных тагачаснай беларускай мовай, але арабскімі літарамі ды да мовы Вялікага Княства Літоўскага. Ужо згаданая мною раней Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя пішучы аб дасьледваньнях Аль-Кітабаў не змагла абмінуць прозьвішча др. Янкі Станкевіча (том 5, б. 601).

Жывучы ў Вільні, пераважна ў ейнай частцы Новы Сьвет, ды будучы ўжо старэйшым гімназістым і пазьней студэнтам, я час да часу забягаў на вуліцу Тургельскую, дзе жылі Янка й Марыя Станкевічы ды заўсёды быў у іх міла бачаным госьцем.

Мой кантакт з др. Янкам Станкевічам быў спынены ваеннымі падзеямі 1939-1940-х гадоў і адноўлены ўжо на пачатку нямецка-савецкай вайны.

Працуючы ў кастрычніку 1941-га году ў Ашмяне, аднойчы спаткаў я там др. Янку Станкевіча, які ехаў зь Вільні ў Менск. Мы не маглі доўга гутарыць, бо шафёр ня меў часу. Др. Я. Станкевіч даў мне ягоны менскі адрыс і прасіў адведаць яго, што я ў незабаве й зрабіў. Гутарцы нашай ня было канца. Янка Станкевіч ужо дакладна ведаў аб усіх польскіх злачынствах у акупаванай немцамі Ашмяншчыне. Ведаў аб забойсьцьве ягонага прыяцеля ашмянчука Міхася Галяса, былога сябры Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, ведаў аб забойсьцьве (польская вэрсія, «падчас уцёку») ў Астраўцы Вайцеха Шутовіча, брата Янкі Шутовіча й пляменьніка ведамага беларускага рэлігійнага дзеяча, кс. Віктара Шутовіча, ведаў аб закрыцьці ўсіх беларускіх школаў у Ашмяншчыне й адкрыцьці польскіх, ведаў таксама, што віленскае польскае падзямельле ўважае Ашмяншчыну за польскую харчовую базу.

Падчас маёй наступнай візыты ў др. Янкі Станкевіча ў Менску, ён дакладна распытваў мяне аб прагрэсе зьбеларушчаньня школаў ды шмат гутарыў аб ягоных юнацкіх гадох жыцьця ў роднай вёсцы Арляняты, Ашмянскага павету, аб навуцы ў вышэйшым гарадзкім вучылішчы ў Ашмяне, аб навязаньні ўжо падчас навукі лучнасьці зь віленскай беларускай газэтай «Наша Ніва», аб пераезьдзе пасьля сканчэньня ашмянскай школы ў Вільню, аб працы ў «Нашай Ніве, аб братох Луцкевічах, аб Янку Купалу, аб сяброўстве зь ім, аб ягонай жонцы Уладыславе Станкевіч, якая паходзіла з пад Вішнева. Успамінаў аб цяжкасьці арганізацыі беларускіх школаў на Ашмяншчыне ў 1917-м годзе. Калі толькі была магчымасьць на адкрыцьцё беларускіх школаў, Янка Станкевіч зь некалькімі ягонымі сябрамі за кароткі час змаглі адкрыць каля 100 пачаткавых школаў і настаўніцкую сэмінарыю ў Барунах. Усе гэтыя школы былі пасьля польскімі ўладамі закрытыя ды зараз-жа перароблены на польскія.

Нягледзячы на недахоп часу, я ўсё-ж змог наведаць вёску Арляняты, дзе нарадзіліся такія волаты нашага беларускага вызвольнага руху: др. Янка Станкевіч, др. Станіслаў Станкевіч і кс. Адам Станкевіч. Наведаў таксама вёску Шутовічы, дзе нарадзіліся кс. Віктар Шутовіч, мгр. Янка Шутовіч і мой прыяцель Альфонс Шутовіч ды ўжо згаданы Вайцех Шутовіч.

Знаходзячыся пасьля заканчэньня 2-ой сусьветнай вайны ў Гамбургу, я зусім прыпадкова даведаўся, што ў Рэгенсбурзе існуе беларускі лягер для перамешчаных асобаў (ДП), кіраўніком якога зьяўляецца Янка Станкевіч. Пераезд з Гамбурга, з ангельскай акупацыйнай зоны ў Рэгенсбург на амэрыканскую зону, быў спалучаны зь вялікімі цяжкасьцямі. І ўсё-ж мне ўдалося пераехаць у Рэгенсбург.

Др. Янка Станкевіч спаткаў мяне са сьлязамі ў вачох. Доўгія, доўгія гутаркі, тым разам аб маіх перажываньнях у нямецкіх канцэнтрацыйных лягерох...

У красавіку 1946-га году быў створаны ў Рэгенсбурзе Беларускі Дапамаговы Камітэт для трох нямецкіх акупацыйных зонаў, амэрыканскай, ангельскай і францускай. Мы абудва, др. Янка Станкевіч і я, увайшлі ў яго, як сябры. Адным з самых пільных заданьняў Камітэту былі стараньні ў амэрыканскіх акупацыйных уладах аб дазволе на вылучэньне беларусаў у асобныя лягеры. Дзеля таго, што пісьмовыя стараньні трывалі доўга, прыходзілася асабіста інтэрвэняваць у амэрыканскіх вайсковых уладаў у Франкфурце. У гэты час праезд нямецкай чыгункай ня быў ані простым, ані лёгкім. Чыгунка была перапоўнена, а пераначаваць у Франкфурце можна было толькі ў былым антыбомбавым сховішчы. Найчасьцей прыходзілася езьдзіць др. Янку Станкевічу, як быламу паслу й мне, як быламу вязьню нямецкіх канцэнтрацыйных лягероў. Калі не памыляюся, дык мы езьдзілі прынамсі пяць разоў. Часам з намі былі або Аляксей Вініцкі, або інж. У. Тамашчык, пазьнейшы архіяпіскап БАПЦ Васіль. У часе гэтых паездкаў я вельмі добра пазнаў др. Янку Станкевіча ды пасябраваў зь ім, стаўшыся на заўсёды ягоным блізкім супрацоўнікам. Апошняе слова, мо ня зусім дакладнае — паміж намі былі хутчэй бацькоўска-сыноўскія прыяцельскія адносіны. Я лічыўся адным зь нешматлікіх ягоных прыяцеляў, які зь ім быў на «ты», хоць з гэтага вялікага прывілею я карыстаўся даволі рэдка.

Знаходзячыся ў Аўстраліі я перапісваўся зь ім вельмі часта. Апошні мой ліст да яго, ён атрымаў у канцы чэрвеня 1976-га году, калі зьняможаны цяжкой хваробай, знаходзіўся ў шпіталі. Дрыжачаю рукою ён яшчэ адпісаў мне колькі слоў...

Беларуская эміграцыя ў Аўстраліі была ашаломленая жудаснай весткай, што наш выдатны гісторык, укладальнік слоўнікаў, абаронца беларускага насельніцтва ў польскім перадваенным сойме, удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу й адзін із творцаў акту 25-га Сакавіка 1918-га году, і перадусім наш выдатны мовавед, скончыў ягоны жыцьцёвы шлях. Беларускія радыёвыя камітэты ў Сыднэі й Мэльбурне ўшанавалі сьветлую памяць вялікага нашага дзеяча й моваведа др. Янкі Станкевіча адмысловымі перадачамі.

✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖✖

Васіль Сініца (ЗША.)

## МАЕ МЯСТЭЧКА

(УСПАМІНЫ)

працяг

Пры самым спуску з гары ў кірунку маста й млыну, знаходзіўся па правым баку даволі вялікі й прыгожы дом доктара Гарбэля. Дом тануў у заросьлях розных гатункаў і колераў бэзу, якія пераходзілі ў немалы сад, які цягнуўся аж да Маставой вуліцы. Пасьля сьмерці старога Гарбэля, дом застаўся ў спадку ягоным дочкам: разьведзенай жонцы генерала Булак-Балаховіча і ўдаве нейкага высокага царскага ўрадаўца — Рошчынай. Зь няведамых прычынаў, сёстры ня жылі ў згодзе. Дайшло да таго, што яны нават панадворак перагарадзілі ўздоўж дашчатай

сьцяной і ўваходзілі або ўязджалі туды праз асобныя брамкі. Ды ня толькі яны самыя, але й іх сыны, якіх у Балаховічыхі было два, а ў Рошчыніхі адзін, таксама адносіліся да сябе варожа.

Балаховічы выхоўваліся ў Кадэцкай школе ў Варшаве, а Рошчын, хіба дзеля свае расейскасьці, акалачваўся ў Лужках. Праўда, ён зь дзяцінства быў хваравітым і нясьмелым. Гэтая-ж нясьмеласьць была вялікай першакодай у ягоным жыцьці. Другой перашкодай быў ягоны страшэнны расейскі акцэнт, якога ён ня мог пазбыцца, калі падчас кароткіх замірэньняў намагаўся гаварыць са сваімі дваюраднымі братамі папольску. Як доказ гэтага, праз доўгі час перадаваўся па руках урывак зь ягонага ліста да старэйшага Балаховіча Мэдарда. Ён пісаў: «Любежны Мэдзіо! З тых пур, як твоя мамаша соізволіла выслаць цебе до тэй проклятушчэй Варшавы, то мы з тобон і не відзеліся...» Далей былі радкі ў вольным перакладзе пазьнейшых уласьнікаў гэтага славутага манускрыпту, якіх я не бяруся цытаваць. З гэтай дый з іншых прычынаў бедны Рошчын быў аб'ектам насьмешак у школе й паза школаю. Балаховічы-ж былі заўсёды аб'ектам увагі й зайздрасьці ўсёй падрастаючай моладзі ў Лужках. Асабліва ў нядзелі, калі яны ішлі ў сваіх блішчастых уніформах па вуліцах мястэчка, кіруючыся ў касьцёл. Маладзейшыя дзяўчаты, а таксама й хлапцы мелі разрыўку ў часе гэтых паходаў нядошлых афіцэраў. Апрача гэтага, падросткі-хлапцы марылі аб тым, каб трапіць у «Балаховічава войска», якое штолета фармавалі браты ў Лужках. Трэба зазначыць, што старэйшы Мэдард мянаваў сябе «палкоўнікам», а брата Вітака назначаў толькі сваім адютантам, не надаючы яму ніякае бліжэй акрэсьлянай рангі. Сваё войска яны называлі коратка «белымі». У яго прымалі толькі багацейшых хлапцоў і абавязкава католікаў. Такім чынам, воляй-няволяй праваслаўныя й бядота былі вымушаныя тварыць «чырвоных». Да апошніх належыў і я, хоць, штопраўда, ня браў чыннага ўдзелу ў змаганьнях, якія ператвараліся часамі ў сапраўдныя бойкі. Я-ж быў калекам. Аднак карыстаўся я павагай у «чырвоных», бо аднаго разу прыпадкова высьлядзіў склад «зброі белых» у глухім кутку Балаховічавага саду пад шырокім кустом агрэсту, які ўдадатку быў яшчэ густа абросшы крапівой.

Трэба зазначыць, што ў змаганьнях камандаваньне «белых» захоўвалася з малымі выняткамі сапраўды «па рыцарску». Напрыклад, «палонных» ніколі ня білі, цягнулі толькі ў Балаховічаў хлявец і пратрымаўшы пару гадзінаў адпушчалі прыгразіўшы, што калі яны пападуцца яшчэ, дык будуць пакараныя «з усёй суровасьцю ваеннага часу». Што гэта азначала ніхто ня ведаў.

Бедны Рошчын заўсёды заставаўся ў «цывілю», бо й «чырвоныя» яго не хацелі, дзеля яго «панскасьці» й сваяцтва з вышэйшым камандаваньнем «белых, а найбольш дзеля таго, што ён часамі любіў даносіць у школе на сяброў. Трывала гэта ня доўга, бо праз пару год Рошчыніха выслала яго да сваякоў у Варшаву й ён ужо не вярнуўся ў Лужкі.

Ідучы ад дому Гарбэля да ракі й маста, наступным быў млын і электроўня, дзе непадзельна панаваў загадчык гэтых прадпрыемстваў — паляк Людвік Скальскі. Быў ён нязвычайна прыгожым дзяцюком, высокага росту, складна збудаваным целам, з цёмнымі ледзь-ледзь пахваляванымі валасамі. Шпэціла яго крыху толькі левае вока, якое ніяк не хацела глядзець у адным напрамку з правым. Але на гэта не зьвярталі ўвагі мясцовыя прыгажуні й пасьля Адамовіча, што працаваў у судзе, ён быў прадметам іх агульных захапленьняў. Прыгожы-ж Людвік, таксама як і Адамовіч, не зьвяртаў на іх асаблівай увагі, але толькі да пары-да-часу. На

агульнае зьдзіўленьне ён неспадзявана закахаўся ў просьценькай жыдовачцы Малцы — дачцы мясцовага капэльмайстра Бэйнуса, сябры па адумысловым кутку ў сынагозе зь Яньцем Капланам. Яна была ў меру рыжанькай, з тварыкам ня вельмі то абсыпаным вяснушкамі й ня мела вельмі ўжо доўгага носа. Як кажуць, носік, як носік.

Але тут на перашкодзе закаханым стала ўпоперак рэлігія. Штопраўда славуты ксёндз Останевіч можа-б і ня меў нічога супраць таго, каб прыдбаць яшчэ адну лішнюю душу для польска-каталіцкай веры, але затое жыдоўскі кагал, а дакладней жаночая частка яго зь ведамай Бляхарыхай на чале, паставіўся, як той казаў, «яршом». Аднак і Скальскі ня спаў у шапку. Аднэй цёмнай восеньскай ноччу ён пад'ехаў нанятай фурманкай пад Малчына вакно й забраў на воз яе, разам з падушкамі, пярынамі ды іншымі прычындаламі. Некаторыя казалі, што ўвесь гэты пасаг падавала праз вакно меншая Малчына сястра, а нават мажліва й маці кандыдаткі на маладуху. Усе гэтыя рэчы ён завёз у адлеглы за 10 км. засьценак. Там Малка перачакала пакуль успакоіцца вэрхал спраўлены найбольш пабожнымі сяброўкамі ды сябрамі кагалу. Пасьля гэтага ён прывёз яе ў Лужкі й яны без асаблівага розгаласу павянчаліся ў ксяндза Останевіча Бэйнус і яго сям'я былі ціха задаволеныя, бо яны бачылі ў Скальскім перадусім заможнага сваяка, а пасьля ўжо «гоя». І не памыліліся, бо ў хуткім часе ўся сям'я Абрампальскіх стала на ногі.

На пачатку ІІ-ой сусьветнай вайны Скальскі быў змабілізаваны ў армію, але ён хутка пасьля развалу Польшчы вярнуўся дамоў і заняў сваё становішча ў электроўні. Некалькі тыдняў пазьней яго арыштавала НКВД і з таго часу слых па ім загінуў. Малку-ж з двумя малымі дзецьмі ў 1942 годзе зьнішчылі немцы.

Падняўшыся ад млына на ўзгорак, як я ўжо ўспамінаў, Млынская вуліца разьдзялялася на дзьве часткі: адна зь іх ішла проста на поўдзень на Залесьсе й далей на Глыбокае, а другая павяртала крута на лева й па левым беразе Мнюты ішла на паўднёвы ўсход і мінуўшы зь левага боку казармы КОП-у й Гарадзец, ізноў павяртала ў права на Глыбокае.

На Млынскай вуліцы, якраз на разьвілку гэтых дзьвюх дарог стаяў даволі вялікі будынак «воласьці», які за польскіх часоў быў перайменаваны на «гміну». У аднэй палове гэтага будынку зьмяшчалася Гмінная ўправа, а ў другой было памешканьне для пісара, а пазьней для сакратара. Пасярод будынку было нешта навыгляд вялікіх сяней званых «зборняй», якая ў даўнейшыя часы служыла для адбываньня сходаў.

У кірунку на Залесьсе было пабудавана некалькі даволі добрых дамоў, у тым ліку й колішняя «рэзыдэнцыя» пана маёра й паручніка Тосі. Быў там і дом, які належыў да вельмі цікавай сям'і — паўпалякаў Врублеўскіх. Кажучы «паўпалякаў», я так іх і разумею, бо сам Врублеўскі застаўся ў Лужках з польска-савецкай вайны 1918-21 гг. Паходзіў ён з Мазоўша, а Врублеўская паходзіла з акалічнай вёскі. Хоць іх лучыла веравызнаньне й Врублеўскі быў палякам, жонка да польскасьці ня прызнавалася. Яны працавалі прыбіральшчыкамі ў казармах. Папулярнымі яны былі таму, што мелі ні больш ні менш, але толькі 20 дзяцей, зь якіх жыло 16. У гэтым ліку яны мелі 6 пар блізьнят, якія радзіліся год у год, далей пяцёра, якія радзіліся па двое ў адным календарным годзе й толькі трое, што радзіліся ў нармальным часе.

Аб самой Врублеўскай бытавалі розныя легенды. Вось адна зь іх: Аднаго разу сусед Врублеўскіх прывёў досьвіткам да студні паіць каня. Не пасьпеў ён выкру-

ціць корбай і аднаго вядра вады, як з другога боку прысунулася да студні Врублеўская зь вядром і загаманіла:

— Калі ласачка (яна заўсёды здрабняла некаторыя словы) налі мне ведзярко вадзіцы хутчэй.

— Куды-ж так сьпешна, — запытаў сусед.

— Ня бачыш, што хрэсьбінкі вось-вось.

— Ну, куды там, — запярэчыў сусед, — яшчэ хіба праз тыдняў пяць.



**Пажарная ахова ў Лужках.** На здымку ёсьць больш за 10 асобаў, якія ўспамінаюцца ў «Маім мястэчку». Самы крайні зьлева стаіць Вовка «Пажарнік».

— Не жартуй, калі ласачка, а хутчэй ідзі дамоў і прасі сваю мамку, каб хуценька ішла да мяне, бо Стась ужо пайшоў у казармы, а я адна.

Сусед не зьвярнуў на гэта вялікай увагі, аднак вярнуўшыся дамоў расказаў маці ўсё й тая неадкладна пайшла да Врублеўскай. Па нейкім часе яна вярнулася.

— Ну, што, спадманула Врублеўская? — спытаў той.

— Якое там спадманула, — адказала маці, — а каб ты толькі пабачыў якога хлапца нарадзіла! Валасы чорныя, як у бацькі. А голас, дык як у старога Лінкевіча (царкоўны дзяк), дрыжачы й пранрэзьлівы.

Можа гэта й няпраўда, але сусед прысягаў, што назаўтра досьвіткам бачыў Врублеўскую, калі яна ішла з пустымі вёдрамі ў бок казармаў. У гэтых вёдрах яна прыносіла дадому адпадкі з жаўнерскай кухні для сьвіней і каровы.

Нікому ня ведама, якім спосабам Врублеўская цяжка працуючы ў казармах, змагла яшчэ дома спраўляцца з усёй сваёй «публікай», як жартаўліва называлі суседзі чародку Врублеўскіх. Праўда, вялікай дапамогай для яе была старэйшая 18-ці гадовая дачка Юзя. Гэта яна трымала ў дысцыпліне й паслухмянасьці ўсю сямейку, кормячы й абмываючы ўсіх так, што яны ня былі горш дагледжаны ад суседзкіх.

А вось абразок, як Юзя даглядала сваіх меншых сямейнікаў: Відавочна знэрваваная Юзя раз-па-раз углядаецца ў адчыненую брамку й наканец пытае праходзячага хлапца-суседа, ці ён ня бачыў дзе Ядзюні. У міжчасе Ядзюня паказваецца з-паза ўзгорку з боку маста. Юзя налятае на яе каршуном:

— Вось я табе зараз пакажу, як бадзяцца, — злосна крычыць яна.

— А ці мама дазволіла табе біць мяне? — спакойна пытае Ядзюня.

— А вось, зараз пазнаеш!

— Ну, што-ж, калі мама дазволіла, дык бі, — адказвае малая й падняўшы падольчык адварочваецца да сястры задам. Рассьмешаная Юзя рэзыгнуе зь біцьця, аднак вырашае правесьці далейшыя досьледы.

— Дзе ты была зараза? — грозна пытае яна.

— Там-сям, — спакойна адказвае малая.

— Што ты там рабіла?

— Тое-сёе.

— З кім ты там забаўлялася?

— З тым - з сім.

Сьмяючыся да сьлёзаў Юзя наканец цалуе малую ў даволі карэлы нос і нехаця разьвітваецца з хлапцом.

Юзя была даволі прыгожай дзяўчынай. Слушнага ўзросту й постаці зь сінімі вочкамі й румяным тварыкам. Яна была аднэй з найпрыгажэйшых дзяўчат на цэлую вуліцу, так што адаратараў у яе не бракавала. Але яна ставіла абавязак дапамогі бацьком вышэй сваіх асабістых прыемнасьцяў і ані з адным зь іх не завязвала бліжэйшага знаёмства.

Гаворачы аб сям'і Врублеўскіх само сабою напрошваецца пытаньне, як гэта яны з адносна нявысокіх заработкаў прыбіральшчыкаў маглі ўтрымаць такую вялікую колькасьць дзяцей ды хоць у скромнай ступені апрануць і абуць іх. Гэты сакрэт часткова вырашаўся тым, што яны пры нараджэньні дзяцей, абавязкава запрашалі на хрышчоных бацькоў афіцэраў КОП-у, а тыя пазьней у той ці іншы спосаб апекаваліся сваімі духовымі дзяцьмі. Асабліва гэта можна было зўважыць у часе калядных ці навагодніх сьвятаў, або ў іншыя «сямейныя» сьвяты, калі маладыя

Врублеўскія чыста апранутыя й вымытыя йшлі ў казармы. Трэба ведаць, што рэлігійныя палякі сурёзна ставіліся да прынятых на сябе гэтых дабраахвотных абавязкаў. Доказам гэтага можа быць хоць-бы тое, што дваіх старэйшых Врублеўскіх навучалася ў вайсковых школах у Варшаве, напэўна не за кошт уласных бацькоў.

На той-жа самай Млынскай вуліцы жыў яшчэ адзін цікавы чалавек, — дробны гандляр Хаім Гэрцык зь сям'ёю.

Тыя, хто жыў у малых мястэчках на Беларусі, хіба памятаюць, што жыдоўскае бяднейшае насельніцтва ў зімовы час трымала шмат гусей, якія гвалтам напаўнялі, асабліва ў зімовыя раніцы, усе закавулкі гэтых мястэчак. Прычына такога замілаваньня да гадоўлі гусей была ў тым, што жыды ў гэты спосаб хацелі выраўняць бракі тлушчаў, якіх ня мелі ў такой меры што хрысьціяне, якія спажывалі тлушч са сьвініны. Жыдам-жа як ведама есьці сьвініну забараняў закон Майсея, які яны дакладна перасьцерагалі. Увосень жыды куплялі ад сялянаў пэўную колькасьць гусей і кармілі іх «да адвалу» мяшанкай аўсянай мукі з бульбай. Ад гэтага гусі хутка сыцелі, ці як казалі наліваліся шмальцам. Пасьля гэтага гусей несьлі да разьніка, які рэзаў іх у асобы рытуальны спосаб, бо бяз гэтага мяса зь іх ня лічылася кашэрным.

Вось-жа Гэрцык аднае восені купіў за апошнія заашчаджаныя залатоўкі чатыры гусі ды пачаў іх адкормліваць, каб крыху на гэтым зарабіць, а таксама паласавацца са сваёю сям'ёю хоць капустай на гусіных касьцях. З пачатку ўсё йшло даволі гладка, аж пакуль не дайшло да абаграваньня кладоўкі, дзе знаходзіліся гусі, бо ўжо пачаліся моцныя маразы. Ня лёгка давалася Гэрцыку гэтае абаграваньне, бо фінансавая база быласьціплаю, а кошт дроваў не такі ўжо малы.

Вось тут і ўмяшалася нячыстая сіла. Часта праходзячы каля кузьні свайго адзінаверца старога Юды, Гэрцык з заздрасьцю паглядаў на даволі вялікую кучу каменнага вуглю. У тым часе кавалі пачалі падменьваць драўляны вугаль каменным.

Аднаго разу вечарам Гэрцык вяртаючыся дамоў і мінаючы Юдаву кузьню са зьдзіўленьнем заўважыў, што вісячы замок на яе дзьвярах не замкнуты, а толькі вісіць на адным прабоі. Гэрцык затрымаўся, як укопаны ды пастаяўшы часіну ізноў спрабаваў ісьці далей, але ногі яго ня слухалі, а вочы насілу глядзелі на вугольле, якое як на злосьць асьветленае месячным сьвятлом віднелася праз недачыненыя дзьверы Заплюшчыўшы вочы й сьціскаючы пад пахай пусты мех, зь якім ён ніколі не раставаўся ў надзеі на нейкі «гэшэфт», Гэрцык зрабіў некалькі, як для яго выдавалася бесканечна доўгіх крокаў і ўжо быў каля вугальнай кучы. Нагробшы хуценька ў мех невялікую колькасьць вугольля, ён закінуў мех на плечы й амаль бягом сьціраваўся ў бок хаты, але пабег не па вуліцы, а па гародах нацянькі.

Позна вечарам, калі ўжо ўсе паснулі, ён выграб зь печы крыху жару ў кацёл, які ўжываўся для гэтае мэты, і прынёсшы ў кладоўку дадаў туды вугольля зь мяшка, а пазьней доўга дзьмухаў, пакуль яно не разгарэлася сінім агеньчыкам. Дзьмухаючы ён адчуў носам нейкі дзіўны пах, але не зьвярнуў на яго вялікай увагі, бо думаў што ён зьнікне, калі вугаль добра разгарыцца. Пастаяўшы хвіліну, ён вярнуўся ў хату й лёг адпачываць.

Гэрцыку аднак ня спалася, бо ён моцна праняўся зь вечара гэтым вугольлем, што нават забыўся пакарміць гусей. Ён устаў, накінуў на плечы стары лапсардак, а на ногі стаптаныя вайлакі ды сьціраваўся ў бок кладоўкі трымаючы ў руцэ запалены агарак сьвечкі. Адчыніўшы дзьверы ў кладоўку, ён стаў як слуп. Кладоўка была поўная нечага такога падобнага да дыму, але сіняватага колеру й дзіўнага

смуроду ад якога дзерла ў горле. А гусі?.. Ой мамалэ! Усе чатыры ляжалі покатам на падлозе. Хутка Гэрцыкаў лямант пачулі жонка й дзеці, якія прыбеглі ў каморку ды далучылі свае галасы да яго. Калі ўсё сьціхла Гэрцык агаласіў, што ляманты нічога не памогуць, бо трэба думаць як парадзіць бядзе й што рабіць цяпер са здохлымі гусямі. І хоць гусі загінулі не ад нейкай заразьлівай хваробы, але-ж ані шмальцу ані мяса зь іх нікому не прадасі, бо яны трафныя... Пасьля доўгіх нарадаў, пастаноўлена выкінуць падохлых гусей у густыя кусты алешніку й лазьняку ля ракі. Але перад гэтым, каб хоць крышку чагосьці ўратаваць пастаноўлена іх абскубаць зь пер'я й пуху, за што ўсё-ж можна будзе выручыць нейкую залатоўку. Неўзабаве была прынесеная з хаты большая лямпа й ўсе Гэрцыкі дружна ўзяліся за работу, якую скончылі ў няпоўную гадзіну. Працавалі вельмі хутка. Яшчэ далёка да досьвіткаў Гэрцык з жонкай і дваіх старэйшых хлапцоў пабраўшы «здохлых» і абскубаных гусей за шыі, павалаклі іх да ракі.

Калі разьвіднела, сяляне што ехалі на кірмаш (бо быў аўторак) пабачылі не далёка ад дарогі нейкіх дзіўных стварэньняў з голымі целамі й даўгімі шыямі, якія йшлі па сьнезе ў бок вуліцы крычучы надзвычай дзікімі й прарэзьлівымі галасамі. Калі двое з найбольш адважных сялян падыйшлі бліжэй, дык пабачылі, што гэта гусі, толькі чамусьці не парэзаныя, але толькі абскубаныя. Хутка сабраўся натоўп і была выклікана паліцыя. Знайшоўся й сьведка, які бачыў, як уначы Гэрцыкі нясьлі штосьці са свайго панадворку да ракі. У часе допытаў высьнілася, што гэта яны абскубалі гусей і выкінулі іх у кусты, але прысягалі, што гусі былі няжывыя.

Сёньня ўжо не памятаю якім спосабам, але нарэшце выясьнілася, што гусі папросту былі пачаднеўшы й выкінутыя на сьнег па нейкім часе прыйшлі да сябе. Гэрцыка арыштавалі, а гусей паліцыя тут-жа нейкім спосабам прыкончыла, каб скараціць іх мукі. Пазьней гэтых гусей прадалі жадаючым, штопраўда грошы зьвяртаючы Гэрцычысе. Здаецца, Антось — «неяк-жа будзе» быў купіўшы аж дзьве й вельмі-ж ужо хваліў іх смак.

Гэрцыка судзілі за зьдзек над жывёлай, але ўзяўшы пад увагу зьмякчаючыя абставіны, далі толькі шэсьць тыдняў арышту, якія ён ужо адседзеў перад судом, так што пасьля суду ён адразу вярнуўся дамоў. Праўда яшчэ ў часе допытаў, выплыла была на верх справа Юдавага вуглю, але той адразу-ж дараваў вінавайцу, пэўна з пагляду на супольную рэлігію.

Млынская вуліца была, так сказаць, яшчэ ведамая і з таго, што кожны год на Вадохрышча на рацэ пры мосьце адбывалася ўрачыстае сьвячэньне вады. Ужо за дзень а то й раней перад сьвятам местачкоўцы выразалі зь лёду й ставілі недалёка ад маста вялікі, на якіх 3½ - 4 мэтры крыж. Часамі малявалі яго ўбольшасьці ясна-сіняй фарбай а вакол абстаўлялі ялінкамі. Пасечанымі яловымі лапкамі пасыпалі даволі доўгі адрэзак вуліцы перад спускам да ракі. Пасьля ўрачыстай Багаслужбы ў царкве, фармаваўся Хрэсны ход, які перасякаючы наўскос Рынак ськіроўваўся на Млынскую вуліцу й далей да ракі. Калі на рацэ быў моцны лёд ды быў марозны дзень, дык малельнікі й наагул гледачы зыходзілі на яго. Калі-ж была адліга й лёд быў слабы, што здаралася вельмі рэдка, паліцыя прапускала на раку агранічаную колькасьць людзей, духавенства й хор. Усе апошнія муселі стаяць на вуліцы. Месцы на мосьце былі рэзарваваныя для афіцэраў КОП'у, мясцовых урадаўцаў і розных панкоў, якія прыходзілі на ўрачыстасьць напэўна не зь вялікай сымпатыі да «схізматыкаў», але папросту, каб прыпадабацца. У апошніх

гадох перад вайной, а дакладней у часе фабрыкаваньня так зв. «праваслаўных палякув», у царкву, а пазьней і на раку прыходзіў ганаровы аддзел жаўнераў і аркестра, якая ў часе Хрэснага ходу грала спэцыяльна завучаную мэлёдыю рэлігійнай песьні «Коль славен». Пазьней аркестра разам з жаўнерамі станавіліся з-заду публікі на мосьце. У часе калі сьвятар апускаў Крыж у ваду, жаўнеры давалі залп у паветра з вінтовак. Пасьля ўрачыстасьці на рацэ, афіцэры й некаторыя панкі былі запрошаныя на пачастунак да сьвятара.

Другім «здарэньнем», якое рэгулярна адбывалася на мосьце з году ў год, быў лёдаход у часе веснавой паводкі. Тады дзетвара, а нават вялікая колькасьць старэйшых праводзіла там амаль цэлыя дні. Калі толькі вясной лёд на рацэ пасінеў ды пачынаў трэскацца, успамінаны ўжо КОП прысылаў жаўнераў, якія ўзрывалі лёд вышэй маста на адлегласьці якіх 200-250 мэтраў. Рабілася гэта дзеля таго, што была небясьпека пашкоджаньня мосту. Напіраючыя вялікія крыгі лёду маглі пашкодзіць «быкі», (мураваныя падпоры маста), або вялікая крыга часамі ставала рабром у пралёце паміж быкамі затрымоўваючы ўсю ваду, якая магла ня толькі пашкодзіць, але разьвярнуць і зьнесьці ўвесь мост. Калі аснаўная маса лёду праходзіла, дык у далейшым яшчэ праз некалькі дзён і начэй на мосьце вартавала некалькі дужых дзцюкоў і мужчын, якія доўгімі баграмі сьціроўвалі крыгі якраз паміж «быкамі».

Будучы 10-ці гадовым хлапцом я меў уяўленьне, што на сьвеце няма больш нічога ўзрушаючага й больш цікавага чым вясеньні лёдаход. Аж сэрца хацела выскачыць ад уражаньня, калі аграмнястая некалькі дзесяткаў мэтраў даўжыні крыга раптам ўзьнімала адзін свой канец угару, а другім пагружалася ў глыбіню, каб за якую хвіліну вынырнуць на паверхню ўжо па другім боку маста. А шум вады чуцён быў на другім канцы мястэчка.

Некалькі дзесяткаў год пазьней, калі я наведваў Ніагару, то мне выдавалася, што я ізноў вярнуўся ў дзяцінства. Ведама, раку Мнюту сьмешна прыроўніваць да Ніагары, але ў гадох майго дзяцінства аб Ніагары я толькі чытаў, а Мнюту бачыў наяве.

Недалёка ад мосту жылі мае пазьнейшыя школьныя сябры, — браты Грыцы. У тыя часы я лічыў іх найшчасьлівейшымі хлапцамі на сьвеце, бо на лёдаход яны маглі глядзець уволю проста са свайго вакна, а я мусіў са сьлязамі выпрошваць у старэйшых дазволу пайсьці да ракі.

Таму што мястэчковая электроўня залежыла ад вадзяной турбіны, дык у часе лёдаходу мястэчка заставалася некалькі дзён без сьвятла.

А цяпер хачу расказаць аб яшчэ адным «відовішчы на рацэ Мнюце. У канцы 1930-х гадоў, калі польскія шавіністы былі захварэлі на «моцарствовосьць» і пачалі марыць ня толькі аб Польшчы «од можа до можа», але зусім сурёзна пачалі дамагацца заморскіх калёніяў, калі ня мыляюся, дык здаецца ў Анголе. З гэтай мэтай была створана «марская й каляніяльная ліга», да якой у дабравольна- прымусовым парадку павінны былі належыць якнайшырэйшыя кругі грамадзтва. Перадусім у абавязкавым парадку да яе павінны былі належыць усе дзяржаўныя й самаўрадавыя працаўнікі, уключаючы нават вясковых солтысаў, прыбіральшчыкаў сельскіх школаў ды ўласьнікаў дамоў, якія арандаваліся пад школы. Заданьнем усёй гэтай «арміі» было прапагаваць ідэі шырэйшага доступу да мора й калёніў, як у сярэдзіне дзяржавы, так і на міжнародным форуме, а таксама «дыхаючай ужо на ладан» Лігі нацыяў.

Ведама, што ані дробныя ўрадаўцы, ані школьныя прыбіральшчыкі ці іншыя дзядзькі ад якіх гміна арандавала простыя сялянскія хаты, каб «запаліць сьвятло навукі на нашых крэсах», не маглі мець ніякага ўплыву ані на прапаганду ўнутры дзяржавы, ані тымбольш на міжнародным груньце. Затое яны даткліва адчувалі існаваньне гэтай ды падобных да яе лігаў, дабраахвотных пазыкаў у часе выплаты ім заработкаў, калі з мізэрнай (часта не перавышаючай 50 злотых) сумы адлічвалася каля 20% на падобныя мерапрыемствы.

Вось-жа гэтая «марская й каляніяльная ліга» ў канцы 1930-х гадоў ладзіла на рацэ Мнюце пры мосьце так званае «сьвята мора». Сьвяткаваньні адбываліся напрыканцы ліпеня ў сыботнія ці нядзельныя вечары. На дзень перад сьвяткаваньнем на Млынскай вуліцы забараняўся ўвесь павозкавы рух. На вуліцы-ж, ладны адрэзак якой ішоў паралельна з ракой, ды на мосьце падгатаўляліся месцы для публікі. Звозіліся крэслы для большых паноў ды ладзіліся правізарычныя лаўкі з дошак і некалькі драўляных круглякоў для «простанародзьдзя». Для тых хто ня меў залатоўкі на білет уступу, адводзіўся абрывісты бок гары, якая аддзяляла Млынскую вуліцу ад Маставой. Тут былі бясплатныя «трэція месцы». Былі яшчэ й «чацьвёртыя» на левым, даволі забалочаным беразе Мнюты. Аматары бясплатных відовішчаў сядзелі не на лаўках, а на ўласных портках.

На рацэ-ж на вышыні казармаў падгатаўлялася пры чыннай дапамозе сапэраў цэлая флятыля лодак і плытоў удэкараваная на розныя спосабы. На мосьце з-заду крэслаў стаяла вайсковая аркестра. Ніжэй мосту, адразу за млыном знаходзіўся невялікі аддзел жаўнераў, заданьнем якога было пусканьне ракетаў і ладжаньне штучных агнёў.

У азначаны час у гару ўзьвівалася ракета й гэта было сыгналам пачатку відовішча. Асьветленая рознакаляровымі агнямі й ракетамі ўся раней падгатаваная флятылія памаленьку выплывала з-паза старых вербаў на крутым павароце ракі, званым «Мельнічкавым вiром» і даплыўшы да маста рабіла ізноў паварот у права ды вярталася назад. Было гэта «цікавае відовішча», калі перад захопленымі гледачамі памаленьку праплываў парослы пальмамі й трысьцём паўднёвы абток на якім працавалі прымітыўнымі прыладамі напаўголыя «нэгры». Або ізноў самалёт ці нейкі сярэднявечны замак ды ін.

Відовішча канчалася перад самым усходам сонца й паднечаны натоўп гледачоў памалу разыходзіўся, забываючыся нават на тое, што ў некаторых зь іх хутка адлічаць дзесятак або й больш злотых, лёгкадумна потым выдаваных на падобныя імпрэзы.

Апісаньне Млынскай вуліцы было-б няпоўным, каб я ня ўспомніў пра Прудавік. Дык вось ужо пад канец вуліцы мінуўшы гміну, у права ішла невялікая дарожка для пешаходаў, якая даходзячы да даволі крутой і высокай гары далей спускалася зыкзакамі ўніз ды ўпіралася ў салідна збудаваную кладку на руччы Прудавік. Гэты ручэй быў невялікі, але вельмі стромкі й не перасыхаў ніколі. Пачынаўся ён у забалочаным азерцы ў запушчаным фальварку Багданова, кілямэтраў 5-6 далей. Пачынаючы ад кладкі Прудавік і Мнюта тварылі прыгожую й абшэрную палянку ў форме трыкутніка пад назовам таксама Прудавік. Гэтая палянка была неафіцыяльным паркам мястачковай моладзі а таксама й старэйшых. Тут часта ладзіліся пікнікі, званыя ў тыя часы «маёўкамі». Старэйшыя таксама ладзілі тут абрадавыя пачастункі, якія называліся «ісьці пад жыта».

Пастараюся гэтыя абрады апісаць. Вось-жа на сьвята Юр'я, або калі не дава-

ляла пагода крыху пазьней, жанчыны зьбіраліся ў грамаду, бралі з сабой пасьвечаную на Вербніцу вярбу ды хварбаваныя Вялікодныя яйкі й пэўную колькасьць каўбас, сыраў, масла ды наагул еміны й ішлі на жытнія палеткі. Тут кожная на сваёй ніўцы ўтыкала ў зямлю вярбу й закопвала яйцо молячыся пры гэтым і просячы ў Бога ўраджаю. Мужчыны са свайго боку бралі з сабой напіткі й сабраўшыся таксама ў грамаду, нібы зьнянацку далучаліся да жанчын. Пасьля гэтага супольна наладжвалі бяседу. Часта некалькі такіх грамад спалучаліся ў адну й тады ўжо сапраўды была вясёлая бяседа на якой апрача пачастунку пяяліся абрадавыя ды народныя песьні. Найчасьцей гэта здаралася ў тыя гады калі жыта сеялася на «Замлыньні», — на палетках паложаных найбліжэй да Прудавіка. Аднак таму што ў Лужках была «цераспалосіца», дык дзеля гэтага жыта сеялася на тых самых палетках што трэці год,. Значыць, калі сёлета было жыта, то налета была ярына, далей папар на якім засявалася на восень ізноў жыта.

Калі жыта было на Замлыньні, то кождаму было ведама, што на Юр'я бяседа будзе ў Прудавіку. Прудавік знаходзіўся ў вельмі выгадным месцы, — далёка ад большых дарог, акружаны з двух бакоў даволі высокімі ўзгор'ямі, а з трэцяга ракой. Адным словам гэта было ідэальнае месца, дзе можна было й павесяліцца й перакусіць без перашкодаў.

Ручэй Прудавік ад сваіх вытокаў перасякаў абшар Багданова ды сенажаці й палеткі вёскі Путраніца. Далей працякаў пад мастом на дарозе Лужкі-Залесьсе, і ў жывых каскадах, якія нагадвалі малыя вадаспады, уліваўся ў Мнюту. З мастом на дарозе на Залесьсе, а мо крыху лявей ад яго, там дзе дарога адыходзіла ў права на вёску Ламачына, зьвязана было апавяданьне-легенда пра здані-страхі, у што верыла, а прынамсі не запярэчвала ім вялікая частка акалічных жыхароў. Паводле іх слоў, здані-страхі паказваліся найчасьцей у восенскія дажджлівыя ночы. Прычынай гэтаму было, што тут у вельмі даўныя часы знаходзіўся касьцёл спалены пазьней пяруном. У гэтым касьцеле быў маладзенькі ксёндз, які здрадзіў даную Богу прысягу, бо закахаўся ў прыгожай дачцы арандатара блізкага маёнтку Іпоўка. І вось закаханыя, каб усьцерагчыся ад непажаданых вачэй пачалі вызначаць спатканьні ў касьцеле. Але гэта трывала вельмі коратка, бо аднае ночы разбушавалася страшэнная бура зь пярунамі й агністы пярун дашчэнту разваліў касьцёл хаваючы пад разваліпамі абаіх грэшнікаў, а пажар даканаў ужо поўнага зьнішчэньня.

Пасьля гэтага здарэньня на тым месцы можна было спаткаць бурлівымі начамі ксяндза на казіных нагах, (на такіх нагах хадзілі сталыя жыхары пекла) які шукаў каля кустоў пэўна сваёй каханкі. Або зьяўлялася прыгожая дзяўчына з бледным тварам у доўгай да зямлі чорнай сукні, якая таксама чагосьці шукала й раз-па-раз выцірала вочы белай хусьцінкай. Як ксяндза так і дзяўчыну ня можна было чапаць або да іх гаварыць, бо ў праціўным выпадку яны перад тым, як зьнікнуць, выбухалі такім пякельным рогатам, што аж коні прысядалі на заднія ногі, а ў людзей мароз праходзіў пад скурай. Найлепшай абаронай ад гэтых праяваў была малітва й закляцьці.

Маючы каля 17-ці гадоў і я быў папаўся «ў пераплёт», каля гэтага маста. У Ламачыне жыла вельмі прыгожая дзяўчына Ліда, якая мне вельмі падабалася. Яна мела яшчэ дзьвюх старэйшых сясьцёр таксама ня брыдкіх дзяўчат. Дзеля гэтага ў іх хаце заўсёды зьбіралася моладзь, асабліва пасьля вечарынаў, якія часта адбываліся ў вёсцы. Тады кожную зь сясьцёр адводзіў дамоў хтосьці, хто чуў да яе сымпатыю. Гэтаму спрыяла яшчэ й тое, што іх бацька будучы ўдаўцом таксама вечарамі

рэдка сядзеў дома й вяртаўся даволі позна. Брат-жа Сяргей, хлапец гадоў 14-ці, ня меў нічога супраць, калі «кавалеры» заседжваліся крыху пазьней. Праўда невялікай перашкодай была найстарэйшая сястра Анна, якая бывала глянуўшы на вялікі сьценны гадзіньнік з паламанымі стрэлкамі безапэляцыйна заяўляла: Пара спаць! Гэта гучэла амаль як загад, і ніхто гэтаму не пратэставаў. Праўда, яе сымпатыя, сусед з наступнай хаты заўважаў, што гэта яго не датыча. Але тады Анна брала яго шапку й нахлабучыўшы яму на галаву жартаўліва папіхала ў бок дзьвярэй, так што [redacted] ён павінен быў скарыцца.

У той вечар вечарына, якая адбывалася ў суседняй хаце, разышлася неяк зараньня з прычыны капрысаў музыкі Астапкі. Недзе каля 10-ай гадз. усе тры сёстры са сваімі адаратарамі былі ўжо дома. Тымчасам навонкі шалела бура зь пярунумі. Хлапцы, якія падводзілі старэйшых сясьцёр Любу й Анну жылі зусім па суседзку. Ім ня трэба было задумвацца, як дабрацца дадому, а вось для мяне, дык сапраўды была гэта праблема. Праўда, Ліда пашаптаўшы нешта зь Сяргеем сказала, што я магу зь ім ісьці спаць на сена ў пуню. З двух прычынаў я ня мог згадзіцца на гэтую прапанову. Папершае, мая маці была-б страшэнна неспакойная, каб я не вярнуўся нанач дамоў, [redacted] падругое, што стары Юрка, бацька дзяўчат, трымаў іх вельмі коратка й я ня пэўны, ці абыйшлося-б дабром для іх а нават і для мяне той факт, каб ён назаўтра знайшоў мяне ў сваёй пуні.

Адным словам я наважыўся ісьці дадому. Тады Ліда прынесла доўгі белы зрэбны сяньнік і ўвярнуўшы адзі рог ў другі зрабіла зь яго нешта падобнае на «башлык» ды наклала мне на галаву. Прадоўжаньне гэтага башлыка досыць добра прыкрывала плечы й ногі, так што ад дажджу я быў больш-менш забясьпечаны. Падурніўшыся яшчэ некалькі хвілін у гэтым дзівосным уборы, я разьвітаўся й выйшаў на ганак. Вось тут у мяне хутка прамільгнула думка, што можа-б аднак лепш было наразіцца на гнеў старога Юркі, чым ісьці ў такую цемру й непагадзь дамоў. А цемра стаяла, як кажуць, «хоць ты вока выкалі». Навокал чуўся толькі шум ветру й дажджу ды недзе далёка ўспыхвалі займаючыя паўнеба маланкі.

Выйшаўшы на вуліцу я на хвіліну задумаўся ў якім кірунку ісьці: ці праз ламачынскае поле ў кірунку Прудавіка, дзе перайшоўшы ручэй па кладцы, падняцца на гару, а там недалёка ўжо й Млынская вуліца, ці ісьці на паўдзённы ўсход да залескай дарогі й там па роўным бруку, хоць і крышку далей і праз «ксяндзоўскі» мост таксама дабірацца дадому. Розум адразу-ж адкінуў першую мажлівасьць, бо па сьцежках ў Прудавіку нават у сухую пагоду ўдзень прайсьці з маімі нагамі былі пэўныя цяжкасьці. А што-ж казаць у такую ноч, дый яшчэ ў дождж!

На сэрцы было неяк моташна, але я павярнуў у бок маста, хоць пры кожнай успышцы маланкі мне трызьніліся розныя страхі.

Падыходзячы ўжо да самай галоўнай дарогі я ўздыхнуў павальней. З боку мястэчка нехта ехаў на возе, бо быў чутны выразны грукат колаў па бруку. Дзякуй Табе Божа! На крытычным месцы я буду не адзін, але й яшчэ нейкая жывая душа. Таму што дарога праходзіла па насыпе, я памаленьку вылез на яго й стаў каля ахароннага слупа, таму што едучы быў ужо на мосьце. Праз пару хвілінаў ён параўняўся са мной, але адначасова пачуўся храп спуджанага нечым каня. Гэта хіба мой белы сяньнік нагнаў яму страху. Разам з конскім храпам раздаўся дрыжачы ад страху голас: «В імень ойца й сына... зьгінь ты, прападзі нячыстая сіла!» Тут я ўжо крыкнуў: «Дзядзька ня бойся, гэта ня здань!..» Але дзе там. Дзядзька ўсё яшчэ молячыся галасьней, лупцаваў няшчаснага каня, а той ляцеў аж іскры сыпа-

ліся з бруку з-пад зялезных шынаў. Тады нейкі чорцік падсунуў мне думку, каб зарагатаць ды яшчэ больш настрашыць дзядзьку, але я зь месца адкінуў яе, як нягодную сумленнага чалавека, які цешыцца зь няшчасьця іншага, сам толькі што вылезшы зь яго. Выскачыўшы на пагорак, дзядзька яшчэ паддаў дыхту й гук яго-ных колаў раздаваўся пакуль хіба ён не пераехаў недалёкую вёску Путраніцу.

Назаўтра хлапцы з Путраніцы апавядалі пры царкве, што апошняе начы нейкі вар'ят, якраз апоўначы, праляцеў як маланка праз вёску на возе. Ды так хутка, што пераехаў падсьвінка ўдавы Андзілеўчыхі, якому нягледзячы на дождж і благую пагоду заманілася прайсьціся па вуліцы. Пры выезьдзе-ж зь вёскі, ён зрабіў занадта круты паварот на бакавую дарогу, што разваліў плот у гародчыку з кветкамі перад хатай вясковай прыгажуні Верачкі ды паламаў да шчэнту гэтыя кветкі. Трэба ведаць, што гэтыя кветкі былі гонарам уласьніцы й аб'ектам заздрасьці яе сяброўак.

(далей будзе.)

---

Leonard Podhorski-Okołów

## Białoruś

O, ty daleka, ty niezastępiona,
zielona moja ziemio białoruska.
Gdzieś tam, jak niegdyś, równin twoich łona
westchnieniem sennem wiatr wiosenny muska.

Gdzieś tam, nad modrą łąk zalanych tonią
w zadumie złotej iw szeregi drzemią,
skowronki drążąc srebrną ciszę dzwonią
i szpak polata nad zoraną ziemią.

Szeroko szumią sosny szmaragdowe,
w ogrodach miękko chwieją się jabłonie,
i świerk w takt wiatru gnie wyniosłą głowę
i na tle niebios złotem szyszek płonie.

I cicho stoi biały dom piętrowy
z werandą szklanną i z drewnianym gankiem,
z uchylonemi drzwiami do połowy,
gdzie muchy zwykły grzać się wczesnym rankiem.

A ponad domem — błękit roześmiany
topole prują wierzchołkami trzema.
A jeszcze wyżej — snują się bociany
i błyska obłok... Ale mnie tam niema!

Vierš hety üziaty sa zbornička vieršaŭ poety pad tym samym nazovam — "Białoruś" Warszawa, 1925 hod.

Аляксандра Саковіч (ЗША)

# НА ЗАХАД

Кажуць, не заўсёды чалавек свой ліхі лёс чуе. Так яно сталася й з Рымаю Лямеш. Думала яна, што дзень 23-га лютага 1930 году застанецца ў ейным жыцьці адным із шчасьлівейшых. Абярнулася інакшай.

У той дзень яна із сябрам сваім, Данілам Ждановічам, пайшлі на лыжах за горад. Надвор'е пазімоваму стаяла марознае; неба — высокае, чыстае; засьнежанае поле зіхацела ў сонцы. Маладым заўсёды хочацца падурэць, пажартаваць бяз дайпрычыны. Рыма з Данілам ішлі на выперадкі, хто шпарчэй на лыжах бегае. Калі Рыме ўдавалася вырвацца наперад, яна ў радасьці сьмяялася, на ўсю сілу крычала Данілу: "Я цябе перагнала! Ты мяне не дагоніш!" Яна не сумнявалася, што ён умомант нагоніць яе й у сваю чаргу крыкне: "Я цябе перагнаў!" Рэха іхных гульлівых галасоў далёка разыходзілася ў ціхай прасторы.

Рыма з Данілам ведаюць адзін аднаго зь першага курсу ўнівэрсытэту. Цяпер яны на апошнім. Высокі, стройны Даніла падабаецца дзяўчатам. А самой Рыме ён здаецца ня толькі найпрыгажэйшым, а й найздальнейшым спасярод ейных сяброў, студэнтаў-гісторыкаў. Не дарма-ж Данілаў рэфэрат на сэмінары зь беларускай гісторыі пра канцлера Льва Сапегу прафэсар Дуброўскі парадзіў аддаць да друку. Даніла цікавіцца даўняй парой гісторыі свайго народу, цікавіцца архівамі. Калі Рыме хочацца пабачыцца зь ім паза лекцыямі, яна ведае, дзе знайсьці яго. Ідзе ў Беларускі аддзел Дзяржаўнай бібліятэкі. Стуль ім у адну дарогу дадому. Адно Рыма ніколі не запрашае яго да сябе. Пасьля сьмерці маці яна жыве ў сям'і дзядзькі. Баіцца назаляць сваімі гасьцямі. Даніла пра гэта ведае.

Жартуючы, бегаючы на выперадкі, яны не агледзеліся, як узялося на вечар. Час вяртацца дадому. Пакінулі перагонкі ды пайшлі павольным лыжным крокам. Абодвым не хацелася расставацца.

— Мо зойдзем, пасядзім у мяне, — прапанаваў Даніла.

— Спазьнюся на вячэру. Цётка прабіраць будзе.

— Спозьнішся ці не, старая пабурчэць не праміне.

Не здагадваўся Даніла, што сяброўства зь ім не падабаецца сваяком Рымы. Ён — камсамолец. Яе перасьцерагаюць у хаце: "Не гавары ты зь ім адкрыта, не лапачы залішне. Мо ён падасланы, каб праз цябе ўсё пра сям'ю выпытаць..." Закаханая ў Данілу Рыма, але наказ памятае. Ні слоўкам перад ім не аказалася, што бацька ейны жывы, а не "загінуў бяз вестак на вайне", як пісала яна ў анкетах пры паступленьні на ўнівэрсытэт.

— Усё-ж трэба заскочыць, пакінуць у мяне на дварэ лыжы, — сказаў Даніла. — Я іх у нашым спартовым гуртку толькі да заўтрашняга раньня пазычыў.

Каб ня зьбіцца з дарогі, трапіць у горад з таго боку, дзе яны

жывуць, падаліся бліжэй да чыгуначных калеяў.

— Пазаўчора на закрытым камсамольскім сходзе мяне "прарабатывалі", — сказаў Даніла.

— За што?

— Называлі шкодным нацыянал-дэмакратам з камсамольскім білетам у кішэні.

— А як-жа твае сябры? Тыя, што разам з табою прыйшлі ў Менск із Заходняй Беларусі? Не баранілі?

— Ты што жартуеш? Хто адважыцца бараніць? Я сам ніколі не выступаў, калі б'юць іншых. Ад нас вымагаюць аднаго: сядзі, слухай, галасуй за прапанаваную рэзалюцыю, ніколі супраць. А калі падкопваюцца пад цябе самога, не пярэч. Згаджайся, што ты вінаваты, прасі прабачэньня...

— Ты перапрасіў?

— Спачатку прабаваў пярэчыць, бараніць сваё зацікаўленьне старой парой гісторыі Беларусі.

— Дапамагло?

— Дзе там. Усе чыста актывістыя пачалі таўчы мяне.

Нечакана ён запыніўся, стаў перад Рымай і голасам шмат грубейшым ад свайго пачаў імітаваць пад кагось: "Леў Сапега — буйны магнат. Ён прадстаўнік фэадальна-панскай клясы... Ён эксплятаваў тысячы душ сялянства й у жыцьці выразна праводзіў клясава-варожую пралетарыяту палітыку..." Гаворачы, Даніла пакінуў лыжныя палкі ў сьнезе. Ён уцягнуў галаву ў плечы, махаў рукамі, сьціскаў і расьціскаў кулакі. Рыма бачыла перад сабою постаць сакратара камсамольскай ячэйкі Копчыка, таксама студэнта-гісторыка, і заходзілася ад сьмеху.

— Я ня ведала, што ты такі дасканалы артысты.

Даніла яшчэ раз махнуў кулаком перад сабою, закончыў зь сілаю: "Таварышы! Сапега — злосны вораг пралетарыяту!"

— А-нэк-дот, — рагатала Рыма. — Ці здаў Копчык залікі зь гісторыі XV і XVI стагодзьдзяў?

— Гэтага яшчэ мала. Знайшліся й такія, якія папракнулі мяне, што на сьцяне ў маім пакоі вісіць партрэт Франьцішка Скарыны, "сярэднявяковага схалястыка", які пераклаў Біблію ў беларускую мову. Убівалі мне ў галаву, каб я пакінуў цікавіцца гнілой старыной, непатрэбнай камсамольцу-атэістаму.

— Якая бязглузьдзіца!

— Табе бязглузьдзіца, а я пакаяўся... "Сярэднявяковага схалястыка" абяцаўся зьняць із сьцяны... Болей ня губляць камсамольскага часу на такія "клясава-варожыя" фігуры, як Сапегі, Радзівілы, Алелькавічы...

Горыч, якая так гучэла ў Данілавым голасе, выклікала ў Рымы спачуцьцё, рабіла Данілу бліжэйшым. Недавер, насьцярожанасьць да яго, што да таго яна яшчэ крыху мела, зьніклі.

— Не праймайся, — прабавала яна суцешыць Данілу. — Ты не з свае волі зманіў, цябе прымусілі.

— Іначай: даўся запрэгчы, давайся й паганяць... Цяжка згадзіцца. Якая-б хлусьня ня была, вольная ці нявольная, яна робіць чалавека фальшывым і пустым.

Зоры ўзыйшлі на небе, і твар ягоны ў сьвятле зімняй начы выглядаў суровым, зьбялелым, сьветлашэрыя вочы — цёмнымі, амаль чорнымі.

Рыма разумела яго, верыла яму цяпер. Верыла ня толькі ягоным словам, верыла ягоным вачом, ягонаму твару. У іх сьвяціўся запраўдны боль. Што сказаць яму? Што ягоная праўда? Што й яна так думае? Гэта яшчэ болей паглыбіць ягонае незадаволеньне сабою. Схлусіць? Не. Цяпер, калі ён так шчыра адкрыў сваю душу, сваё расчараваньне, яна не магла хлусьліва суцяшаць яго. Яна не знаходзіла патрэбных словаў. А ён стаяў моўчкі, глядзеў перад сабою, нібы забыўся на ўсё: на Рыму, на нядаўнюю іхную радасьць і сьмех.

З боку горада загудзеў цягнік, абудзіў ад задумы Данілу:

— Відаць, цягнік на Койданава йдзе. Няўжо ўжо сёмая гадзіна?

Рыма занепакоілася:

— Пабеглі, а то я на вячэру спазьнюся.

Цягнік імчаўся насустрач ім. Калі наблізіўся, параўнаўся зь імі, яны сталі на момант. Над цягнікам у сіняве начнога неба клубіўся густы белы дым, дажджом раськідаліся чырвоныя іскры. Мігалі вагон за вагонам зь ярка асьветленымі вокнамі. Цягнік імчаўся на Захад. Рыма ўздыхнула: Захад — ейная тайная мара. Яна спачатку й Данілам зацікавілася, бо пачула, што ён прыйшоў зь Вільні. Верыла яна, што на Захадзе людзям вальней жывецца й вальней дыхаецца. Не здарма-ж не вярнуўся, застаўся там і ейны бацька.

... Аднойчы, калі Рыма вучылася яшчэ ў пэдагагічным тэхнікуме, пайшла яна зь сябрамі ў экскурсію на мяжу із Польшчаю, недалёка ад Заслаўя. Убачыла шырокую "нічыю дарогу". За дарогаю, праз вузкае поле — вуліцу сяла, з хатамі па адным баку. Была нядзеля, гадзіны дзьве пасьля палудня. На прызбах каля хатаў сядзелі людзі. З краю вуліцы хлапчукі ганялі пыжа. Яны першымі заўважылі студэнтаў, загаманілі, замахалі рукамі. Студэнты адгукнуліся на прывітаньне: старанными галасамі завялі "Люблю наш край". На песьню з хатаў павыходзілі людзі. Дзятва палезла на весьніцы, на агарожы, найбольш спрытныя паўзьбіраліся на дах. Кабеты хвартухамі пачалі выціраць сьлёзы. Посьпех узрушыў. Без перапыну прасьпявалі яшчэ "Слуцкіх ткачых". Спыніліся, каб перадыхнуць. І тады з таго боку жаночыя галасы высака й звонка зачалі "Ой, палын мой, палыночак". Спахмурнеў пагранічнік, што суправаджаў студэнтаў, прапанаваў не затрымлівацца, а йсьці далей уздоўж мяжы. Ці перапалохаўся ён, што адтуль засьпяваюць штосьці недазволенае?

За нічыёй дарогаю пацягнуўся лес. Рыма адстала ад сваіх сяброў. Із сяла ўсё яшчэ даносіліся гукі песьні. Яны хвалявалі, вабілі да сябе. Здалося, зусім лёгка перабегчы дарогу й апыніцца там, сярод сваіх людзей. Яшчэ імгненьне, і яна пабегла-б. У лесе, з-за кустоў, зьявілася постаць польскага пагранічніка з стрэльбаю. Рыма апрытом-

нела. Сочаць... Ісьці туды няма як... Пакуль няма як...

— Цягнік паймчаў на Захад, — сказала Рыма Данілу.

— Туды, адкуль я, дурны, прыйшоў.

— Навошта кажаш так востра?

— Прызнайся, што ты ня раз сама так думала.

— Не, не, ніколі... Адно дзівілася, чаму вы, заходнікі... — Яна сумелася на момант, Даніла закончыў за яе:

— Прыцягнуліся сюды. Самі сабе на шыю пятлю зрабілі...

Рыма не пасьпела нічога сказаць, бо ён узбуджана працягваў:

— Бо ты жыцьця ў Заходняй Беларусі ня ведаеш. Там палякі не жадаюць зразумець нашых нацыянальных пачуцьцяў. Мы, беларусы, абураемся, а Савецкі Саюз выкарыстоўвае нашае абурэньне так, шт опалякі амаль кожнага беларуса ўважаюць калі не за камуністага, то за сымпатыка камунізму.

— Відаць, не без падставы: і ты-ж камсамолец.

— Там быў... Нават моцна перакананым быў, пакуль ня прыйшоў сюды, не разгледзіўся. Паліць мяне мой камсамольскі білет. Ня ведаю, як доўга маё сумленьне дазволіць заставацца зь ім.

— Калі ты адмовішся ад яго, ты зруйнуеш сваю будучыню, асьпірантуры напэўна не пабачыш.

— Я ня зьбіраюся адмаўляцца. Пакінуў мары пра асьпірантуру.

— Што-ж ты зьбіраешся рабіць?

— Зьнікнуць.

— Зьнікнуць? — не зразумела яго Рыма.

— Пацярпець яшчэ зь месяцаў пяць, дачакацца ўнівэрсытэцкага дыплёму, а тады зьнікнуць з савецкага небасхілу.

— Куды?

— На Захад.

Сэрца ў Рыміных грудзёх закалацілася: яна сама-ж бесперастанна трызьніць, каб уцячы, апынуцца ў вольным сьвеце:

— Некалі я таксама пайду туды.

— Няўжо? Адважышся? Не пабаішся?

Крыўдаю ўспыхнула ў галаве думка: "Ён ня кліча йсьці разам, адно дзівіцца".

— Я пажартавала, — пастаралася як мага бясклопатней кінуць у ягоны бок і стралой ірванулася на лыжах наперад.

— Пачакай, не бяжы так шпарка, дай пагаворым, — прабаваў затрымаць яе Даніла.

— Іншым разам.

Толькі перад хатаю, дзе жыў Даніла, яна спынілася, аддала яму лыжы. Ён панёс іх у свой двор, а яна засталася чакаць яго на вуліцы. Пайшла павольна па ходніку ў кірунку свае хаты. Глядзела ў зорнае неба, на дамы, нібы прыбраныя ў белы чысты сьнег.

Вярнуўся Даніла. Яна сказала яму:

— Якая прыгожая сьветлая ноч!

Ён нічога не адказаў. Яна глянула на яго. Твар ягоны выглядаў незадаволеным. Спыталася:

— Ты што злуешся?

— Чаму ты сьпяшаешся, ня хочаш выслухаць мяне?

— Я павінна на час быць у хаце.

— Маленькая дзяўчынка, баіцца, што цётка паставіць у кут, а мо дзядзька перацягне дзягаю, — пачаў ён дражніць яе. — Колькі табе гадкоў? Дзесяць?

— Ты забываешся, што я жыву не ў бацькоў, а на ласцы, — сказала яна вельмі ціха й узьняла на яго вочы.

Ён узяў абедзьве ейныя рукі ў свае, прытуліў да сваіх грудзей і трымаў іх так моцна, што яна не магла йсьці далей. Заставалася стаяць зь ім. Голас ягоны быў вельмі мяккі, калі ён сказаў:

— Я кахаю цябе, Рыма.

І тады яна забылася, што трэба сьпяшацца дадому. Абодва яны ня чулі, што ўзьняўся вецер; на клёне, пад якім яны стаялі, закалыхалася голае гольле; каля чыйгось ганку скавыча, просіцца ў хату сабака. А потым ішлі цесна прытуленыя адзін да аднаго, трымаючыся за рукі. Шчыра, бяз утойваньня, Рыма прызналася:

— Калі сёньня імчаўся міма нас цягнік, я марыла пра Захад; думала, якое шчасьце было-б пайсьці туды... Там мой бацька.

— Бацька? — зьдзівіўся Даніла. Ён, як і ўсе ўва ўнівэрсытэце, ўважаў Рыму за сірату.

— Даражэнькі, ня крыўдуй, што я раней не казала табе праўды. Мой тата — былы афіцэр. У вайну ён трапіў у палон, а пасьля рэвалюцыі не захацеў вяртацца дадому. Каб прынялі вучыцца на ўнівэрсытэт, я мусіла хавацца з гэтым ад усіх.

— Раскажы мне болей пра твайго бацьку, — папрасіў Даніла.

І перад ейным домам яны запыніліся зноў. Ён нахіліўся да яе, яна даверліва прыпала да ягоных вуснаў сваімі. Ён спытаўся:

— Пойдзеш са мною? Не перадумаеш?

— Ніколі, ніколі не перадумаю... Што-б ні здарылася, ведай... пакуль мы абодва жывыя, я буду з табою.

— Тады мая радасьць поўная. Сёньня найлепшы дзень у маім жыцьці.

— Наш найлепшы дзень, мой любы.

Яшчэ раз праз вакно свайго пакою сьпяшалася Рыма зірнуць на Данілу. Глядзела, як ён хутка й лёгка крочыў уздоўж засьнежанае вуліцы. У той момант ёй ня прыходзіла у галаў, што ў сваім жыцьці яна бачыць яго апошні раз. Не прадчула бяды. Наадварот: яе перапаўняла радасьць. Ні сумліву, ні страху, толькі радасьць. Яна абяцалася Данілу трымаць іхнюю пастанову ўцёкаў у таямніцы. Гэта ня цяжка ёй. Пасьля сьмерці маці, ужо амаль шэсьць гадоў яна жыве ў сям'і дзядзькі, і разам з тым паза ёю. Каб хоць аднойчы дзядзька ці цётка зь ёй чымсь моцна пацешыліся ці абурыліся, ці пераняліся. У іхным жыцьці для яе ня шмат часу, ня шмат месца... Яе проста церпяць, бо бяз іх ёй няма куды дзецца. І за вячэраю радасьць усё яшчэ не адыходзіла ад Рымы, сьвяцілася на паружавелым ад марозу твары, у сініх бліскучых вачох, у шчасьлівай усьмешцы

чырвоных вуснаў. Дзядзька нават заўважыў ейны настрой. Запытаўся:

— Што гэта ты ўся зіхаціш?

— Новае захапленьне, — уставіла сваё цётка.

Ні пытаньне дзядзькі, ні жарт цёткі не зьбянтэжылі, не насьцеражылі Рымы. Яна ўсё яшчэ адчувала сябе дзіўна ўзьнёслай. І першы раз за ўсе гады, што яна жыла разам зь імі, яна шчыра, не задумваючыся, адказала:

— Я шчасьлівая.

Старыя пераглянуліся. Але Рыма ня дбала. Ёй было зусім абыякава, што яны падумалі. Яна была перакананай, што хутка яна будзе бяз іх. У сваім сэрцы адчула нат жаль да іх: яна стане вольнай, будзе з бацькам. А яны? Запалоханыя, заўсёды насьцярожаныя, старыя... Ці дачакаюцца яны за сваё жыцьцё волі?

Калі Рыма пасьля вячэры паднялася з-за стала, каб ісьці да сябе ў пакой, дзядзька затрымаў яе:

— Хто гэта сёньня праважаў цябе да хаты?

— Даніла Ждановіч.

— Выпадкам праз вакно цётка Арына бачыла пяшчотную сцэну паміж ім і табою.

Рыма ўсьміхнулася да цёткі. Тая на ўсьмешку не адказала.

— Я разьвітвалася зь ім.

— Ён табе не нарачоны, — сказала цётка.

— Мы кахаем адзн аднаго.

Твар дзядзькі спахмурнеў:

— Глядзі, не нарабі нам клопату з гэтым камсамольцам.

* *
*

На наступны дзень Даніла не зьявіўся на лекцыі. Ад рана Рыма ня дужа хвалявалася. Дапускала, што зайшоў у бібліятэку. Там засеў зь якойсь цікавай для яго кніжкай. Гэта часамі зь ім здаралася. У часе перапынку пачула ад сяброў:

— Пяцёх хлапцоў арыштавалі ўначы.

— Каго?

Пералічалі прозьвішчы арыштаваных студэнтаў. Сярод іх Ждановіча ня згадвалі.

Міналі гадзіны. Надзея, што Даніла позьніцца зьнікла. Рыма не магла змусіць сябе рабіць запісы лекцыі, з увагаю слухаць лектара. Думкі круціліся каля Данілы: "Што сталася? Чаму няма яго ўва ўнівэрсытэце?" У абед зазірнула ў студэнцкую сталоўку, у бібліятэку. Няма... Палохаючыя думкі пачалі даймаць мацней: "Даніла арыштаваны таксама". І тут-жа намагалася супакоіць сябе: "Ня трэба бедаваць прадчасна... Трэба напэўна даведацца".

Яна не вярнулася на заняткі, пайшла да Данілы. Пайшла, разам зь ёю, і трывога: "Што ты будзеш рабіць, калі даведаешся, што ён арыштаваны? Панясу яму перадачу... А калі яго засудзяць на вы-

гнаньне? Паеду за ім. На ўсход? Далёка ад Беларусі? Паеду. А калі табе не дазволяць? Калі Данілу зьнішчаць? Тады я ўцяку на Захад і там раскажу пра яго". Яна амаль бегла, каб хутчэй дайсьці, хутчэй даведацца.

На дварэ, каля ганку, убачыла абапёртыя аб сьцяну хаты дзьве пары лыжаў. Даніла пакінуў іх тут учора. Мільганула надзея: "Мо ўсё абыйдзецца добра". Узыйшла на ганак. Перад тым, як пастукацца ў дзьверы, запынілася на часінку, каб сьцішыць хваляваньне, зрабіць свой твар спакойным. Калі з Данілам нічога благога ня здарылася, ён не праміне пасьмяяцца, назваць яе панікёрам.

Дзьверы адчыніла гаспадыня хаты. Рыма забылася сказаць "Добры дзень!" Адразу запыталася:

— Ці Даніла дома?

Кабета жаласьліва зірнула на яе:

— Забралі твайго Данілку, дачушка.

— Калі?

— Учора, а дзясятай гадзіне ўвечары.

Няпэўнасьць скончылася. Трэба было вяртацца дадому, трэба было спаткацца із сваімі старымі, трэба было жыць.

Жыць без Данілы?

Ідучы, яна параўналася з клёнам, пад якім яшчэ ўчора стаялі ўдвох. Успомніла радасьць у ягоных вачох... Успомніла ягоныя моцныя рукі. І боль, што закраўся ў сэрца ад самага раньня, паглыбіўся, разбух... Усё вакол яе зьнікла. Зь ёю застаўся толькі боль. Ён душыў, не даваў ёй дыхаць... Каб ня ўпасьці, яна абапёрлася аб клён.

## САМА

Іна малюе...

Вось дом. На ім вокны й комін. З аднаго боку дому — высокае зялёнае дрэва, а побач яго — ня меншая ад дрэва чырвоная кветка. Пад домам, праз цэлы аркуш паперы — чорная рыса. Гэта — ходнік. На ім із растапыранымі рукамі, адзін ля аднаго, тры чалавечкі: тата, мама, дзіця... Малюнак гатовы. Усё! Няма больш чаго дадаць.

Ёй хочацца малюнкам пахваліцца, але яна сама. Дзьверы із пакою ў калідор на замку.

Іна глядзіць на вакно. Яе вабіць гэты шырокі сьветлы квадрат у сьцяне, як птушку неба. Ды мама, ідучы на працу, заўсёды наказвае: "Ня лезь на вакно. Шыбы слабыя, можашываліцца з другога паверху й забіцца". Іна добра памятае наказ, але ёй прыходзіць думка, што праз вакно яна можа паказаць малюнак тату. Ня так даўно мама атрымала татаў ліст. Кожнае начы дзесь далёка-далёка тата глядзіць на самую бліскучую зорку ў небе й думае пра Іну. І цяпер штовечара яны разам із мамай падыходзяць да вакна, глядзяць на тую самую зорку й кажуць тату: "Дабранач!"

Іна падцягвае крэсла да вакна, карабкаецца на яго. Стуль лезе на

падаконьнік, становіцца на ўвесь рост, узьнімае малюнак высака над галавою, бліжэй да неба, каб тата лепей бачыў.

— Тата! — гукае яна. — Глядзі, як я намалявала!..

... Іна яшчэ памятае тату. Яна памятае ноч, калі мама разбудзіла яе, узяла із ложка, захутала ў коўдру й пайшла зь ёю да канапы, дзе сядзеў тата. Мама пасадзіла яму на рукі Іну й сама села побач. У пакоі было вельмі сьветла, бо гарэлі ўсе лямпы: і над вялікім сталом, і над пісьмовым, і на сьцяне каля канапы. У пакоі чамусьці былі чужыя дзядзькі. Адзін із іх сядзеў пры пісьмовым стале й, выцягнуўшы шуфляду, рыўся ў ёй. Другі пераглядаў кніжкі на паліцах. Іхныя шынелі й шапкі з чырвонымі абадкамі ляжалі на сьпінках крэслаў. Сусед, дзядзька Сымон, таксама быў у пакоі. Ён сядзеў ля вялікага стала, апусьціўшы голаў. Іна добра ведае, што ні на пісьмовым стале, ні на палічках ня можна нічога кранаць. Яна не разуее, чаму тата дазволіў рыцца на іх чужым. "А гэта што за дзядзькі?" — пытаецца яна голасна. Але ні тата, ні мама нічога не адказваюць. Тата толькі бліжэй прытуляе яе да сябе й цалуе... У тую ноч, разам із дзядзькамі, пайшоў і тата... Мама плакала...

На дварэ шарэе. Хутка з працы прыйдзе мама. Іна садзіцца на падаконьнік і спускае ногі, каб зьлезьці. Ёй робіцца страшна. Ля сьцяны насупраць вакна — ложак і вялікая шафа. Кут за шафай цяпер зрабіўся чорным. Іне здаецца, што там хтосьці стаіўся. Яна падбірае пад сябе ногі й бліжэй прыціскаецца да халоднае шыбы. Сядзіць нейкі час скурчыўшыся, баючыся зварухнуцца.

Запалілася сьвятло на першым паверсе, дзе жыве Рая, і яснай паласой лягло на пачарнелы перад домам сьнег. У Раі Іна ўчора бавілася. Раіна мама нарадзіла дзяўчынку-сястрычку, а ўчора яны купалі яе. У дзяўчынкі такія малюсенькія рукі й ногі. Яна пляскала імі па вадзе й штось весела гукала. Цёплая вада пырскала із місы на падлогу, на Раю й Іну, бо яны стаялі блізка. Ім было так сьмешна! А пазьней Раіна мама дала Іне нават крыху патрымаць малую. Яна сядзела зь ёю на канапе. Ад захутанай у ружовую коўдрачку дзяўчынкі йшло цяпло па Ініных руках, па ўсім целе... І цяпер радасны ўспамін саграває: "Каб у мяне была такая сястрычка", — марыць яна.

Зусім зьмерклася. Над брамаю пры ўваходзе на двор, на вуліцы засьвяціліся електрычныя ліхтары. Калі зьвініць з вуліцы трамвай, сіняваты пук сьвятла ўспыхвае над дратамі. Іна ня зводзіць вачэй ад брамы, чакае на маму. Нарэшце, яна бачыць яе. Мама ўвайшла на двор, глядзіць на вакно, махае рукою. Іна адразу забываецца на ўсе страхі. Яна не баіцца зьлезьці з вакна, не баіцца бегчы да дзьвярэй насустрач маме.

— Мая мама, мая мама дома, — голасна сьпявае яна ў радасьці.

Вячэрнія шчасьлівыя гадзіны мінаюць хутка. А восьмай гадзіне яны кажуць тату "Дабранач", і мама кладзе Іну ў ложак. Гасіць вялікую лямпу й запальвае іншую пад зялёнаю засткаю на пісьмовым стале. На стале стос вучнёўскіх сшыткоў. У пакоі ціха. Толькі зрэдку шалясьцяць сшыткі, якія пераглядае мама. Іна заплюшчвае



Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні ў 1930-ых гадох.



Хор Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні пад кіраўніцтвам Р. Шырмы.

вочы, але ёй ня сьпіцца.

— Мама!

— Што мая любая?

— У Раі сястрычка.

— Я ведаю.

— Мы яе купалі.

— Ты мне казала.

— Я табе казала... Яна такая маленькая-маленькая... Сьмешненькая...

— Сьпі, Іначка, ужо позна.

Іна змаўкае. У сваім ложку, нават у паўцемені пакою, яна адчувае сябе добра, яе не палохаюць цёмныя куты, бо тут мама. А заўтра? Заўтра мама ізноў пойдзе на працу, а яна застанецца сама.

— Мама, я хачу мець маленькую сястрычку.

Штось вельмі хвалюючае, ня проста жаданьне паразмаўляць, пачулася ў Іінын голасе. Мама кідае пераглядаць сшыткі, ідзе да Іны, схіляецца над ёю, гладзіць па галоўцы, цалуе. Іна ахоплівае шыю маці рукамі.

— Я хачу мець маленькую сястрычку.

— У нас няма каму малую глядзець.

Іна ўсхопліваецца на ногі.

— Я, я буду яе глядзець!.. Я буду... трымаць яе на руках, калі ты пойдзеш на працу...

Мама бярэ Іну з ложка, садзіць сабе на калены, туліць да сябе, ласкава тлумачыць, што з маленькай сястрычкай мама сама павінна быць дома, а ёй няма як. Яна мусіць працаваць, бо ім трэба грошы, каб жыць, каб паслаць тату пачку.

Іна пераканана.

— Тады, — просіць яна, — вырадзі мне хоць котку.

## З КІМ ЯНА?

Кастусь Беразоўскі йшоў здалёк. У лесе яшчэ ляжаў сьнег, і праз сосны ўверсе сьвяцілася халоднае сіняе неба. Ён адчуў зморанасьць ува ўсім целе, тую зморанасьць, якую адчувае нават вельмі здаровы чалавек пасьля цяжкой доўгай дарогі.

З узьлесься Кастусь убачыў мястэчка Мір. Сонца ўжо было на заходзе, але ён не сьпяшаўся выйсьці зь лесу. Да цямна яму ляпей было перачакаць.

У Міры жылі ягоныя бацькі. Хацеў пабачыцца зь імі й ведаў, што ў бацькоўскім доме ён можа мець колькі гадзінаў спакойнага сну й адпачынку. Усяго колькі гадзінаў, бо тут ягонае падарожжа не канчалася.

Мястэчка Мір невялікае ды яшчэ напалову зьнішчанае вайною. Але ў ім раённы цэнтар. Сюды пасьля вайны наехалі савецкія ўрадоўцы, міліцыя, МДБ. Спаткацца з МДБ для Кастуся было небясь-

печным, асабліва пасьля падзеяў у Горадні.

Сумныя падзеі. Колькі тыдняў таму яго, як зьвязнога, маёр Верас паслаў у Вільню. Калі вярнуўся назад, ён мала каго із сваіх застаў. Маёр Верас і большасьць зь ягонае групы, што належала да падземнай беларускай арганізацыі, была арыштаванай. Аб гэтым Кастусь даведаўся ад свайго старэйшага сябры, капітана Стаховіча, які пасьля арыштаў узначаліў групу.

— Хто-ж іх выдаў? — спытаўся Стаховіча Кастусь.

— Думаем, дзяўчына, што была пры Верасе для лучнасьці із польскімі падземцамі. Падобна, яе да нас МДБ падаслала.

— Ёсьць доказ на гэта?

— Часткова. Арыштаваныя толькі тыя, хто спаткаўся зь ёю ў Вераса, а яна й цяпер шпацыруе па вуліцах вольнай. Я да яе, брат, заўсёды недавер меў і стараўся як мага далей абыйсьці.

— Дык яна цябе ня ведае?

— Не. А цябе?

— Як аблупленага. Я-ж яе нашай лічыў. Пару разоў нават у кіно звадзіў.

— Ой, Кастусь, і тут ты пасьпеў, — пачаў кпіць зь яго Стаховіч, — згубяць цябе дзеўкі, хлопча. На бяду ты ўрадзіўся даверлівым. Кіне на цябе вокам дзяўчына, а ты й пабег за ёю. Ой, сьцеражыся дзяўчатаў. Глядзі, нават дасьведчаны Верас праз дзяўчыну гіне.

— Каб цяпер яна трапіла ў мае рукі, дык я-б яе добра правучыў, — сьціснуў кулакі Кастусь.

— Не сьпяшайся, — спыніў яго Стаховіч. — На ўсё прыйдзе свой час. Гарачнасьць, выбуховасьць — гэта не адважнасьць. Часта яны шкодзяць у змаганьні. Выйграе той, хто валодае сабою. І табе асабліва варта аб гэтым памятаць.

Кастусю было небясьпечна заставацца ў Горадні. У той-жа дзень Стаховіч паслаў яго назад на Вільню. Ішоў ён на пяхоту. Па дарозе наважыў зьвярнуць у роднае мястэчка, каб пабачыцца з бацькамі. Зь імі ён амаль год ня бачыўся.

Калі пачало зьмяркацца, ён выйшаў зь лесу й пайшоў напрасткі. Цёмнымі ляжалі навокал палі. Толькі дзе-ні-дзе на іх шарэлі неадталыя пласты сьнегу. Пасьля заходу сонца падмерзла, пад нагамі трашчала, але йсьці было цяжка. Ногі гразьлі.

Зусім зьмерклася, калі прыйшоў у Мір. Ішоў насьцярожаны, стараючыся ахапіць усё сваім поглядам. Пад рукою ў кішэні кажушка ляжаў рэвальвэр.

На вуліцах было ціха, шэра, бязьлюдна. З вокнаў хатаў сьвяціліся цьмяныя агеньчыкі ды шызыя дымкі калыхаліся над чорнымі комінамі.

"Час на вячэру", — падумаў Кастусь. Ён добра ўяўляў сабе гэты момант, калі ў кожнай хаце, у куце за сталом, уся сям'я зьбіраецца на вячэру. Безьліч разоў хадзіў ён па гэтых вулачках. Гэта быў ягоны родны кут, адчуваў ён сябе ўжо дома. У грудзёх рабілася лёгка, цёпла. Цёпла ад прадчуваньня радасьці спатканьня з бацькамі.

Ён амаль ня чуў зморанасьці, калі ўбачыў хату бацькоў. Вокны з кухні сьвяціліся зырка.

Кастусь спыніўся. "Акуль у іх электрычнасьць?.. Мо' няма ўжо іх тут?.. Хто ў хаце?.. Ці йсьці?.." — насьцярожыўся ён.

Але ў хаце ягоныя крокі, відаць, пачулі, хтось адхінуў фіранку й на момант чыйсьці цень засланіў сьвятло. Яго ўбачылі.

"Пайду", — наважыўся Кастусь і ўзьбег па сходках ганку. Калі перайшоў сенцы, пастукаў і адчыніў дзьверы.

Пасьля цемені вуліцы войстрае электрычнае сьвятло няпрыемна разанула ягоныя вочы. Электрычная лямпка без усялякае засткі зьвісала із столі над сталом і асьвятляла кухню роўным халодным сьвятлом.

— Добры вечар, — сказаў Кастусь ды зьняў шапку. Ён стаяў ля парогу — высокі, худы, змучаны, із засіверaным тварам. Боты ў гразі.

Агледзеў пакой. Бацькоў ня было. Вочы на момант затрымаліся на людзях. Іх было траіх: мужчына й дзьве жанчыны. Адну зь іх, маладую, ён ведаў. Некалі студэнтам спатыкаў яе ў Нясьвіжы.

"Марыся Гурыха... Што яна тут робіць?" — падумаў ён.

Мужчына сядзеў за сталом і чытаў газэту. Убачыўшы Кастуся, кінуў чытаць. Ён не адказваў на Кастусёвае прывітаньне, але й не адводзіў ад яго сваіх дапытлівых вачэй.

Каля парогу, на каміне, гатавала вячэру старэйшая кабета, відаць, жонка мужчыны за сталом.

— Добры вечар, — сказала яна.

Тут-жа насупраць печкі, на лаўцы, што цягнулася праз усю кухню ўздоўж сьцяны, сядзела Марыся. Яна была ў кажушку, накінутым на плечы. Чорны каўнер кажушка выгодна адцяняў яе прыгожы малады твар, кароткія ільняныя валасы, мяккія й хвалістыя. Калі Кастусь увайшоў у хату, яна гаварыла, але спынілася на паўслове. Яна адказала яму на прывітаньне й цяпер таксама ўважліва глядзела на яго. Ён быў пэўны, што яна пазнала яго, хоць ніводным рухам ня выявіла гэтага.

Кастусь адчуваў,што трэба штось сказаць, ды не знаходзіў слоў.

Першым загаварыў мужчына.

— Чым можам памагчы? — сказаў ён парасейску.

— Я прыйшоў у свой дом, наведаць бацькоў, — адказаў Кастусь. Ён стараўся гаварыць спакойна, ветліва й нават усьміхнуўся. У нутры-ж ён зусім ня ўсьміхаўся. Спатканьне з чалавекам, якога бачыў перад сабою, яму дабра ня зычыла.

Гэта быў старэйшы мужчына — вайсковец. Цяжкія абвіслыя плечы, выпучаныя шырокія грудзі з ордэнам чырвонай зоркі на левым баку. На каўняры гімнасьцёркі вайсковыя абшыўкі.

"Добра, што ня МДБ" — падумаў Кастусь. — Мо нічога пра мяне ня ведае й разыйдземся падабру". — Ён стараўся стрымаць сваё нутраное ўзрушэньне. Яму не падабаўся, яго дражніў гэты чырвоны скуласты твар, з маленькім перабітым носам, з высунутымі наперад сківіцамі. Асабліва разілі вочы — халодныя, сьветлыя, як у драпеж-

ніка. Кастусь амаль фізычна адчуваў на сабе іхны позірк.

— Значыцца, сын прыйшоў пабачыць бацькоў, — сказаў вайсковец.

— Сядайце, — сказала кабета й паказала Кастусю на лаву.

Кастусь сеў недалёка ад Марысі й палажыў каля сябе шапку. Марыся пасунулася далей ад яго. "Спалохалася. Ня прызнаецца", — падумаў ён.

— Вы з дарогі. Мо здымеце кажух і павячэраеце з намі, — сказала кабета.

Кастусю ў яе голасе пачулася больш холаду, чымся дабраты.

— Не, дзякую, я не галодны, — адказаў ён.

Вайсковец прыкурыў цыгарэту й кінуў запалку на падлогу. Ён вылез з-за стала й стаў каля печкі, насупраць Кастуся, высокі, грубы.

— Адкуль вы йдзеце? — спытаўся ён.

— Дзе мае бацькі? — замест адказу запытаўся Кастусь.

— Высланыя.

— Даўно?

— Месяцы тры таму.

— Куды?

— Аб гэтым вы можаце даведацца ў раённым аддзеле МДБ.

Ізноў маўчалі. Кастусь не падымаў вачэй, бо ведаў, што ў іх вельмі выразна адбіта пачуцьцё нянавісьці. "Трэба адыходзіць, а то ня вытрымаю — выбухну", — думаў ён. Узяў шапку й хацеў устаць, але вайсковец затрымаў яго.

— Цяпер ізноў пра вас. Адкуль вы йдзеце? — сказаў ён.

— Зь Менску.

— Добра, што ня з Горадні.

Кастусь маўчаў.

— Вы чулі аб падзеях у Горадні? — запытаўся вайсковец.

Кастусь маўчаў. Ён бачыў перад сабою шырака расстаўленыя цяжкія ногі ў высокіх выглянцаваных ботах, тоўстыя рукі з кароткімі, як абрубкі, пальцамі. У аднэй руцэ была цыгарэта, другая ляжала на кабуры з рэвальвэрам. Гэтая рука, апушчаная на кабуру, маячыла перад ім як пагроза.

Вайсковец працягваў: у Горадні выкрыта арганізацыя беларускіх фанатыкаў. Ім захацелася вольнай і незалежнай роднай зямлі. Яны атрымаюць па заслугах. Пару мэтраў на ўсіх разам у калектыўнае вечнае валоданьне.

Кастусь маўчаў. Твар ягоны пабялеў да вуснаў. Ён так сьціснуў зубы, што было балюча.

Вайсковец курыў, бясклопатна выпускаючы дым, і глядзеў на напружаны твар Кастуся. Гіранічная ўсьмешка зьявілася на ягоных вуснах.

— Вы што ж, зь Менску пехатою? — сказаў ён і паказаў на запэцканыя гразьзю боты Кастуся.

— Не, толькі ад Стоўбцаў, — ціхім хрыплым голасам адказаў Кастусь. Голас яго ня слухаўся. У сярэдзіне гнеў рос, ціснуў грудзі,

пякуча біўся ў мазгох.

— Ага, значыцца, да Стоўбцаў цягніком. Добра. Што-ж ў Менску робіце?

— Вучуся.

— Дзе?

— У Мэдычным Інстытуце.

— Цікава. Сярод навучальнага году ўздумалі наведаць бацькоў. Відаць, мала цікавіцеся сваімі акадэмічнымі посьпехамі. Цікава.

Кастусь маўчаў. Ён усё яшчэ ня ўзьнімаў сваіх вачэй.

— Прад'явеце мне вашыя дакуманты, — злосна загадаў вайсковец.

— Калі ласка, — сказаў Кастусь.

Ён павольна ўстаў і апусьціў руку ў кішэню кажушка. Цяпер яны стаялі адзін супроць другога, твар у твар. Іхныя вочы скрыжаваліся. На момант зьдзіўленьне, заскочанасьць адбілася на твары вайскоўца. Толькі цяпер першы раз ён спаткаў маладыя дзёрзкія, чорныя ад гневу й нянавісьці вочы Кастуся. Перад ім стаяў ня змучаны, спалоханы юнак, перад ім быў вораг.

Вайсковец схапіўся за рэвальвэр, але Кастусь апярэдзіў яго. У пакоі загрымеў стрэл.

Кастусь бачыў, як вайсковец захістаўся, схапіўся за грудзі трохі ніжэй ордэна, і падлога загрукатала, закалыхалася пад ягоным цяжкім целам. Закрычала й кінулася да мужа кабета. Марыся ўсхапілася з лавы. Яна была белая, як сьцяна, і ўся калацілася. Кастусь выскачыў з хаты.

*

* *

Кастусь сядзеў на тапчане ля вакна. Прыслухоўваўся. Ён усё яшчэ дыхаў цяжка, але гарачая хваля гневу сьцішвалася, паволі адыходзіла з крыві.

Ён уважліва агледзеўся навакола. Праменьні месяца прабіваліся праз шчыліны акяніцы й серабрыліся няяснымі палоскамі. У цемені чорнымі абрысамі выступалі стол, пара крэслаў, ложак. Марысін пакой пры школе.

Цяпер перад Кастусём адна за аднэй ізноў усплывалі апошнія перажытыя падзеі. Ён адчуваў сябе заклапочаным. Ад Марысі ён ведаў, што забіў начальніка райваенкамату. Не, ён не шкадаваў гэтага. Яму трэба было бараніцца. Трывожыла й турбавала яго іншае. Сама Марыся. Яна дагнала й прыняла яго да сябе.

— Яны перакалоцяць у Міры ўсё куты, усе дамы. Да мяне яны ніколі ня пойдуць. Я буду разам зь імі, — сказала яна, пакідаючы Кастуся.

Ці добра ён зрабіў, што даверыўся ёй? Апошнія гады яму часта даводзілася шукаць выйсьця зь цяжкага становішча, часта даводзілася давяраца зусім чужым, але тут быў іншы выпадак.

Ён ведаў Марысю даўно. У часе вайны яны вучыліся разам у Нясьвіжы, у сэмінарыі. Тады гаварылі, што яе братоў — партызанаў —

забілі немцы. Яна й сама была ў небясьпецы й у сэмінарыі ратавалася ад арышту, ад вывазу. Пасьля вайны ён яе не спатыкаў, нічога аб ёй ня чуў. З кім яна?

Раптоўны брэх сабакі й чыесь крокі на школьным панадворку ізноў нацягнулі ягоныя ўзбуджаныя нэрвы. Рука пацягнулася да рэвальвэра. Але крокі сьціхлі ўваддалі.

Па вуліцы праехала машына й спынілася.

"Хуткая дапамога, ці МДБ па мяне?" — падумаў Кастусь. Бацькаў дом быў па суседзтву, толькі школа стаяла ў глыбі двара. Ізноў наступіла ціша. Гэтая ціша й цемень навокал душылі. Кастусь сьціснуў кулакі. Ён вырашыў ня думаць болей. Ні аб чым ня думаць.

— Што здарылася — ня вернеш, а што здарыцца — трэба чакаць.

Ён чуўся йзноў зморaным. Ногі нясьцерпна балелі. Ён выпрастаў іх асьцярожна перад сабою, абапёрся аб сьцяну, заплюшчыў вочы.

Нехта адмыкаў дзьверы. Кастусь павярнуўся да іх. Ён ня ведаў, ці спаў ці не, колькі прайшло часу. Увайшла Марыся. Яна замкнула за сабою дзьверы й ціха паклікала:

— Кастусь, ты сьпіш?

— Не. Колькі часу цяпер?

— Ня ведаю дакладна, думаю, каля дванаццатай. Я адпрасілася, бо заўтра рана заняткі пачынаюцца.

— Дык яшчэ ня скончылі?

— Куды там! Яшчэ колькі гадзінаў людзей калаціць будуць. Тут МДБ, і міліцыя, і камсамольцы — увесь актыў шукае цябе. Заварыў ты, Кастусь, кашу. Зловяць, бяз суду расстраляюць.

Яна скінула кажушок і павесіла на крук. Там-жа ля парога сьцягнула й пакінула свае боты. Яна засталася ў ваўняных шкарпэтках і рухалася па пакоі лёгка, нячутна. Не запальваючы сьвятла, расклала ў печцы агонь і паставіла варыцца бульбу.

— Ты-ж што — таксама актыў? — спытаўся Кастусь.

— Сябра камсамолу.

— Дык чаму-ж ты мяне ратуеш?

— Чаму? — затрымалася яна на момант. — Сама ня ведаю. Мо таму, што тады, у Нясьвіжы, ратавалі мяне. Мо таму... — І, ня скончыўшы сказу, ізноў змоўкла.

Яна стаяла ля печкі й задуменна глядзела на полымя, быццам там шукала адказу. Кастусь бачыў, як на ейных голых да локцяў руках, шыі й твары мігалі цёплыя ружовыя блікі полымя. Полымя адбівалася й у яе цёмных сініх вачох, таямнічых, глыбокіх, як вазёры.

— Што хавае яна там, на іхным дне? — думаў Кастусь і не парушаў маўчаньня.

— Мо таму, — сказала яна павольна, што там мы былі ўсе ў аднэй сям'і... Мы верылі ў збаўленьне... Цяпер я ў нішто ня веру.

А я й цяпер веру ў збаўленьне. Мы змагаемся за яго.

— Вельмі няроўныя сілы, — запярэчыла Марыся. — Наш край задушаны й ратунку для яго ня відаць. Нас дзеляць. Робяць ворагамі.

— І ты зь імі, — дакорліва сказаў Кастусь.

Марыся павярнулася ў ягоны бок. Цяпер яна стаяла сьпіною да полымя й немагчыма было бачыць выразу яе твару.

— Я сярод іх, — сказала яна пасьля моманту маўчаньня й ледзь чутна дадала: — мне гэта ня лёгка.

— Трэба шукаць выйсьця.

— Я ня бачу яго.

— Кожны можа зрабіць усё, калі захоча, — сказаў Кастусь.

Здавалася, што Марыся хацела штось адказаць, але толькі ўздых вырваўся зь яе грудзей. Яна павярнулася йзноў да печкі й пачала рыхтаваць вячэру. Дастала згатаваную бульбу й паставіла ў саганку на стол. Прынесла гаршчочак кіслага малака, талеркі, лыжкі й соль.

— Будзем есьці, сядай да стала, — сказала яна. — Прабач, што вячэра бедная. Я не чакала госьця.

— Каралеўская ежа, — пажартаваў Кастусь. — Ты не ўяўляеш, як смакуе гарачая бульба пасьля амаль двух дзён сухамяткі ды холаду.

— Ты што — два дні пехатою?

— Так, аж ногі баляць, боты прамоклі.

— Скінь боты. Я іх прасушу каля печкі.

— Баюся, што няма часу іх ужо сушыць. Да расьсьвету мне трэба Мір пакінуць.

— Нават калі табе сёньня йсьці, дык часу пасушыць іх хопіць. Але ты дарэмна сьпяшаешся... Тут, у мяне, пару дзён лёгка табе перахавацца, адпачыць як сьлед.

— Дзякую, — сказаў ён.

Яны павячэралі, і Марыся пачала прыбіраць посудзь. Кастусь перайшоў на тапчан, скінуў боты й паклаў на іх адсырэлыя анучы. Ён схіліў галаву й глядзеў на свае спухлыя, сьцёртыя ногі.

Марыся забрала боты й анучы. Прынесла й паставіла перад ім міску зь цёплай вадою.

— Памый ногі. Пабачыш, як адразу палягчэе.

Ад таго, што Марыся клапацілася аб ім, Кастусь адчуваў цёплую радасную хвалю ў сваіх грудзёх. Управіўшыся, яна села побач яго на тапчане, склала рукі на каленах і глядзела на яго лагодна, зь ледзь улоўнай усьмешкай на вуснах.

Кастусь быў узрушаны.

— Дазволь табе за ўсё падзякаваць, — сказаў ён і працягнуў да яе руку. Яна падала яму сваю. Іхныя рукі спаткаліся й сьціснуліся. Нечакана Кастусь нахіліўся й пацалаваў Марысіну руку.

— Што ты, ня трэба, — засаромілася Марыся.

Яна хуценька адабрала руку й нават трохі адсунулася, але на ягоных вуснах і на далоні засталося надзвычайнае адчуваньне дакранутасьці да яе. Яны маўчалі некаторы час, кожны заглыблены ў сваіх думках. Калі, урэшце, яна загаварыла, было шмат смутку ў яе голасе.

— Шчасьлівы той, хто верыць, што можа зрабіць усё, калі захоча. У мяне гэтай веры няма. Памятаеш, калі ў сорак трэйцім годзе я прыйшла ў Нясьвіж? Я прыйшла із зьмярцьвелым сэрцам. На маіх

вачох немцы спалілі жывымі ў хаце маю маці й чатырох братоў. Старэйшыя тры браты былі партызанамі. У той дзень яны прыйшлі зь лесу наведаць нас. Відаць, хтось паведаміў немцаў. Увечары яны акружылі хату. Выпадкам на той час я была ў суседзяў. Я бачыла праз вакно, як нашу хату абклалі саломаю, як падпалілі яе, як закалыхалася й шуганула полымя да страхі. Я ведала, што ў хаце гараць мае браты й маці. Я чула іхныя крыкі й не магла бегчы ім на дапамогу. А я любіла іх. Мы расьлі сіротамі, бяз бацькі. Я была адна дзяўчына, і яны ўсе песьцілі мяне, нават малодшы Паўлік.

Гаворачы, Марыся проста глядзела перад сабою. Голас яе дрыжаў. Яна сьціснула рукі, быццам хацела сьцішыць хваляваньне, што ахапіла яе.

Кастуся моцна кранула ейнае гора. Із самай глыбіні сэрца яму хацелася суцешыць яе. Ён узяў яе рукі ў свае. Яна не адабрала іх.

— Ня трэба ўспамінаць, гэта мучыць цябе, — ласкава сказаў ён.

Але яна быццам ня чула яго. Яна ўсё глядзела перад сабою й працягвала ўсхвалёвана:

— Тады мне было лягчэй памерці, чымся жыць. Я нікога больш ня мела. Нікога ня любіла. Вось такою я прыйшла ў Нясьвіж, у сэмінарыю. І там спаткала Ліду Макарэвіч. Бацька Ліды быў войтам. Ейную сям'ю выбілі партызаны. Але нашае гора было адно. Паміж сабою мы ня чулі ні розьніцы, ні варожасьці. Я палюбіла Ліду, як сястру. Больш я ня чула сябе аднэй. У сэмінарыі я знайшла йзноў сваю сям'ю.

Аднойчы дырэктар сэмінарыі сказаў мне: — Бачу адыходзіш патроху, Марыся. Павесялела, дзякаваць Богу.

— Ты-ж ведаеш, стары Дунец быў вельмі добры, і мы не баяліся яго.

— Спадар дырэктар, — спыталася я, — чаму вы прынялі мяне ў сэмінарыю? Вы-ж ведаеце, што мае браты... — Ён ня даў мне скончыць: — Марыся, — сказаў ён, — памятай усё жыцьцё, што мы з аднэй сям'і. Досыць нас дзеляць і б'юць чужынцы. Мы, Беларусы, мусім ратаваць жыцьцё кожнага з нас.

— Дык гэта ты, ратуючы мяне, запавет старога Дунца выконваеш? — усьміхнуўся Кастусь.

— Мажліва, але пачакай, дай мне закончыць. Калі прыйшлі Саветы, Ліду й Дунца выслалі ў Сібір. За што? — пыталася я ў сябе. — За што яны мусяць пакутаваць? А цяпер вывазы людзей, калектывізацыя. Я мушу прымаць удзел у гэтым. Маё сэрца халадзее. Я йзноў адна. Нашыя людзі ня вераць мне болей. Яны ўсьміхаюцца, калі прыдзецца — гавораць са мною, але я ведаю, яны хаваюцца ад мяне, абыходзяць так, як абыходзяць усіх чужынцаў, якіх панасылалі сюды.

Марыся сьціхла. Маўчаў і Кастусь. Ейныя апошнія словы ўскалыхнулі думкі аб бацьку й маці. Сэрца балела, бо ён ведаў, што яны, старыя й бездапаможныя, выкінутыя ў далёкую халодную чужыну на пакуты й зьнішчэньне.

— Ты была, калі вывозілі маіх бацькоў? — раптоўна запытаўся ён.

Яна здрыганулася й адразу забрала свае рукі ад яго.

— Была. Ты мяне таксама вінавраціш?

— Я вінавачу цябе? — Ён абняў і прытуліў яе да сябе. — Не, я шкадую цябе.

Яна паклала сваю галаву на ягонае плячо. Прыціхлая, яна сядзела ў ягоным абдымку.

— Кастусь, — сказала яна. — Забяры мяне з сабою. Я не магу заставацца болей зь імі. Я хачу быць разам з табою, з тваімі сябрамі.

Ён не адказваў. Не таму, што знаходзіў ейную просьбу немагчымай. Цяпер, калі яна, усхваляваная, сядзела так блізка яго, калі ейныя шаўкавістыя валасы краналі ягоны твар, калі ён чуў яе цёплы подых, ён забыўся на ўсе свае турботы. Ён верыў ёй. Яна адчула гэта.

— Кастусь, — сказала яна йзноў, — мы пойдзем адсюль разам. Пойдзем заўтра ўначы. Ты пачакаеш мяне?

— Добра. Пойдзем разам.

Пазьней яна пасьцяліла яму на тапчане.

— Адчувай сябе як дома, Кастусь. Кладзіся й сьпі спакойна. Ты мусіш быць вельмі змораны. Дабранач!

Кастусь паклаўся, але ня мог заснуць. Марыся ўжо спала. З ложка чулася яе роўнае дыханьне. Ён ляжаў з адкрытымі вачыма, углядаючыся ў цемень. Усё, што было разьвязаным і ясным, калі Марыся сядзела побач, цяпер пачало выглядаць іначай.

“Змаганьне, у якім бяру ўдзел, справа вялікай адказнасьці. Мая памылка можа прынесьці небясьпеку маім сябрам. Стаховіч умее быць больш разважным, чымся я. Што-б ён зрабіў, каб быў на маім месцы? Сьцеражыся дзяўчат, — сказаў ён. Нават дасьведчаны Верас памыліўся. А я? Не, Марыся ня хлусіць. Яна шмат перацярпела. Шкада, што мы нарадзіліся ў цяжкі час. Мы мусім біцца, каб жыць. У нас няшмат часу для саміх сябе. Цяпер я мушу йсьці на Вільню. Ісьці сам”, — пастанавіў ён.

Трэба было сьпяшацца. Яшчэ была ноч, і ён меў час няпрыкметна выйсьці зь Міра.

Стараючыся не рабіць шуму, ён ціха сабраўся. На парозе спыніўся апошні раз і паглядзеў у бок Марысі.

“Бывай, мая даражэнькая, — думаў ён пяшчотна. — Я не разбудзіў цябе... Я мушу йсьці сам. Але я веру табе й па цябе вярнуся”.

* * *

Калі разьвіднела, Кастусь быў далёка ад Міра. За ноч добра падмерзла і йсьці было лёгка. Ён удыхаў у сябе халоднае вясновае паветра, удыхаў глыбока. Ён чуў сваё цела адпачыўшым і моцным. Навокал усё зьзяла ў ясным сьвятле надыходзячага дня. Наабапал дарогі заіндзявелыя пушыстыя бярозы стаялі ружовымі ў ранішнім сонцы. Праз іх галіны Кастусь бачыў неба, глыбокае, сіняе. “Быццам Марысіны вочы”, — падумаў ён, і голасна да сябе сказаў: “Ці, запраўды, ты хочаш быць разам з намі?”

Арсень ЛІС («Маладосьць»)

# ПРАМАЎЛЯЮЧЫ ДА СЭРЦА

## (Нарыс пра Рыгора Шырму)

(працяг)

У кароткай прадмове ўкладальнік даў агульнае азначэньне беларускай песьні, выявіў паасобна яе рысы. З патрыятычных і рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцыяў ацаніў значэньне песьні, яе ролю ў духовым жыцьці народу, яго барацьбе за сваю свабоду, культуру. У выказваньнях Шырмы, хоць і стрыманых з прычыны цэнзуры, выразна праглядаюць ідэйна-эстэтычныя погляды ўдзельніка вызваленчага руху:

«Стыхійны ўздым беларускіх масаў, — пісаў Шырма, — да самастойнага культурна-нацыянальнага жыцьця ставіць на чарзе дня побач зь іншымі пытаньнямі й справу руплівасьці да роднага генія.

Народ адчувае ў сабе вялікую моц, ён шукае прастору сваім «песьням і сілам». І для таго, каб даць выхад гэтай сіле, каб у братніх сэрцах сярод цемры й бяскуцьця загарэліся новыя агні, каб паліліся крыніцаю новыя бадзёрыя думы, па нашаму разуменьню, неабходна даць народу родную, па-мастацку апрацаваную песьню. Бо песьня злучае народ, яна ўсьведамляе яго й дае сілы змагацца за лепшае заўтра...»

Поруч зь першым выпускам «Беларускіх народных песень» у тым-жа 1929 годзе Шырма публікуе свае першыя запісы твораў народнай паэзіі ў «Беларускім календары». Кнігі-календары яшчэ з часоў «Нашай Нівы» заваявалі шырокую ўвагу ў народзе. Працаўнікі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, пераняўшы даўнейшую традыцыю выданьня народных календароў, зрабілі іх ня толькі праваднікамі ведаў у шырокія масы, а і сродкам грамадзка-асьветным. Беларускія календары ТБШ і іншых аб'яднаньняў 20-х гадоў мелі ў сабе разьдзелы: традыцыйны літаратурны, гаспадарчы й юрыдычны. Акрамя таго, гістарычны, культурна-грамадзкі, школьны, каапэратыўны, культурна-асьветнай працы гурткоў ТБШ, мастацкі... Усе яны, за малым выключэньнем, былі грунтоўна насычаныя рознастайнай інфармацыяй і давалі, пра гэта можна сказаць без перабольшаньня, шырокае ўяўленьне аб духовым жыцьці Заходняй Беларусі. У «Беларускім календары на 1929 год» Шырма выступіў адразу зь дзьвюма публікацыямі.

Адна зь іх адкрывала літаратурны разьдзел календара. Гэта было шэсьць тэкстаў, пераважна песень гадавога кругу. Запісаны яны былі летам 1928 году ў Шакунах. Надрукаваную ў «Календары...» нізку песень, мабыць, і можна лічыць першай фальклярыстычнай публікацыяй будучага выдатнага фальклярыста. Яна сьведчыла аб строгім, патрабавальным адборы, арыентацыі зьбіральніка на высокапаэтычныя творы. Тэкставая публікацыя песень тут-жа, у гэтай кнізе, была «падмацавана» невялікім артыкулам «Народная песьня». Мэта артыкулу — кінуць заклік да тых, каму дарага справа народу, яго душа, паклапаціцца аб зьбіраньні народных песень, «а самае галоўнае — мэлёдыяў...»

Заклік у канцы гэтай своеасаблівай фальклярыстычнай мініятуры прагучаў адкрытым тэкстам. Сама-ж яна — узрушаны маналог аб беларускай песьні аб яе неперахадзячай духоўнай вартасьці. Усьлед за Раманавым, і ў гэтым відаць доб-

рая пераемнасьць прагрэсыўных фальклярыстычных поглядаў мінулага, прагучала думка, што, «нягледзячы на свой трагічны лёс, народ беларускі не страціў свайго нацыянальнага аблічча». Сьведчаньнем таму — беларуская песьня «з боку мэлёдыі, рытмікі й настрояў, якія ў ёй адбіваюцца, зусім самабытная».

І ужо ў самым канцы горача, заклічна: «Грамадзяне! Ня дайце згінуць народнай песьні, зьберажыце гэты праўдзівы скарб душы народнай: ён чакае таго шчасьлівага, хто мае знайсьці яго, як папараць-кветку ў купальскую ноч». Скажам наперад, тым шчасьлівым аказаўся перад усім сам Шырма.

У тым-жа календары 1929 году ўсьлед за артыкулам-зваротам ён зьмяшчае нотны запіс песьні Галкоўскага на словы Янкі Купалы, якая ва ўмовах Заходняй Беларусі набывала актуальнае гучаньне й, пэўна-ж, не без рэдактарскай парады выдаўца атрымала назву «Гымн свабодзе".

За свабоду сваю
Усёй душой пастаю
І ў агонь, і ў ваду
Я за ёю пайду...

І гэтая арыгінальная песьня, як шэраг іншых твораў Галкоўскага, аказалася плёнам музычнага супрацоўніцтва кампазытара з Шырмам. У 30-я гады акрамя актыўнай дырыжорска-харавой, выканаўчай дзейнасьці, а таксама публіцыстычнай, перш за ўсё ў выданьнях Таварыства Беларускай Школы, Шырма нястомна клапоціцца аб тым, каб прыцягнуць да працы над беларускай песьняй усё новых і новых таленавітых людзей. Ён ня толькі чакае беларускіх Шапэнаў, Чайкоўскіх, Грыгаў, а рыхтуе глебу, на якой-бы яны ўзрасьлі.

Плённым для беларускай музыкі было супрацоўніцтва Шырмы з сусьветна ведамым расейскім кампазытарам А. Грачанінавым. Грачанінаў зацікавіўся беларускай музыкай яшчэ да рэвалюцыі не без уплыву вядомага беларускага этнографа й гісторыка літаратуры М. Янчука. Кампазытар працаваў у Музычна-Этнаграфічнай Камісіі пры Маскоўскім унівэрсытэце, якую ўзначальваў прафэсар М. Янчук. Некалькі народных песень, гарманізаваных Грачанінавым, было выдадзена ў Беларусі. У кнізе «Моя музыкальная жизнь», выдадзенай у Парыжы, Грачанінаў падкрэсьліў, што ведае песьні многіх народаў, але найбліжэй прыйшліся да сэрца яму беларускія. Шырма наладзіў перапіску з Грачанінавым, калі той жыў у Парыжы, стаў пасылаць яму свае запісы народнага меласу, зробленыя ў самых розных кутках Заходняй Беларусі. Грачанінаў дзейсна адгукнуўся на просьбу дырыжора й фальклярыста зь Вільні. «Прастата, яснасьць, прыгожая гучнасьць без непатрэбных, чужых народу бравурных эфэктаў, срогая захаваны народны калярыт, дужа цікавы й неаднастайны спосаб гарманізацыі, — вось асаблівасьці апрацовак Грачанінава, якія так выгадна адрозьніваюцца ад іншых», — пісаў у 1933 годзе Шырма.

Беларускія народныя мэлёдыі неаднойчы натхнялі знакамітага кампазытара і ў яго арыгінальнай творчасьці. Ім была напісана «Беларуская рапсодыя» для сымфанічнае аркестры (пашукаць-бы яе нашым сучасным музыкантам-выканаўцам сярод багатай і раскіданай па сьвеце спадчыны Грачанінава), а таксама солё для скрыпкі з фартэпіанам «Дар Белай Русі» й інш.

У 30-я гады набірае яшчэ большую інтэнсыўнасьць харавая праца Шырмы. Акрамя таго, што ён апіраецца цяпер на ўсё багацейшы й разнастайнейшы песенны

матэрыял, мае ў рэпартуары высокамастацкія апрацоўкі Галкоўскага, Грачанінава, а пазьней Кошыца, Гайваронскага й іншых, пашыраецца й сама база калектыву, рэзэрв удзельнікаў. Шырма цяпер ужо арганізуе хор у Віленскім унівэрсытэце, пры Беларускім Студэнцкім Саюзе, які існаваў у яго сьценах. Іншы раз яго так і называлі: хор Беларускага Студэнцкага Саюзу, або хор Шырмы. Ядро харыстаў складалі цяпер студэнты ўнівэрсытэту, але толькі імі склад хору не абмяжоўваўся. Пры Студэнцкім саюзе было заснавана Таварыства Прыяцеляў Беларусазнаўства, або беларусаведы, як тады яно называлася. У Таварыстве пачала канцэнтравацца таксама й фальклёрна-зьбіральніцкая, фальклёрна-дасьледчая праца. Часопіс «Нёман» у красавіковым нумары 1932 году інфармаваў грамадзкасьць, што запісана ўжо 1.600 песень, зь якіх 1.000 — Шырмам і 600 — сябрамі Таварыства. Аўтар публікацыі з горкай іроніяй канстатаваў, што ў унівэрсытэцкім горадзе, дзе ў дадатак ёсьць інстытут дасьледаваньня Усходняй Эўропы, ніхто не зьбіраецца друкаваць такі каштоўны з пункту гледжаньня народазнаўства й культуры матэрыял.

Праўда, знаходзіўся адзін з прэтэндэнтаў на гэтае беларускае народнае багацьце. Гэта быў віленскі ваявода Кіртыкліс. Ён афіцыйна выклікаў беларускага фальклярыста да сябе й прапанаваў яму прадаць рукапісы... каб пакласьці іх пад сукно, не дапусьціць да шырокага грамадзкага ўжытку. «Пан» ваявода атрымаў ад беларускага культурна-грамадзкага працаўніка годны адказ.

Ня маючы магчымасьці й сродкаў у тых, заходнябеларускіх умовах выдаць у поўным аб'ёме сабраныя песьні, Шырма быў пэўны: надыйдзе час, і ён здолее вярнуць народу яго песеннае багацьце, дагледжанае й упарадкаванае.

Удзельнік вызваленчага руху меў усе падставы для гістарычнага аптымізму. Таму спакойна, настойліва, натхнёна рабіў сваю справу. Насуперак самым неспрыяльным, падчас проста фатальным абставінам. Польскія ўлады даволі добра разумелі значэньне працы Шырмы, бачылі, што яна выходзіць далёка за рамкі культурна-асьветныя. Не заставалася для іх сакрэтам яго пасьлядоўная рэвалюцыйна-дэмакратычная, пракамуністычная, паводле іхнай тэрміналёгіі, пазыцыя. І дэфэнзыва імкнулася ўвесь час калі не спыніць (для гэтага патрэбны былі рэчавыя доказы рэвалюцыйнай дзейнасьці), то, прынамсі, хоць абмежаваць яго працу, зьвесьці да мінімуму яе вынікі. Былі спробы рэпрэсыўным шляхам прымусіць Шырму сысьці з грамадзкай арэны. Дэфэнзыва двойчы арыштоўвае яго, кідае ў Лукішскі астрог, які называлі ў 20-я гады заходнебеларускай Бастыліяй. Першы раз Шырму арыштоўваюць у кастрычніку 1930 году. Тут, у Лукішскіх мурах, ён пачынае пісаць п'есу аб жыцьці й змаганьні працоўных Заходняй Беларусі пад назваю «Зорным Шляхам». На палёх рукапісу трапляюцца ноты, радкі народных песень: песьня была з Шырмам і ў астрожнай камеры. Фактычнымі матывамі арышту была дзейнасьць Шырмы як сакратара ТБШ, якому закідвалася абвінавачваньне ў камунізьме.

Першы раз сьледству, аднак, не ўдалося сабраць дастаткова фактаў, зь якімі-б, хоць з нацяжкай, можна было выйсьці ў незакрыты суд. На другі раз, гэта было ў 1933 годзе, дэфэнзыва лепш пастаралася, і ўлады здолелі арганізаваць судовы працэс над дзеячамі ТБШ, сярод якіх на лаве падсудных адным зь першых аказаўся Шырма. Судзілі ня толькі кіраўнікоў, але й правінцыяльны актыў беларускай культурна-асьветнай арганізацыі. На лаве падсудных былі й сялянскія сьвіткі, і сьціплая вопратка сельскага інтэлігента.

Падсудныя Шырма, Фэлікс Стэцкевіч каменя на камені не пакінулі ад абвінаваўчай прамовы пракурора й паказалі на сапраўдную мэту польскае ўлады — імкненьне спыніць цягу працоўных Заходняй Беларусі да разьвіцьця сваёй культуры, яго барацьбу за школу на матчынай мове. Адвакат Казімер Петрусевіч, паціснуў Шырму руку. Яго задача бараніць тэбэшаўцаў была фактычна вырашана самімі абвінавачанымі. Яму, як спэцыялісту, заставалася толькі юрыдычна ўдакладніць некаторыя мамэнты.

З турмы кожны раз Шырма вяртаецца да працы з ранейшым запалам, настойлівасьцю. І зноў выязджае ў розныя паветы Заходняй Беларусі, чытае лекцыі, запісвае песьні, рупіцца аб хорах. Ня толькі зьбірае фальклёр, але й дасьледвае яго. «24 студзеня сёлета, — інфармаваў чытачоў у 3-й кніжцы за 1932 год «Нёман», — Рыгор Шырма прачытаў у Т-ве прыяцеляў беларусаведы рэфэрат на тэму: «Галоўныя рысы мэлёдыяў беларускіх народных песень». Лектар у сваім рэфэраце расказаў аб сабраных ім песьнях, дзелячыся з слухачамі ўражаньнямі, перажытымі ў часе іх запісваньня ды даў спробу характарыстыкі мэлёдыяў запісаных ім цыкляў беларускіх народных песьняў. Характарызуючы мэлёдыі... лектар адначасна дэманстраваў іх сьпевамі і грой на скрыпцы. Слухачы з захапленьнем, затаіўшы дух, выслухалі цікавы рэфэрат».

Інфармацыі аб выступленьні хору Рыгора Шырмы, артыкулы-водгукі на канцэрты ў тагачасным друку красамоўна сьведчаць, што быў гэты хор сталым і важным фактарам культурна-грамадзкага жыцьця Заходняй Беларусі. Ні адно значнае публічнае выступленьне, гадавіна, юбілей — а адзначаліся яны, як, прыкладам, 50-годзьдзі Янкі Купалы й Якуба Коласа, 10-я ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча, Дні беларускай культуры й інш. на ўзроўні нацыянальных сьвятаў — не ідбывалася без удзелу хору Шырмы, бяз песьні. Выступленьне беларускага хору надавала вечару, урачыстасьці адпаведны эмацыянальны тон, выразна паглыбляла сваім зьместам і майстэрскім выкананьнем грамадзкае гучэньне, ідэйны рэзананс самога мерапрыемства.

Заходняя Беларусь у той час ня мела, на жаль, прафэсыйнага музычнага крытыка. Суровая рэчаіснасьць, сацыяльны й нацыянальны прыгнёт не дазвалялі на такую «раскошу». Пераважная большасьць водгукаў на выступленьне хору Рыгора Шырмы 20-х — 30-х гадоў — гэта шчырыя, часам вельмі праніклёныя, пры ўсёй скупасьці слоў, допісы, інфармацыі аматараў. Што яны насілі аб'ектыўны характар, могуць хіба што пацьвердзіць і паасобныя публікацыі ў тагачаснай віленскай польскай, расейскай, жыдоўскай прэсе. Пра гэтыя цікавыя сьведчаньні, аднак, можна прыгадаць крыху пазьней.

Сярод аматараў-энтузіястаў, тых, хто пісаў пра хор Шырмы ў даваенную пару ня талькі па адзінаму закліку сэрца, а й з большым на гэта правам — зь веданьнем музычнай культуры, быў Вячаслаў Багдановіч. Багдановіч апублікаваў у «Родных Гонях» некалькі народных песень, сам спрабаваў пісаць вакальныя творы. Прынамсі, раманс яго «Кветкі васеньнія» выконвала на беларускіх канцэртах сьпявачка Л. Сасноўская.

У «Нёмане» за май - чэрвень 1932 г. В. Багдановіч пісаў: «Сёлета ў чэрвені хор Беларускага Студэнцкага Саюзу пад кіраўніцтвам сп. Р. Шырмы даў два канцэрты беларускае песьні — адзін 4. VI. у залі гандлёва-прамысловага клюбу, другі 15. VI. у Бэрнардынскім садзе. Сьпявалі харавыя песьні, гарманізаваныя Аладавым, Анцавым, Галкоўскім, Грачанінавым, Леантовічам і інш...

Хор у пастаноўцы й пад кіраўніцтвам Шырмы праявіў сябе вельмі добра. Ведаючы нашы ўмовы, трудна было спадзявацца ад хору такое ўдачы. Стройнасьць, дружнасьць, гібкасьць, нюансіроўка і ўсе музычныя эфэкты былі выканаль ня толькі з мастацкай тэхнікай, але й з глыбокім пачуцьцём...»

Непасрэдны сьведка нястомнай працы Р. Шырмы даваеннай пары С. Паўловіч адзначаў: «Вялікае зацікаўленьне беларускай песьняю Шырма выклікаў і ў Вільні, і па-за Вільняю, сярод людзей рознай культуры й розных нацыянальнасьцяў. Ня зьлічыць, колькі ён завязаў сваёю працаю знаёмства зь людзьмі песьні й музыкі. Кожны чагосьці просіць зь ягонага багацьця, кожны чакае якойсьці рады ці помачы, кожнаму ён патрэбен, — Рыгор Шырма дарагі госьць на канцэртах і расейскіх, і ўкраінскіх, і жыдоўскіх, і польскіх. Дзякуючы яму ўсюды можна пачуць арыгінальную або ў перакладзе беларускую песьню».

Прапагандуючы беларускую песьню з эстрады, Шырма ўвесь час думаў аб шырэйшым выхадзе зь ёю ў сьвет. Адным са спосабаў гэтага выхаду было выданьне песень асобнымі зборнікамі. У такім выглядзе яны маглі патрапіць да масавага слухача й ня толькі ў межах Заходняй Беларусі ці Польшчы.

На шляху друкаванай формы распаўсюджаньня па-мастацку апрацаванай песьні ў той час стаялі перш за ўсё цяжкасьці матэрыяльнага парадку. Для выданьня патрэбны былі сродкі, якіх ня было адкуль узяць. Ахвяраваныя хворым беларускім настаўнікам Васілём Труцькам 700 злотых на выданьне песень пайшлі на друк пільна патрэбнай, надзённай кнігі паэзіі М. Танка «На этапах». У сувязі з канфіскацыяй кнігі грошы, патрачаныя на яе выданьне, не вярнуліся.

Усё-ж у 1938 годзе Шырму ўдалося надрукаваць асобным выданьнем 15 песень з рэпэртуару хору, аранжыроўкі Славянскага, Рагоўскага, Галкоўскага, Гречанінава й іншых. Зборнік называўся «Наша Песьня» й меў пазначэньне «Сшытак 1». Выдавец меркаваў, мабыць, у далейшым, па меры назапашваньня новых аранжыровак, выдаваць іх па магчымасьці асобнымі сшыткамі, задумаў выданьне як сэрыю.

А тым часам, асабліва ў другой палавіне 30-х гадоў, палітычнае жыцьцё Польшчы, найбольш на яе нацыянальных ускраінах, моцна пасуравела. Былі на гэта зьнешнія іў нутраныя прычыны. Вельмі адмоўна адбіўся на ўнутраным стане грамадзкага жыцьця ў Эўропе прыход Гітлера да ўлады й фашызацыя Нямеччыны. Гэта ажывіла, надало духу розным моцна правым партыям у многіх краінах. Польшча ня была выключэньнем...

Польскі шавінізм пачаў наступ на ўсе праявы апазыцыі санацыйнаму рэжыму. Яшчэ з большай жорсткасьцю й пасьлядоўнасьцю стаў прасьледавацца нацыянальна-вызваленчы рух. Усё менш заставалася й без таго ўрэзаных у Польшчы скупых свабод...

Паступовае наступленьне на такі важны ўчастак культурна-асьветнага фронту, як ТБШ, завяршылася ў 1937 годзе поўнай яго забаронай. Забаронены быў і Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры, што стаяў у асьветнай і культурнай працы на іншай палітычнай плятформе й якому было цяжэй закінуць абвінавачаньне ў камунізьме, паколькі знаходзіўся ён пад уплывам беларускай хадэцыі. У сваім зацятым прасьледаваньні ўсяго, што хоць-бы крыху пярэчыла грабежнай палітыцы ўлады, адміністрацыя ў 1937 годзе дайшла да забароны буквара «Zasieŭki» вядомага заходнябеларускага педагога С. Паўловіча, да канфіскаты выдадзенага яшчэ ў 1929 годзе паэтычнага зборніка М. Васілька «Шум баравы»,

да канфіскаты кнігі вершаў Міхася Машары «З-пад стрэх саламяных» і г. д. Бясконцыя прасьледаваньні, рэпрэсіі разбуралі зьдзейсьненае, здабытае працай дзесяткаў тысяч удзельнікаў вызваленчага руху, тых-жа сяброў ТБШ, прадстаўнікоў асьветы, культуры...

Інтэлігенцыя, якая заставалася і ў новых умовах адданай ідэалам народнага вызваленьня, шукала новых мэтадаў барацьбы, адпаведных зьмененым абставінам. Старалася выкарыстаць усе магчымасьці, каб далей трымаць культурны фронт, несьці ў масы асьвету й палітычнае ўсьведамленьне.

Як адну з формаў публічнай прапаганды здабыткаў беларускай культуры, у тым ліку й азнаямленьня зь ёю суседзяў, а перад усім для ўмацаваньня веры ў творчыя сілы свайго народу, а тым самым і ў яго лепшую будучыню, заходнябеларуская інтэлігенцыя стала практыкаваць «Вечары беларускай паэзіі й песьні», а крыху пазьней — «Дні Беларускай Культуры». У іх удзельнічалі лепшыя літаратурныя й мастацкія сілы Заходняй Беларусі. Ролю Шырмы ў творчых вечарох, днях культуры, якія мелі шырокі грамадзкі рэзананс, нельга пераацаніць. Яна агромністая.

«Зь беларускіх народных крыніцаў, у вялікай меры з народнай песьні, творыцца сучасная беларуская культура, — гаварылася 13 сьнежаня 1936 году пры адкрыцьці першага Дня беларускай культуры. Вось-жа й ня дзіва, што гэты дзень сьвяткуем той-жа народнай песьняй».

Канцэрт, распачаты хорам Шырмы, адкрываўся кантатаю Галкоўскага. Далей стройна прагучэў сьцяг народных песень «Зялён гай» (апр. Грачанінава), «А ў полі вярба» (апр. Сьвешнікава), «Па саду хаджу» (апр. Галкоўскага), «Кукавала зязюлька» (апр. Грачанінава), песьня Галкоўскага «Вясна» на словы М. Васілька, песьня Анцава «Усе разам» на Купалавы словы...

Прагучэлі таксама песьні беларускіх кампазытараў Аладава, Чуркіна, песьня Галкоўскага «Ці грэх цябе любіць»...

Дзень беларускай культуры знайшоў добры водгалас у дэмакратычнай польскай, жыдоўскай, расейскай і літоўскай прэсе Вільні. Так, жыдоўская газэта «Вільнэр тог» ад 16 сьнежаня 1936 году пісала: «Калі афіцыйная частка, як відаць з даволі важных прычынаў, адбывалася як-бы напалавіну адкрытым ротам, то канцэртны аддзел быў дадзены ўсім сэрцам: чаго андагаварылі, тое дасьпявалі. Беларускія народныя песьні расказвалі аб беларускім народзе, аб яго душы, цярпеньнях, радасьцях больш, як гэта маглі-б сказаць найдаўжэйшыя прамовы.

Хор Шырмы прыемна слухаць. Чатыры дзесяткі хлопцаў і дзяўчат, кіраваныя ўмелай і чулай рукою дырыгента, вельмі добра сьпеты. Іх ціхае pianissimo разыходзіцца, як бальзам, па ўсім целе. Чуецца таксама дасканаласьць і густ у выбары праграмы...»

Газэты былі аднагалосныя ў ацэнцы майстэрства беларускага хору. «Русское слово» ад 18 сьнежаня 1936 году пісала: «Хору Шырмы ўдалося паказаць свае артыстычныя дасягненьні й незвычайнае багацьце беларускай народнай музычнай творчасьці. Гэты хор без сумненьня адзін зь лепшых (калі не найлепшы) зь віленскіх хораў. Цяжка сказаць, што больш захапляе слухача, цудоўныя галасы харыстаў ці зьдзіўляючая дасканаласьць апрацоўкі, незвычайная пранікнёная глыбіня трактоўкі выкананых твораў. Нельга сказаць, якая зь песень найбольш спадабалася слухачом; кожная ў выкананьні хору была маленькім шэдэўрам».

Свой пятнаццацігадовы юбілей працы зь беларускай песьняй вясною 1939 году

Шырма адзначыў вялікім канцэртам. Хор выканаў, як сьведчыць аўтар артыкулу «Юбілей Р. Шырмы» С. Паўловіч, каля дваццаці пяці беларускіх песень. Выкананьне іх было, паводле таго-ж сьведчаньня, «як заўсёды... высокамастацкае».

У гэтым-жа нумары «Беларускага летапісу», дзе на апошняй старонцы, відаць, у апошнюю часіну набору часопісу, дабраны «задыханы» артыкул-інфармацыя «Вайна пачалася», Шырма выступіў зь дзьвюма публікацыямі. Адна спакойная адпаведна тэме — гісторыі працы над беларускай песьняй і другая — узрушаная, запальчыва-публіцыстычная — артыкул «Песьня». Песьня й яе значэньне ў духоўным жыцьці адзінкі, грамадзтва, чалавецтва. І канкрэтна — пра беларускую песьню. Пра сутнасьць яе й тое, якой яна павінна быць сёньня, у «трывожны час». «Мэта песьні — будзіць і ўзбагачаць духовае жыцьцё чалавека, падымаць яго настрой і гэтым самым павялічваць у ім маральныя й фізычныя сілы, павялічваць трываласьць у жыцьцёвай барацьбе. Значэньне й сіла яе вялікая й незаменная. І таму ня дзіва, што не адна Бастылія ў гісторыі чалавецтва пала пад звон рэвалюцыйнай песьні», — пісаў Шырма.

Гаворыць пра штодзённае, набалелае. Пра тое, чаму намагаюцца адабраць ад народу яго песьні, падсунуць яму такія, што прысыпляюць дух, высокія парывы, вучаць «пакорна зносіць путы». Усе гэтыя горкія пазнаньні Шырма як чалавек, які паўстаў на абарону скарбаў народнага духу, вынес з заходнябеларускай рэчаіснасьці даваеннай Польшчы. Ён гаворыць пра гэта крыху абагульнена з прычыны цэнзуры, але проста й недвухсэнсоўна. Больш завуалявана — пра песьні народжаныя вызваленчай барацьбой: «Балючыя, пільныя справы сёньняшніх дзён твораць і свае адпаведныя песьні. Многа іх у нас паўстала пасьля вайны. Многія зь іх, — шырэй нязнаныя, — блудзяць толькі па вясковых хатах і дасюль. У іх адбіваецца ўжо гісторыя дзён найбліжэйшых, справы, якімі жывуць шырокія масы сёньня». Чытачу ня былі сакрэтам песьні, пра якія гаварыў Шырма. Гэта былі песьні, народжаныя змаганьнем у Заходняй Беларусі, такія, як «Шалейце вы, каты!», «Стары год пражыўшы», «Браты мае, ужо час настаў», «Нас душаць зладзеі-акупанты» й іншыя. Шырма натаваў іх непасрэдна ад удзельнікаў рэвалюцыйнага руху, акрыленых верай барацьбітоў.

Глыбокім уласным перакананьнем, верай у духоўную нязломнасьць, відушчасьць народу дыхаюць Шырмавы словы, якія, дарэчы, ён, прызнаны ў Заходняй Беларусі культурна-грамадзкі дзеяч, меў права сказаць і гаварыў ня толькі ад свайго імя: «Як народ творчы, жывучы, не пакінем сваіх старых песьняў, песьняў прадзедаў; але таксама не астанёмся, ня можам астацца, без песень новых, якіх патрабуе сёньняшні трывожны час. Астацца ў сягоньняшнія дні без гэтага магутнага духовага аружжа мы ні ў якім выпадку ня можам».

Тым часам у Эўропе ўжо моцна разгараецца падпалены фашысцкай Нямеччынай пажар Другой сусьветнай вайны... (Нямеччына нападае на Польшчу. 17 верасьня 1939 году Саветы займаюць Заходнюю Беларусь...)

У сувязі зь перадачай у кастрычніку 1939 году Вільні Летувісам своеасаблівым цэнтрам Заходняй Беларусі савецкага часу становіцца Беласток... Шырма перабіраецца ў Беласток на сталае жыхарства. Яго на кватэры наведвае Янка Купала.

Урад рэспублікі 1 лістапада 1939 году даручае Шырму арганізаваць Беларускі ансамбль песьні й танцу. 15-га студзеня 1940 году Беларускі ансамбль пад мастацкім кіраўніцтвам Шырмы пачаў сваю працу. Упяршыню харавая дырыгэнтская дзейнасьць Шырмы станавілася на дзяржаўную аснову.

Якую выбраць жанравую форму для новага калектыву, у яго кіраўніка ня было сумненьняў. Практыка мінулых гадоў і роздум над ёй падказвалі вышэйшую форму харавога мастацтва, самую складаную — акадэмічную, капэльную.

Горача пераканаены ў яе магчымасьцях, Шырма адстаяў выгляд свайго хору як капэльнага. Наколькі правільны быў зыходны крок, пацьвердзілі наступныя дзесяцігодзьдзі, калі акадэмічная капэля БССР склала цэлы пэрыяд у музычным жыцьці рэспублікі...

З пачатку 1941 году Беларускі ансамбль песьні й танца выехаў на гастролі ў Менск, пазьней у Маскву, па краіне. Ансамбль шчодра знаёміў шырокую аўдыторыю з музычнымі здабыткамі беларускага народу, краскамі яго творчага духу — песьняй.

Але спакойныя й радасныя першыя гастролі па краіне працягваліся нядоўга. Грымнула Вялікая айчынная вайна... Шырму, як і ўвесь наш народ, чакалі суровыя выпрабаваньні. Але праз іх, наперадзе артыста й найдаражэйшы скарб яго, пранесены праз усё жыцьцё, — беларускую песьню, чакала сусьветнае прызнаньне...

Шчасьлівы зорны час Шырмы настаў у другой палове 50-х — 60-х гадоў. Наблізілі яго яснае, глыбокае ўсьведамленьне мэты, талент і волатаўская праца...

---

**Ірына Багдановіч** (Беларусь)

## БЕЛАРУСЬ

У садоўніка ў садзе ёсьць кветка адна,
Што між іншымі лепшай здаецца.
Гэтай кветцы душу аддае ён да дна,
Палiваць яе першай імкнецца,
І за лёс яе клопат ён мае.
А яна — як і ўсе там — жывая.
Калі можна з тым садам і сьвет параўняць,
То з нас кожны ў ім мае куточак
Запаветны. І нельга яго адабраць,
Абнячэсьціць ці зганьбіць аднойчы.
Бо ня проста бываюць краіны,
Бо завецца краіна — Айчынай.
Сярод іншых ня кінецца ў вочы яна,
Экзэтычных пейсажаў няма ў ёй.
Колькі трэба, блакітнага ёсьць палатна,
Колькі трэба — сінечы ільнянай.
Ёй лясныя сукенкі да твару,
А ў вачах яе хвалямі — мары.
Дабратой маладой усьміхаецца твар,
На дзяўчыну падобна з Палесься.
Ты, радзіма, усім надала хараства,
Хто з калыскі пачуў тваю песьню.
У садоўніка кветка адзіная.
Чалавека-ж — няма без радзімы.

В. СТОМА (ЗША)

# РАЗЬДЗЕЛ I

# АБРАДЫ Й ЗВЫЧАІ ЗЬВЯЗАНЫЯ З РЭЛІГІЙНЫМІ СЬВЯТАМІ

## КАЛЯДНЫЯ СЬВЯТЫ

Прыгатаваньні да сьвяткаваньня Народжаньня Ісуса Хрыста — Калядаў і Новага Году пачыналіся ўжо ад пачатку Каляднага посту (Пілінаўкі), г. зн. ад 15-га лістапада. Ужо ад гэтага часу кожны гаспадар і гаспадыня пачыналі клапаціцца аб тым, каб на сьвяткі ў іх гаспадарцы й на стале ў меру магчымасьцяў ня было ніякіх недахопаў ці занядбаньняў. У першую чаргу незадоўга перад сьвятамі яны «калолі» падкормленага яшчэ ад раньняй восені кабанчыка-калядніка, ці рэзалі таксама падкормленых, — барана-скапца ці хоць-бы авечку, гусь, пару качак або індыка. У гэты час гаспадар вёз у млын «на пыталь» пэўную, хоць часамі й невялікую, колькасьць пшаніцы, або купляў у краме хоць некалькі фунтаў «белай» пшанічнай мукі на сьвяточныя пірагі ды бліны. У хаце-ж і каля хаты, ды наагул у цэлай гаспадарцы, кожная сям'я старалася навесьці парадак, каб нічым ня ўразіць Нованароджанага Хрыста.

Не гаворачы ўжо аб тым, што праз усю Піліпаўку амаль кожная сям'я старалася ўстрымоўвацца ад скаромнага, прынамсі кожную сераду ды пятніцу, дык у апошнім перад Калядамі тыдні, шмат якія пасьцілі кожны дзень.

Калі надыходзілі Каляды, дык тады з найбольш урачыстымі сямейнымі абрадамі адзначалася Калядная Куцьця, гэта значыць апошні вечар перад сьвятам.

### Калядная Куцьця.

Ужо ад самага ранку, а то й ад вечара папярэдняга дня, усе гаспадыні варылі, смажылі й пяклі стравы на ўрачыстую Вячэру - Куцьцю, якая на маю думку, узяла свой назоў ад галоўнай стравы — куцьці, спажыванай у гэты вечар.

Што-ж такое куцьця? Куцьця, гэта папросту густая каша зь ячменных, або пшанічных круп, запраўленая ў першым выпадку алеем падсмажаным з цыбуляй, а ў другім, гэта зн. пшанічная, запраўлялася мёдам, макам, радзынкамі, сушанымі сьлівамі й г. д. З гэтага выглядае, што пшанічную куцьцю варылі больш заможныя гаспадыні.

Апрача куцьці, вячэра павінна была складацца зь ня менш чым 12-ці страваў, — згодна ліку 12-ц Апосталаў, але ніколі з 13-ці, як на Апошняй Вячэры, каб гэтым самым не ўганараваць здрадніка Юду. Страваў магло быць больш як 12 (чым больш, тым лепш), але ніколі не магло быць 13. Таксама лік вячэраўшых мог быць розны, аднак ніколі 13. Для адсутных-жа ў той час сяброў сям'і застаўлялася пустое месца за сталом і клалася лішняя лыжка й кавалак хлеба.

Стол засьцілаўся белым, чыстым, па магчымасьці, яшчэ ня ўжываным абрусом. Пад абрус на стале, тонкім слоем, рассьцілалася найлепшае мурожнае й духмянае сена, — гэта на памятку таго, што Хрыстос нарадзіўся на сене. На самай сярэдзіне стала стаўляўся крыжык, або сьв. абразок ды запальвалася сьвечка-грамніца. Гэтая сьвечка пасьвячалася ў царкве ці касьцеле на сьвята Грамніцаў, — 2-га

лютага ды перахоўвалася амаль цэлы год за абразамі. На Покуці ў некаторых сялібах яшчэ ставіўся першы, нажаты ў гэтым годзе сноп жыта.

Пасьля гэтага маці прыносіла й ставіла побач абразка й сьвечкі вялікую міску з куцьцёю. Усе ўдзельнікі вячэры ўставалі са сваіх месцаў і паўтаралі за бацькам, маці ці наагул найстарэйшай асобай у сям'і малітву «Войча наш...», а пасьля яшчэ ўложаныя тэй-жа асобай «модлы», як напр. «Божанька, Ты ўзнагародзіў нас сёлета за нашую працу й ахараняў нас ад няшчасьцяў, дык ахараняй нас і далей. Амін».

Наступна тая самая асоба, што адмаўляла малітву, брала лыжку куцьці й нясла пад абразы на покуце ды клала яе там у загадзя падрыхтаваную талерку ці місачку, — «для нябожчыкаў». Назаўтра гэтая лыжка куцьці й сена, што было пад абрусом скармлівалася жывёлай, пільна ўважаючы, каб яно было зьедзена, і не трапіла ў гной. Пасьля пачастунку «нябожчыкаў», той-жа старэйшы ці старэйшая садзілася, брала лыжку куцьці й пачынала есьці. За гэтым пачыналі есьці ўсе іншыя, захоўваючы аднак парадак старшынства. У гэтым часе ўжо дазвалялася гаварыць, але размовы абмежаваліся толькі да пажаданьняў адзін аднаму шчасьця ды здароўя на будучы год. Па спажыве куцьці кожны з прысутных без позірку падкладаў руку пад абрус і выцягваў адтуль сьцяблінку сена. Гэтая сьцяблінка сваім выглядам мела сьведчыць аб шчасьці, здароўі й багацьці, якія суліў данай асобе надыходзячы новы год. Калі сьцяблінка была бухматая й роўная, азначала гэта шчасьце. Калі-ж сьцяблінка была паламаная й абскубаная, азначала гэта бяду або хваробу. Тут не абыходзілася й бяз дробненькіх круцельстваў, асабліва з боку дзяўчат, якія чакалі замужжаства, а гэтым самым і шчасьця. Яны часамі загадзя намеціўшы сабе месца за сталом падкладалі туды асабліва мяккае й з кветкамі канюшыны ці рамонкаў сена, і вельмі крыўдавалі, калі бацькі перасаджвалі іх на іншае месца, часамі ня горшае за першае.

Наступнай стравай пасьля куцьці была абавязкава поліўка зь кіслага бураковага расолу з сушанымі грыбамі-баравікамі, або «раман», вельмі-ж падобны да гэтае поліўкі, але вараны на хлебнай рашчыне з тымі-ж баравікамі. Далей былі: аўсяны кісель з алеем і цыбуляй, смажаная на алеі рыба, або селядцы і г. д. На заканчэньне «галоўных» страваў прыходзілі маленькія галушкі-піражкі (зв. бубкі), залітыя смакавітым тоўчаным макам зь мёдам, кісель зь ягад-журавінаў, сушаная садавіна зь мёдам, названая з украінскага «звар». Дый ўсе стравы й пералічыць цяжка.

Калі апошняя страва была спажытая, тады пачыналася варажба. Пачынала яе ізноў-жа найстарэйшая ў сям'і асоба ,падыходзячы да вакна й голасна кажучы:

— Мароз, мароз хадзі да нас куцьцю есьці!

Гэтая варажба мела ахараняць раньнія пасевы ярыны й гароднiны ад прымаразкаў. Пазьней дзяўчаты бегалі пад суседзкія вокны й падслухоўвалі што гавораць у хаце, а з пачутага згадвалі сваю дзявочую будучыню. Лічылася добрым, калі ў гаворцы сустракаліся словы: «хадзі, ідзі, прыехаў, едзь, прыйшоў». Гэта азначала для іх хуткае замужжа. Калі-ж чуліся мужчынскія імёны, як Янка, Пётра, Міхась, — гэта мела азначаць імёны іх будучых мужоў. Суседзі спадзяючыся варажбітак гаварылі «памыснае» для варожучых, калі адчувалі да іх сымпатыю. Яны казалі напрыклад, хадзі сюды хутчэй, прынясі мне тое й тое, а таксама называлі імёны тых хлапцоў, якія маглі падабацца гэтым дзяўчатам. Калі-ж мелі да варожучых нейкую злосьць, тады казалі: сядзь, пасядзі, а нават здаралася, што згадвалі й «паляжаць», пры гэтым называючы імёны розных знаёмых п'яніцаў

абібокаў ды паўдуркаў. Ідучы дамоў, дзяўчаты прыслухоўваліся ў якім боку забрэша сабака, каб такім чынам дапускаць у якім баку жывуць іх будучыня нарачоныя.

Пасьля вячэры й варажбы надыходзіла пара зьбірацца на калядную Богаслужбу, якая ў праваслаўных пачыналася хутка пасьля поўначы, а ў каталікоў перад поўначчу й называлася «Пастэркам».

У некаторых мясцовасьцях, нягледзячы на адлегласьць да сьвятыні, на Богаслужбу ня ішлі пехатой, а ехалі цэлымі сем'ямі ў прасторных санках-развалках. Па дарозе дамоў стараліся апярэдзіць суседзяў і прыехаць да хаты хутчэй за іх. Гэта мела азначаць, што праз увесь наступны год не застануцца ў ніякай працы ззаду. Пры гэтым часта здараліся выпадкі, калі мінаючы іншых на вузкай дарозе ўся сям'я перакульвалася ў сьнег пад перавернутыя сані. Трэба аднак зазначыць, што гэты звычай быў больш пашыраны сярод каталікаў, як праваслаўных. За тое праваслаўныя перавышалі сваіх суседзяў у іншым, а гэта, калі сьвятар гаварыў у царкве сьвяточную казань, галава сям'і павінен быў хоць і ня голасна, але хоць адзін раз кашлянуць, — «каб вяліся авечкі». Гэты, здавалася-б, нявінны звычай часамі амаль зусім заглушаў голас сьвятара, калі браць пад увагу часамі прысутных у царкве пару сотак гаспадароў. Бязумоўна, што сьвятары са свайго боку стараліся гэты звычай выкараніць, але бяз большых вынікаў.

Каляды заўсёды сьвяткаваліся тры дні. На першы дзень калядаў моладзь нічога ня ладзіла, каб «непакоіць Нованароджанага». Старэйшыя-ж хадзілі адзін да другога ў госьці. На другі дзень, як звыкла, моладзь ладзіла калядную гульню, гэта значыць «жаніла Цярэшку». Але аб гэтым будзе асобны разьдзел.

Сярод мясцовага насельніцтва Дзісьненшчыны ня быў асабліва пашыраны звычай ладжаньня Калядных ялінак. Перад І-ай Сусьветнай вайной іх ладзілі толькі наезныя ўрадаўцы ды нешматлікія абмаскаленыя багацейшыя мяшчане. На вёсках-жа гэты звычай быў амаль зусім няведамы. Штопраўда ў міжваенным часе польская адміністрацыя й ксяндзы гэты звычай моцна прапагавалі, ладзячы ялінкі ў школах ды раздаючы пры гэтым дзецям танныя (каштуючыя грашы) падарункі, а для старэйшае моладзі, напэўна каб адцягнуць яе ад «Цярэшкі ладзіліся бязплатныя танцы. Але гэты звычай у прыватных сем'ях ніяк ня прывіўся, а асабліва ў вёсках аж да канца «Рэчыпаспалітай».

Таксама амаль няведамым быў звычай калядаваньня «з Казой» ці «Мядзьвядзём», хоць аб апошнім нешта ўспаміналі вельмі ўжо старыя людзі. У некаторых мясцовасьцях быў даволі пашыраны звычай калядаваньня з Каляднай Зоркай, зробленай з наваскаванай паперы й з запаленай у сярэдзіне сьвечкай.. У часе калядаваньня праваслаўныя калядоўшчыкі сьпявалі славянскія царкоўныя трапары, а каталіцкія — «польскія» калядкі.

У 30-тыя гады польскія вайсковыя асаднікі, якіх было тут даволі шмат, намагаліся пашырыць «польскія» калядныя інтэрмэдыі, так зв. «Ясэлка» з анёламі, каралямі, Ірадам, жыдам і чартом. Здаецца, што гэта ўваходзіла ў агульную праграму палянізацыі «Крэсаў. Падобна ўдзельнікі гэтых інтэрмэдыяў атрымоўвалі пэўныя, хоць можа й невялікія, датацыі ад паветавых уладаў. Вось-жа такія групы езьдзілі на фурманках ад вёскі да вёскі. Прыехаўшы на месца, яны хадзілі ад хаты да хаты, і найчасьцей з прычыны завеяных дарог і сьцежак, у радок адзін за адным. Аднак іх рэпэртуар быў даволі бедны зьместам. Пасьля кароткага дыялёгу паміж Ірадам і чартом, або чартом і жыдам «паказ» гэты канчаўся

звыклым павіншаваньнем «Вэсолых Сьвёнт» выгалошваных усімі ўдзельнікамі унісонам. Пасьля гэтага «жыд» падстаўляў торбачку ў якую гаспадыня клала крыху «скароміны», а часамі й пару медзякоў. Гэты звычай ня толькі што не пашырыўся сярод мясцовага насельніцтва, але наадварот, часамі выклікаў нават насьміханьні. Бо часта старэйшыя сваручыся на дзяцей казалі: «Чаго вы таўчацёся па вуліцы бяз толку, як тыя Крулі? Мянушка «Крулі» была дадзена падобным групам ад Каралёў і Ірада, які таксама быў у кароне).

Таксама ня быў пашыраны звычай абдзяляньня падарункамі дзяцей, а тымбольш дарослых, як гэта робіцца тут у Амэрыцы. Праўда, дзеці атрымоўвалі на Сьвяты штосьці з вопраткі або абутку, часамі нават крыху ласункаў, як гарэхі, сушаныя грушы й сьлівы й вельмі рэдка купленыя ў краме цукеркі.

### Новагодняя (Багатая) Куцьця.

Багатая Куцьця розьнілася ад Каляднай тым, што яна магла складацца не абавязкава з дванаццаці страў. Стравы на Багатую Куцьцю былі ўжо скаромныя, ня выключаючы й куцьці, якая прыпраўлялася салам са скваркамі, маслам ды сьмятанай. Таксама не абыходзілася часамі й бяз чаркі. На стол ужо не рассьцілалася сена, абрус мог быць звыклы, абы толькі чысты.

На Куцьці магла ўжо быць ня толькі свая сям'я, але таксама й запрошаныя госьці. Выпівалі аднак даволі асьцярожна, бо ў поўнач большасьць людзей ішла ў сьвятыні на Новагоднія Богаслужбы. На Богаслужбы ішлі ў першую чаргу старэйшыя й хлапцы, бо дзяўчаты ў гэты вечар ізноў варажылі.

Варажбіткі зьбіраліся ў асобную хату, дзе не маглі быць прысутныя асобы мужчынскага роду. З хаты выпрашаліся нават старыя бацькі й недарослыя хлапцы, бо верылі, што інакш варажба «ня будзе праўдзіць».

Сама варажба была больш рознастайнаю як калядная, бо ў ёй прымала ўдзел больш асобаў ды ўжывалася больш спосабаў.

Першым зь іх было кармленьне курэй, а выглядала яно вось як: Кожная зь дзяўчат мусіла адлічыць сабе ў жменю пэўную колькасьць ячменных зярнят, або яшчэ лепш ячменных круп, якія лепш відаць пры сьвятле. Наступна кожная зь дзяўчат высыпала гэтыя крупы ў асобную кучку ў роўным радку адна да другой на падлозе. Пасьля гэтага гаспадыня прыносіла ў хату курыцу й пускала яе каля парогу. Курыца сьпярша асьлепленая сьвятлом кідалася з кута ў кут як ашаломленая, але пасьля некалькіх хвілінаў прыходзіла да сябе й пабачыўшы крупы, пачынала іх кляваць. З чые кучкі яна пачынала дзёўбаць, дык гэта азначала, што да тэй дзяўчыны ў першую чаргу зьявяцца сваты. Толькі сама дзяўчына ведала канчатковы вынік, а дзеля гэтага павінна была пералічыць крупы перад тым, як ссыпаць іх на зямлю й пазьней, калі ўжо курыца адыйшлася. Калі заставаўся парны лік зярнят або круп, адняўшы ад іх той лік, які быў высыпаны на падлогу, — дык гэта лічылася памысным, калі-ж няпарны, — сватаўство ня дойдзе да скутку.

Пасьля гэтай варажбы ўсе дзяўчаты выходзілі на панадворак і кожная зь іх зьдзеўшы з нага чаравік кідала яго паверх зачыненых варотаў. Калі чаравік лёг наском навонкі азначала, што яна пойдзе замуж у наступным годзе. Калі-ж насок быў зьвернуты ў бок панадворку, яшчэ адзін год будзе дома. Але найгорш, калі ён лёг раўналегла да варотаў, гэта азначала, што «шчасьце міне цябе, яго забяруць іншыя». Вяртаючыся ў хату дзяўчаты заплюшчыўшы вочы абыймалі разхіленымі рукамі калкі ў плоце ды пералічыўшы іх мелі таксама вобраз свайго шчасьця.

Вярнуўшыся ў хату дзяўчаты бралі залаты абручальны пярсьцёнак і прычапіўшы яго на нітку давалі канцы гэтай ніткі аднэй з прысутных у руку, а сам пярсьцёнак загадвалі апусьціць у шклянку напалавіну напоўненую вадой. Рабілася гэта з такім разьлікам, каб ён вісеў як найбліжэй да паверхні вады, але ні ў якім выпадку не датыкаўся яе, «каб не ўтапіць варжбу». Калі пярсьцёнак ківаўся з боку ў бок, азначала няпэўны лёс варожучай, калі званіў аб берагі шклянкі, — вясёлы й шчасьлівы год, калі зазваніў і затрымаўся, азначала вясельле, калі-ж вісеў спакойна, — жыцьцё без вялікіх зьменаў, але й без няшчасьцяў. Найгорш калі канцы ніткі высьлізнуліся з пальцаў трымаючай, бо гэта азначала сьмерць у сям'і, або нават і для яе самой.

Далей, растаплівалі ў бляшанцы невялікую колькасьць воску згадваючы пры гэтым імя аднэй з прысутных. Тады вылівалі гэты воск у міску з вельмі халоднай вадой. Атрыманыя зьліткі трымалі паміж заслоненай з трох бакоў лямпай і белай сьцяной. Калі адбітак, ці інакш цень, на сьцяне нагадваў кветкі, гэта азначала шлюб варожучай, або прынамсі кагосьці ў сям'і; вэлюм, — бязумоўна замужжаства; чалавека, — пачатак каханьня. Ня трэба ўжо й гаварыць аб калысцы ці труне, якія таксама часамі паказваліся на сьцяне на ўтрапеньне варожучай ды спачувальныя ўздыханьні прысутных.

У самы дзень Новага Году старэйшыя па Богаслужбе наведвалі сваякоў і прыяцеляў, каб выказаць ім навагоднія пажаданьні, а моладзь ладзіла вечарыны або ўспамінанага ўжо Цярэшку, калі гэтая гульня зь нейкіх прычынаў не адбылася на другі дзень Калядаў.

(працяг будзе)

---

**Д. Шатыловіч** (Беласточчына)

Я зноў імкнуся да краіны.
Там, дзе юнацтва ўсё правёў,
Дзе зьзяюць кветкамі даліны,
Дзе сьвежы пах дзьме ад лугоў.

Дзе чырванее канюшына
І дзе сваволяць матылькі,
Там, дзе пад небам сьветла-сінім
Ласкаюць вочы васількі.

Дзе лесу шум мне байкі шэпча,
Сьпявае песьні птушак хор,
А паднябесным трэлям пеўчых
Дапамагае рэхам бор.

Там, дзе з раскошаю спаткаю
Маіх знаёмых і сяброў,
Дзе песьні даўнія сьпяваюць
На мове дзедаў і бацькоў.

Там буду мець я перапынак.
Ад розных спрэчак і хлусьні,
І мець кароткі адпачынак
Ад няпрыемнай мітусьні.

Імкнуся я да сьветлай волі,
Да родных ціхіх берагоў,
Дзе я і ў долі і ў нядолі
Калісь юнацтва ўсё правёў.

Уладзімер Глыбінны (ЗША)

# ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

працяг

Нейкімі асабліва прыціхлымі выдаліся яму вуліцы гэтага вечару. Хоць яшчэ па старой інэрцыі яны былі запоўненыя натоўпамі праходжанаў, але патаемны страх ужо паклаў свой сьлед на людзей. У натоўпе ўжо не адчувалася беспасярэдняе маладое гаворкасьці ды пярэстасьці галасоў. Праўда таго вечару яшчэ па-старому працавалі кінатэатры, і опэрны тэатр даваў свой чарговы паказ. У тэатры Дому Чырвонае Арміі нават мусіў яшчэ адбыцца паказ Маскоўскага Мастацкага Акадэмічнага Тэатру, які кагадзе прыехаў на свае гастролі ў Менск і якраз надовечы пачаў сваю працу. Афішы рэклямавалі знаныя прозьвішчы Масквіна й іншых. Здавалася, агульны рытм жыцьця яшчэ нічым ня зрушыўся.

Але ўжо першыя трамвайныя асьвятленьні цьмянага сіняга колеру ды завешаваньні сінімі папяровымі закрываламі вітрынаў магазынаў ды вокнаў дамоў можа найперш далі зразумець кажнаму, што сапраўды йдзе ўжо вайна. У гэтых праявах можа ўпяршыню слова “вайна” пачало прымаць канкрэтны зьмест.

Прайшоўшы ўздоўж галоўнае вуліцы й адчуўшы асабліва балюча гэтага вечару сваю адзінотнасьць і пакінутасьць, Кастусь падаўся дамоў. Толькі на паўдарозе перадумаў і павярнуў у бок Пярэспы, дзе на адным з ускрайных селішчаў жыў ягоны адзіны сябра Язэп. Гэта быў адзін зь вялікага ліку сяброў маладосьці, унівэрсытэцкіх год, пісьменьніцкіх пачынаньняў і спадзяваньняў, якіх пасьля кон усіх параськідаў у далёкія выгнаньні. Гэты адзіны дзівам захаваўся.

Быў ён чалавекам зусім не падобным да ўсяе тае бальшыні ягоных аднагодкаў, што запоўнілі сьцягі новае інтэлігенцыі. Паходзячы зь сялянаў дзесь з Аршанскае акругі, ён, відаць, змалку праз літаратуру, да чытаньня якое быў вялікі ахвотнік, увабраў у сябе лепшыя запаветы тварцоў клясычнае мастацкае спадчыны й пераняў ад іх разуменьне чалавечае годнасьці й каштоўнасьці.

Таму ў сваёй творчасьці і ў жыцьці ён заставаўся заўсёды чалавекам. Ня йшоў крывымі шляхамі прытарнаваньня да сыстэмы, не патураў вымогам паказаць “соцыялістычных герояў”. Ягонымі героямі звычайна былі або малыя дзеці, якія яшчэ не пасьпелі паддацца агульнаму псаваньню, або старыя разважлівыя людзі, філёзафы з народных гушчаў, што выстаялі сваю асобу ў завірухах жыцьця й астоіліся ў самастойныя, нязломныя арыгінальныя характары. Таму й цкавала яго напераменку крытыка, як рэакцыйнага “асталага” пісьменьніка. Даўгія пэрыяды, па колькі год, не друкаваўся. Пасьля, сьціхалі крыху пагромы беларускае літаратуры, ізноў пачынаў зьяўляцца, апошнімі часамі зь дзяцінымі апавяданьнямі пра буслоў,

лясных зьвяроў ды палявых тубыльцаў.

Гэтак і абмінаў ён пакрысе абавязкавы кажнаму пісьменьніку ў саветах "соцыяльны заказ". Ні ў якія арганізацыі ня лез, да высокіх пасадаў ня пнуўся, перакідаючыся на невялічкіх тэхнічных пасадах, як "літаратурна-стылістычнага рэдактара" ці карэктара пры выдавецтвах. Прынцыповая беспартыйнасьць і адасобленасьць, абумоўленая ёю пасыўнасьць у сэнсе грамадзкім, замкнёнасьць у сваім асабістым сямейным жыцьці ратавалі яго ў часох пагромаў беларускае інтэлігенцыі. Частая зьмена пасадаў, пакіданьне надоўга Менску й праводжаньне часу ў вёсцы, зьдзержлівасьць, каб лішняга слова не сказаць, прыялі ягонаму перахаваньню й рабілі яго вынятковаю зьяваю сярод беларускае інтэлігенцыі. Гэта быў выпадковы недасек у поўным сэнсе гэтага слова.

Ягоная жонка, Жлобінянка, былая мэдычная сястра, надораная моцным пачуцьцём замілаваньня да сямейнага жыцьця, абыходлівая зь людзьмі, уважлівая да сям'і, рабіла ўсё магчымае, каб водар сямейнага шчасьця ня страціў свае моцы.

Гадуючы адзінае тым часам дзіцё, хлопчыка год каля шасьці, яны ўмелі досыць утульна абсталяваць невялікую кватэру ў дзеравяным стандартным, местачковага тыпу дамку.

Паліцы з кніжкамі клясычнае літаратуры найноўшых выданьняў, мяккія канапы па бакох, радыё й настольныя электралямпы на стале адразу выклікалі адчуваньне ўтульнасьці й прыемнасьці ў наведніка. Ветла-зычлівае перайманьне й абыходжаньне з госьцьмі самое гаспадыні, маладое, высокае, вясёлае і ў сваёй весялосьці прынаднае, разам са шчырасьцю гаспадара рабілі рэдкія наведваньні да гэтае сям'і заўсёды жаданымі й памятлівымі Кастусю. Ды гаспадары й самі былі радыя яго бачыць. Відаць, бязьлюдзьдзе імі адчувалася, як далёка ненармальная зьява, хоць, здавалася-б, маглі ўжо яны зь ім з гадамі звыкнуць і зжыцца, як зь няўніклай адзнакай даўгіх благіх часоў, ці, можа лепш сказаць, гэтага бясчасься.

Толькі ў гэтай адзінай у сьвеце сям'і Кастусь мог гаварыць, што яму падказвала сумленьне, розум і сэрца. Яны зь сябрам удвох праседжвалі часамі за поўнач, знаходзячы суполь тэмы й думкі. А калі-ні- калі наставала маўчаньне, дык і ў ім яны адчувалі адзінства пачуцьцяў. Іх аб'ядноўвала тое войстра-крытычнае ўспрыйманьне разбуральнае дзейнасьці ўрадавае, партыйнае палітыкі, што нявечыла й крышыла ўсе народныя ідэалы й перайначвала пабарбарску ўсё ад вякоў складзенае жыцьцё.

Чалавек губляў свой від, свой спосаб думаць, ставаўся дэталяй гаспадарча-партыйнае машыны. Моладзь не пераймала лепшых традыцыяў людзтва ад старшых. Чым далей, тым горш выглядала пэрспэктыва вынарадаўленьня. Дайшло да таго, што ўжо няма зь кім пагаварыць у цэлым месьце. Скрозь якіясь манэкены, што толькі ганяюцца за пасадамі ды здрадаю, падступствам і ўданьнем здабываюць сабе месца ў жыцьці. Дзе той, шуканы яшчэ Дэмасфэнам, чалавек? Калі дзе ён яшчэ й ёсьць, дык хіба толькі сярод тых старых людзей, што яшчэ дзесь пазахоўваліся там-сям у глыбіні беларускіх

пушчаў, лясоў ці забалоцьцяў, быццам якіясь перажыткі далёкага "паганства" ці "дзікунства"... Гэткія ад часу да часу й зьяўляліся на балонках Язэпавых твораў, дарма што далёка ня ўсе яны пабачылі сьвет на друкаваных шпальтах часапісу або асобнае кнігі.

Абодвы яны разглядалі савецкую канстытуцыю, як вялікае ашуканства й зьдзек над народам, фігавы лісток, каб прыхаваць ад сьвету безьліч злачынстваў, што чыніла партыя. Абодвы балюча адчувалі поўнае нябыцьцё законнасьці й пашаны да правоў чалавека, бясконцае таптаньне ўсялякае чалавечае годнасьці.

Толькі ў творах заходня-эўрапейскае літаратуры, якая ў вельмі абмежаваным абсягу зьяўлялася ў перакладах на кніжнай паліцы некаторых бібліятэкаў або кнігарняў, яны й знаходзілі нейкую прадуху для свае духовае смагі. І таму было асабліва цікава падзяліцца думкамі што да знойдзенага там цікавага выказваньня аб чалавеку, сэньсе жыцьця, каханьні й сьмерці, — усіх тых праблемах, якія спрадвеку не пакідалі цікавіць чалавецтва й былі ўдзячнымі тэмамі літаратуры ўсюды на сьвеце, апрача гэтае дзяржавы. Тут гэтыя тэмы мусілі разглядацца толькі ў нейкім "соцыяльным пляне" й толькі ў сувязі зь іншымі праблемамі "соцыялістычнага будаўніцтва" й камуністычнае прапаганды. Таму й вытхлася наша літаратура ў гэтых немагчымых для вольнага духу ланцугох, што абярталіся поўнай няволяй чалавечае думкі.

Напару ім даводзілася даведацца аб якім-небудзь новым напрамку або думках у заходнім сьвеце толькі зь невялікіх урыўкаў, што прыводзіліся штатнымі крытыкамі-пагромнікамі ў артыкулах супраць Захаду.

Гэтак было з кнігай Андрэ Жыда "Вяртаньне з Савецкага Саюзу", зь якое газэта "Праўда" ў сваім пагромным артыкуле супраць аўтара, што не апраўдаў надзеяў, ускладаных на яго, як на спадарожніка, ды выказаў колькі шчырых думак аб заганах Савецкага Саюзу, падала некалькі цытатаў. Сярод іх была тая мясьціна, дзе пісьменьнік крытычна ставіўся да несвабоды думкі ў СССР і спасылаўся на прыклад стандартнага спосабу думаньня паводле ўзораў савецкае прапаганды ў колах маскоўскіх студэнтаў, на іхны жалю годны "аптымізм" і перакананьне, што яны — найперадавая моладзь сьвету й жывуць лепш за ўсю моладзь на сьвеце ды найшчасьліўшыя.

Чытаючы гэтую цытату, Кастусь падзяляў скептыцызм і праўду, якую паважыўся выказаць гэты, учора расхвалены за прыхільнасьць да саветаў, а сёньня гэтак злосна раскрытыкаваны як здраднік і рэнэгат, вялікі францускі пісьменьнік ды нават і сусьветны.

Толькі гэтымі цытатамі ён прамовіў сэрцу Кастуся больш, чымся цэлыя горы іншае літаратуры, і стаўся яму назаўсёды як свой родны, дарагі й блізкі аднадумец, даў адчуць, што не адны мы на сьвеце, ёсьць яшчэ порах у парахоўніцах змагароў чалавечага духу.

Праз гутаркі зь Язэпам Кастусь з прыемнасьцю даведаўся, што гэтаксама адчуваў і думаў ягоны сябра, чытаючы гэтую-ж цытату ў тэй-жа інтэрпрэтацыі маскоўскае "Праўды". Быў зьдзіў-

лена задаволены адзначыць такое-ж успрыйманьне й згоду з тэй драбінкай крытыкі на адрас абагаўленьня Сталіна ў кнізе нямецкага пісьменьніка Фейхвангера: "Масква ў 1937 годзе", выданай тады-ж у СССР.

Было ўзрушлівым даведацца, што гэтая-ж адзіная мясьціна ўразіла й Язэпа, які знайшоў, як і Кастусь, у ёй пацьверджаньне сваіх думак аб гэтым бессаромным, паўсюдным, аж да агіды абрыдлым падлыжніцтве пры званьні імя ката ўсіх народаў, якому на ўрачыстасьцях бясконца пляскаюць нават і тыя, што пры першай нагодзе ўзьвялі-б яго на першую шыбеніцу.

І гэтым разам з даўно ўжо знаёмай Кастусю ветласьцяй і ўвагай яго спаткала маладая гаспадыня. Сам гаспадар зараз-жа прапанаваў яму ягонае ўлюбёнае месца на канапцы, дзе Кастусь любіў падоўгу сядзець, усьпершыся на ейныя мяккія круглыя падлакотнікі, насалоджваючыся слуханьнем заходне-эўрапейскіх або славянскіх мэлёдыяў з Сафіі або з Прагі, адкуль яшчэ можна было пачуць і старыя песьні, даўно ўжо нячутныя тут. Кастусь любіў часамі паслухаць радыёперадачы з Прагі, пачуць сьмелую крытыку саветаў, на якую ўжо даўно, нават употай, ніхто ня важыўся тут, па гэты бок мяжы. Яму было прыемна ўсьведамляць, што ён не адзін у сваім пярэчаньні й што ёсьць шмат падобных людзей на сьвеце. Ды што праўда, хай і няпоўная, куртатая й абскубаная паводле застарэлых канцэпцыяў, выходзіць усё такі на зьверх і дае пра сябе ведаць, хай і з аддаля. Ёсьць, значыць, яшчэ нейкі порах у парахоўніцах. Дык ёсьць і надзея на нешта, на зьмену, на зьінача ньне.

А яшчэ, пасьля савецкае аднастайнае песьні й музыкі, зь якім задаваленьнем услухоўваўся ён у даўно забытыя тут песьні, што цяпер толькі часамі з-за мяжы й можна было пачуць.

І яму рабілася цяжка за долю роднае беларускае песьні. Хіба няма і ў нас слаўных, высокамастацкіх узораў беларускага рамансу, дасканалае народнае песьні, прыгожага беларускага вершу, вартага таго, каб пакласьці яго на музыку? Хоць-бы сабе вершы нашага клясыка Максіма Багдановіча. Чаму на канцэртах у Менску ніколі не пачуеце Максімавае "Зоркі Вэнэры"?!

Зорка Вэнэра ўзышла над зямлёю,
Сьветлыя згадкі з сабой прывяла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Помніш, калі я спаткаўся з табою
Зорка Вэнэра ўзышла.
З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зоркі шукаў,
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Але растацца нам час наступае,
Пэўна ўжо доля такая у нас...

Чаму-ж заміж культываваньня гэтых сапраўды агульна-эўрапейскага значэньня прыгожых узораў у роднай мове, вы скрозь чуеце расейскія песьні й каля іх, збоку-прыпёку, пару якіх прымітыўных прыпевак у славу калгасных парадкаў? Вось-жа гэтак штучна й стварaецца ўражаньне, што ў Беларусаў няма нічога высока-культурнага, а толькі штось усё на роўні прымітыўна-псэўда-народнага. Ведама, такое ўражаньне мог вынесьці толькі той чалавек, які ня ведаў тых скарбаў, што ляжаць пад забаронай чужой улады. Але, гэта не здарма робіцца. Маскве выгадна ўдзержваць Беларусь у межах правінцыяльнасьці каб, барані Божа, ня ўздумала пра сябе чаго высокага ды тым не адарвалася ад Расеі. Адгэтуль і выснаў — разбурай і цісьні, каб і духу тае высокасьці ня было. Таму й трэба было вось ужо ад 1930 году ледзь ні што год якую сотню культурных дзеячоў вынішчыць ды бясконца заклікаць да пільнасьці, бясконцыя ўхіленьні, адхіленьні адшукваць ды выкарчоўваць, пагром за пагромам на беларускую культуру чыніць, каб наапошку зьвесьці яе да колькіх імёнаў "ордэнаносцаў", што творча даўно вытхнуліся й духова скалечаныя, ператварыліся ў лякеяў афіцыйнае лёзунгаўшчыны ды рэпрэзантантаў пустой і бясплоднай, нават і ў форме, культуры.

Сэрца Кастуся балела за разбурэньне "Узвышша", што меркавала паказаць вяком і народам сілу творчага генія Беларусі, за пагашанае "Полымя" ды збуцьвелы без пары "Маладняк" у беларускай культуры.

Як страту роднага чалавека, ён адчуваў жаль па забароненых прасьцінках у беларускай музыцы й тэатры, засланых творчых асабістасьцях і зьнішчаных выданьнях ды ўстановах беларускае культуры, што гэтак была закрасавала на нейкі вельмі кароткі час, менш як дзесяцігодзьдзе, да пачатку вялікага разгрому ў 1930 годзе.

Ужо пачала была адраджацца вякамі занядбаная й пагарджаная культура працоўнага сялянскага люду, і пачынала Беларусь выходзіць на агульна-людзкі мастацкі Алімп, ісьці да авалоданьня й тварэньня каштоўнасьцяў усёлюдзкага значэньня.

Адылі пранёсься зь цяжкое бальшавіцкае рукі віхор і зьнёс ейных лепшых тварцоў, цьвет народу — лепшых навукоўцаў, паэтаў, пісьменьнікаў, музыкаў, актораў, драматургаў, рэжысэраў і мастакоў. І толькі лічаныя адзінкі засталіся... Але народ не пакідае ўсё такі пасылаць і далей на дзялянкі культурнага творства што-раз новых людзей, хоць афіцыйныя рамкі ўсё сьціскаюцца й звужаюцца ды не даюць нікому высьці на шырокую прастору вольнага плоднага творства роднае культуры.

— О гора, непазбыўнае гора нашай зямельцы, няшчасьце нашаму народу! — думаў Кастусь, калі радыё-хвалі прыносілі ўсё новыя й новыя чужыя мэлёдыі.

Гэтага вечару сябры мала гаварылі. Яны абодвы больш адчувалі, што настaлі часы вялікіх зьменаў. Бог адзіны ведае, што здарыцца зь імі неўзабаве. Кожны быў працяты думкай аб гэтым няведамым. Прачувалі яны, што разам з гэтымі зьменамі, мусіць, абарвуцца й гэ-

тыя іхныя, так ужо звыклыя, спатканьні, сяброўская мена думак ды беспасярэдняя лучнасьць іхных, гэтак родна-блізкіх і, разам з тым, адзінотных у гэтым бязьлюдным сьвеце, душаў.

Кожны хацеў ведаць, як складзецца іхная доля, і кожны маўчаў, ведаючы, што не прарок, каб азначыць сваю будучыню. Вось-жа мо таму гэтага вечару яны больш, як заўсёды, круцілі пералучнікі радыё-апарату, каб пачуць нешта зь іншага сьвету.

А гэты сьвет за мяжой, чужы й нязнаны ім, хаваў у сабе тыя таемныя прынады, да якіх душа цягнулася міжвольна.

І як афіцыйная прапаганда не выкарчоўвала гэтага замілаваньня да Захаду, яно жыло ў душы кожнага інтэлігента й нават яшчэ больш падаграваласся бязупыннымі відовішчамі дзяржаўнае безчалавечнасьці ўва ўсім навакольным жыцьці.

І цяпер ім хацелася пачуць станоўкае слова з вуснаў гэтага заходняга сьвету. З чым-жа ён ідзе да нас? Што ён нам нясе? Свабоду? Ці толькі заміж адных ланцугоў іншыя, інакшыя хіба толькі формаю ды знадворнымі прыборамі?

О, як-жа ім хацелася пачуць урэшце гэтае даўно чаканае слова праўды й збаўленьня з даўгое й цяжкае няволі!

Колькі разоў прайшліся яны стрэлкай па ўсёй шкале радыё-апарату, аднак усюды ў этэры панавалі толькі нямецкія начэпныя, самаздаволеныя дыктары, што бясконца выхвалялі нямецкія франтавыя ўдачы й сваёй гучнасьцю забівалі бальшыню іншых эўрапейскіх радыёстанцыяў. Панаваньне ў этэры адлюстроўвала пару іхнага фактычнага панаваньня ў эўрапейскіх краёх.

І гэта разам наводзіла сяброў на сум, а настырлівая агрэсыўнасьць нямецкіх дыктараў адпіхала.

Была адзінаццатая гадзіна, калі яны лучылі на варшаўскую радыёстанцыю, што перадавала апошнія весткі з фронту ў польскай мове. Пачалі слухаць. І неяк нязвыкла было ўпяршыню пачуць пра тое, як нямецкая зброя, сутыкнуўшыся з савецкімі арміямі, пачала свой штурм савецкіх цьвярдыняў.

Гаварылася пра страты варожага войска й пра паход немцаў наперад.

Гэта было ім першым прабоем у тэй шчытнай заслоне ілжывае прапаганды аб неператожнасьці чырвонай арміі.

— Дык вось яно што! Трашчыць па ўсіх застаўках і паддаецца. А дзе-ж ужыцьцяўленьне таго, што ваяваць будуць на чужой тэрыторыі? Сапраўды сталася адваротна. Значыць, усё гэта была прапагандавая хлусьня, — падумаў Кастусь. — Крычэлі, верашчэлі, кляліся аб прыгатове, а цяпер бягуць, як спуджаныя авечкі.

— Вось-жа такая цана ўсялякаму самахвальству. А цяпер заслужанае ацьвярожаньне ад тлумнага чаду шматгадовае крыклівае агітацыі.

І нельга сказаць, што сябры былі асабліва здаволеныя з таго факту, што фронт зрушыўся й некалі наблізіцца да Менску, згоніць усіх іх разам з наседжаных куткоў. Зусім не. Сьцюдзёнае маўчаньне нем-

цаў пра мэты свайго выступу ўжо адразу-ж выклікала ў іхных адчувальных душах сумлеў, што да вызвольнага характару гэтага ўчынку. І хоць сам па сабе выступ імпанаваў ім сваім сьмелым і шырокім характарам, аднак ня відаць было за ім вялікіх вызвольных мэтаў. А можа гэта проста спроба прыдбаць сабе калёніі на ўсходзе, карыстаючы зь вялікага раздарожжа сярод народаў сьвету?

Бо інакшай чаго-ж было-б маўчаць пра высокія, вызвольныя мэты гэтага волатаўскага змаганьня й чаму-б не паклікаць да яго народы, што пад саветамі? Ці ня ўжыцьцяўленьне гэта адвечнага прагненьня немцаў на Ўсход? Гэтыя думкі замарочылі тыя сьветлыя спадзяваньні, што былі нейдзе далёка, на сподзе, паўсталі ў Кастусёвай сьведамасьці.

Язэп першы азваўся з гэтага замарочаньня.

— Адчуваю, што штосьь нядобрае насуваецца й зьінакшыць яно нашае жыцьцё дашчэнту.

— А як ты думаеш, будзе тут немец неўзабаве?

— Ліха яго ведае, браце, адно скажу, што ніхто ня хоча чужога панаваньня й таму, мусіць, кожны будзе усё-ж такі бараніць хоць і няпрыхільны да нас край.

— А хіба ён нам — бацькаўшчына?

— Так то яно так, абрыдлі народу партыйныя апрычнікі, але... хіба іншы лепшае прынясе?

— Калі не прынясе, дык трэба самім будзе зрабіць яго. Я думаю, нагоду трэба будзе скарыстаць.

— Некалі, на пачатку 1933 году, лучылі мне ў рукі колькі нумароў часапісу "Красная Новь". І якраз у тых нумарох друкавалася сэрыя артыкулаў Корнева, — палітычныя партрэты сучасных нямецкіх дзеячоў. Ведама, было гэта яшчэ за сем год да пазьнейшае згоды між Гітлерам і Сталінам, калі яны галасна абвяшчалі адзін аднаго сваімі галоўнымі ворагамі. Ведама, што ў гэтых артыкулах выкрываліся фашыстоўскія захопніцкія пляны нямецкіх нацыстаў. Аднак, мне было тады цікава даведацца, што Розэнбэрг зь Гітлерам трымаліся думкі падзяліць Савецкі Саюз на самастойныя буфэрныя дзяржавы, сярод іх — Беларусь і Украіна.

— Мне абсалютна ясна, што плянавалі яны гэта ня дзеля дабра Беларусі або Украіны... Мне гэтак сама ясна, што гэтыя дзяржавы разумеліся імі толькі як паслухмяныя буфэры ў іхных руках. Але ці не нагода гэта нам выкарыстаць гэтыя намеры немцаў на нашую карысьць і ўтварыць, напачатку хай і буфарны, але ўсё-ж дзяржаўны арганізм. Пасьля ўзгадаваньнем нацыянальнае сьведамасьці ў нашым народзе пастараемся дамагчыся, пры дапамозе заходняга дэмакратычнага сьвету й поўнае дзяржаўнае незалежнасьці, ужыцьцявіўшы тым самым вялікія ідэялы, запавяданыя нам Радай Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе, — скончыў досыць патэтычна Кастусь.

— О, дружа, дык ты гэта тут ужо цэлую праграму выклаў, а ўсё казаў, што не палітык. А я бачу — галава ў цябе працуе няблага.

Дык вось, скажу табе, — ня веру я ні ў якія добрыя намеры немцаў да нас, Беларусаў. У ўсякім выпадку, не паверу, пакуль не пабачу. Кожны йдзе заваёўваць і захапляць сабе зямлю й дармовыя рукі. Калёніі ім патрэбныя, вось што. Дзеля нас яны ня будуць праліваць сваю кроў. А яшчэ хто, — немцы, гэтыя зайздрасьнікі да чужога багацьця. Я крыху памятаю іх у нас у 1918 годзе, — дзень і ноч абіралі нашу зямельку, грабілі, пакавалі ў вагоны й адсылалі ў свой ненажэрны "Дойчлянд".

— Ужо цэлыя стагодзьдзі іхнае прагавітае вока ўглядаецца ў гэтыя прасторы — на ўкраінскую пшаніцу ды на беларускае жыта, масла, сала й лес. Вось што ім трэба. І хоць і наш зьдзірца абдзірае нас да ліпкі, аднак ад зьмены зьдзірцы нашаму народу наўдачу ці будзе лепш.

— А што да калішніх філязофскіх практыкаваньняў былога эстонскага немца Розэнбэрга, дык гэта-ж, браце, толькі адна пісаніна. Практыка заўсёды выглядае іначай і аж надта ўжо розьніцца ад плянаў розных палітычных сябелюбцаў. Я думаю, ня варта ім даваць асаблівае веры. Ды, бачыш, маўчаць яны цяпер аб тым. Відаць, жыцьцё й падзеі падказваюць ім іншую тактыку. Удачы іхнае зброі маглі замарочыць ім галовы, і яны могуць аддаць перавагу перамогам мяча над развагамі цьвярозага розуму.

— Ня веру, браце, нікому. Хто ў гісторыі ня гуляў ужо на нашых прасторах, якімі толькі ботамі не таптаді нашыя палеткі, але нешта ня ўспомніць, каб быў хто сярод іх нашым дабрадзеем.

— А ці ня ведаеш ты, што Напалеон прыйшоўшы да калішняе нашае сталіцы, Вільні, згадзіўся аднавіць нашую старую дзяржаўную форму, — Вялікае Княства Літоўскае, як зусім асобнае й незалежнае ад адноўленага ім яшчэ перад тым у Варшаве Каралеўства Польскага? Відаць, Напалеон быў добра паінфармаваны пра мінуласьць нашага краю, калі не дазволіў польскім прэтэнзіям улучыць яго ў Польшчу.

— Але, гэта было. Не пасьпела аднак яно ў поўнай меры зрэалізавацца з прычыны вельмі кароткага часу й пасьпешнага адыходу французкае арміі. Дзеля таго яшчэ рана казаць, ці меў-бы наш народ якую карысьць ад пераданьня ўлады на Беларусі мясцовым магнатам, у бальшыні спалячаным. Ды ў гэткай дзяржаве ўсё адно не абышлося-б без барацьбы з польскімі тэндэнцыямі валадарнага магнацтва. Ня думаю, каб там хадзіла аб аднаўленьне парадкаў з часоў слаўнае Альгердавае пары, калі беларуская мова была ўрадава абвешчаная за дзяржаўную і ўсе пісары павінны былі пісаць беларускай мовай, пра што сьведкам — ведамы Статут Літоўскі.

— Беларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім ня толькі ў часе Альгерда, але аж да канца семнаццатага стагодзьдзя. А што да магнатаў, дык усюды, дзе пры помачы Напалеона паўставалі новыя, або аднаўляліся старыя дзяржавы, касавалі прыгон і заводзілі, як на той час, дэмакратычныя дачыненьні. Праўда, у гэтым часе беларускія магнаты гаварылі міжсобку па-польску або па-фран-

цузку, але з гледзішча палітычнага яны заставаліся беларускімі патрыётамі. А як беларускія паны, у тым ліку й магнаты, ставіліся да вызваленьня сялян ад прыгону, відаць з таго, што некаторыя зь іх тады звольнілі сялян ад прыгону. Апрача таго, перад трэцім падзелам, беларуская дэлегацыя да францускага рэвалюцыйнага ўраду абавязалася ад імя ўсіх паноў звольніць у незалежнай Беларусі ўсіх сялян ад прыгону.

— Гм, калі так, дык, значыцца, ня было так блага, ды ўсё гэта толькі гістарычныя рэмінісцэнцыі, благія ці добрыя, але на сяньня — толькі фікцыі. Сяньня кіруюцца ня былым блескам калішніх дзяржаваў, а сяньнішнімі патрэбамі й інтарэсамі. Але я з табой часткава згодзен, што сытуацыяй трэба будзе карыстацца, каб нават і ў благіх абставінах зрабіць нешта лепшае для агульнага дабра. Ды сяньня яшчэ цяжка азначыць, што гэта за абставіны будуць.

— Вось-жа й я кажу блізу тое самае. У істоце мы з табой згодныя. Можа нават ужо найбліжэйшыя дні зьнячаць нашу долю, а тады будзе відаць. А цяпер мы раськіданыя, неарганізаваныя й слабыя, каб што-небудзь рабіць. Ды нас, гэтых недасекаў, можна на пальцах пералічыць... Ну што-ж, будзем чакаць ходу падзеяў.

— Думаю, што й чакаць доўга не давядзецца нам, бо пэўна-ж у армію забяруць за колькі дзён.

— І яно праўда... Хоць я, апрача кароткатэрміновага збору яшчэ перад пачаткам вучэньня ў унівэрсытэце ў 1930 годзе, папраўдзе сказаць, і ў арміі ня быў — выгнаньне ды пазьнейшае бадзяньне зь месца на месца ратавала. Ды не хацеў-бы, бо пазнаў смак салдаччыны й за тыя колькі тыдняў муштры. Абрыдла на ўсё жыцьцё, асабліва палітычныя заняткі, што прагорклі да самага нутра. Вось-жа й цураюся, пакуль удаецца, войска, як мага. Дзе на ўлік вайсковы ня стану, дзе скручу, што часова праездам там жыву, дзе на выклік райваенкамату ня стаўлюся, а неўзабаве зьеду дзе ў іншае месца. Гэтак дацягнуў аж пакуль у запас, як старога, не пералічылі, ужо тут, у Менску, гэтае зімы. Гэтак і ператрываў, дзякуй Богу.

— Дык і ў мяне нешта падобнае. Свайго часу вучэньне ратавала, калі яшчэ было льга карыстаць з палёгкаў. Пасьля праца, разьезды ўлетку, калі на зборы клікалі, а там гады... Але цяпер, думаю, не ўратуемся.

— Але, цяпер, у вайну, цяжэй будзе ўратавацца — законы ваеннага часу не на жарт суровыя — дадаў Кастусь. — Тут ужо ня выкруціцца... Давядзецца, як паклічуць,ісьці цягнуць лямку.

— А цікава-б было згадаць, як складзецца доля кожнага з нас, ці ўратуем жыцьцё ў гэтай завірусе?

Яны разьвіталіся з адным і тым-жа настроем няпэўнасьці за будучыню кожнага і клопатам аб тым, што ім доля прынясе заўтра.

У апошнюю часіну Язэпу падумалася, ці не небясьпечна Кастусю ісьці начаваць дамоў дзеля ягонага мінулага засланьня, якое, пэўна-ж, ведамае ў НКВД. А сяньня-ж у дзень ужо быў агалошаны "ўказ" савецкага ўраду аб ізаляцыі "соцыяльна-небясьпечных элемэнтаў".

Зусім магчыма, што й Кастусь падлягае гэтаму "ўказу" й будзе аднесены да гэтае катэгорыі. Ды наагул, пэўна-ж, пачнуцца масавыя арышты, і каму-каму, а Кастусю зь ягонай мінуласьцяй можа-б трэба было хавацца.

Гэтая думка мільгнула, ды зараз-жа згасла ў Язэпавай сьвядамасьці.

— Дык-жа ён лепш ведае, што яму рабіць, — падумаў ён. — Можа ня так борзда адразу пачнецца ўсё гэта, а я ўжо сяньня яму буду казаць і папярэджваць. Можа яшчэ зарана сяньня прапанаваць яму застацца начаваць у мяне. А наапошку, чым я больш гарантаваны ад гэтае самае долі? Хіба са мной ня можа быць таго самага, што зь ім? Чым-жа мы ў суці розьнімся, апрача таго, што мне, выпадкам, у свой час пашанцавала перахавацца, а ён трапіў у пастку.

І хоць ён ведаў, што Кастусь не абразіўся-б за напамін быць асьцярожным, аднак, пачуцьцё такту й прыроджаная інтэлігентнасьць Язэпавае натуры зьдзержыла яго тымчасам ад гэтае парады свайму сябру.

Яны разлучыліся з узаемным схаваным прачуваньнем нечага нямінучага, няведамага й неспадзяванага, што мусіць зваліцца на іхныя галовы неўзабаве. Калі яны паціскалі адзін аднаму руку на разьвітаньне, на мамэнт асабліва выразьлівым сталася прадбачлівае адчуваньне, што гэта яны ўжо мо апошні раз спаткаліся й цяпер мо апошні ўжо раз адчуваюць цёплы дотык сяброўскае рукі й апошні раз бачаць узаемна спагадлівы блеск вачэй. Можа гэтая ростань станецца апошняй на цэлае жыцьцё, калі давядзецца каму зь іх перажыць гэтую новую наслань.

## 3. НЕЧАКАНЫЯ ГОСЬЦІ

Нешта каля дванаццатай гадзіны ўначы Кастусь апынуўся ў сваёй каморцы. Там было страшэнна горача. Паправіць гэтую сытуацыю было немажліва. Вокны мусілі быць завешаныя коўдрамі, пакуль у пакоі сьвяціла сьвятло. Пакідаць-жа вокны адчыненымі на ўсю ноч у такія часы выдавалася вельмі небясьпечным. Гэта-ж аднапавярховы маленькі дамок, ды яшчэ тут, на ўскраіне, дзе й да міліцыі далёкавата. Калі гэта было небясьпечна з узгляду на зладзеяў ды забойцаў у мірны час, дык цяпер тым больш загадзя трэба быць асьцярожным. А за дзень пад палкім чэрвенскім сонцам, у той год асабліва пякучым, гэты дамок да таго прагрэўся, што ў пакоі было цяжка дыхаць.

Бацькі даўно ўжо спалі... Маці, падняўшыся на стук і адчыніўшы Кастусю дзьверы, хутка зноў заснула... У цішыні чуваць было яе дыханьне. Відаць, стамілася зьвечару ад думнага бяссоньня й нарэшце, пераможаная сном, здалася яму, змораная да таго доўгім штодзённым хатнім клопатам ад самае раніцы. З кухні ледзь-ледзь чутна даносіліся шорахі дыханьня старога бацькі.

Аднак Кастусю ня спалася. Ці то ад аднае духаты, або, больш падобна, ад узбуджаньня, ён нібыта й ня думаў класьціся спаць.

Затуліўшы зыркае начное сьвятло электрычнае лямпкі вялікім лістом сіняе паперы гэтак, каб яно не сьвяціла на матчын ложак ды ў твар сьпячае, спачатку ён прысеў да стала, разгарнуўшы кнігу.

Але дзе там... Хіба чытаньне йшло ў голаў? Прабягаў вачыма радкі літараў і тут-жа праз часіну лавіў сябе на тым, што нічога ня ўцяміў з прачытанага. Вяртаўся зноў і зноў да прачытанага, але ўсе намаганьні былі дарэмнымі. Думкі кудысь увесь час уцякалі ад чытанага, дарма што змушаў сябе вачыма не адрывацца ад радкоў.

Нарэшце кінуў, падыйшоў да вакна, і, загадзя вылучыўшы сьвятло, адхінуў край коўдры ад шыбы... За вакном была сьветлая чэрвеньская ноч. Чыстае сіняе неба мігацела тысячамі зорак. Кожная зь іх зіхацела, уздрыгвала й пасылала на зямлю свае бледныя халодныя знакі з іншага, далёкага й няведамага сьвету, які яна рэпрэзантавала сабой.

Над местам ня было відаць звычайнага ў такі час дывану агнёў ад вулічных ліхтароў, вакон дамоў ды доўгіх агністых шэрагаў электрычных лямпаў уздоўж чыгуначных шляхоў ды розных прыбудоваў на станцыі.

Усё прыхавалася й як-бы замерла ў цемры... Таму й набралі свае поўнае сілы адвечныя нябесныя сьвяцілы — тысячы зораў, што цяпер ня блекнулі й ня трацілі ў сваім бляску й зыркасьці над морам гарадзкіх агнёў. Яны былі ва ўсёй сваёй чароўнай незацемненай прыгожасьці. Нябесны звод сінеў і набраў свае выразістасьці й азначанасьці. На яго цяпер можна было глядзець і глядзець, дзівячыся Божаму цуду, што стварыў гэткі пекны чар прыроды ды пакінуў на шчасьце й уцеху людзей. Але людзі не разумеюць гэтага багацьця, дадзенага ім з Божых рук і Ягонае ласкі.

Зачараваным зрокам Кастусь прыпаў да небасхілу, і думкі яго снавалі вакол параўнаньняў і асацыяцыяў.

— О, гэтае вечнае хараство! — захоплена прамовіў ён амаль што ў голас да самога сябе. — Яно жыве заўсёды, адвеку, ад самога стварэньня гэтага цудоўнага сьвету, і будзе існаваць вечна... Праявы яго жывуць у душы чалавека, толькі не заўсёды яны выходзяць навідно, — думаў ён далей. — Часамі патрэбен зрух, якаясь надворная падзея ў жыцьці чалавека, каб ён мог ськінуць зь сябе кару нарослых умоўнасьцяў жыцьця, заўсёдняга страху за свой і сваіх блізкіх лёс, пазбыцца накінутых і чужых ягонай натуры звычак і паводзінаў, выйсьці із змушанага падпольля духу, і, расчыніўшы шырака сваю душу павевам вольнага прыгожага сьвету, увабраць яго ў сябе й праз сябе, збагаціўшы аздобамі свае асобы, аддаваць іншым і несьці далей у сьвет, усяму чалавецтву адвечныя каштоўнасьці, прыгожасьць, любоў, літасьць, спагаду ды шчырую сяброўскасьць.

— От-жа ў гэтым можа й сэнс існаваньня чалавека, вянца прыроды, вышэйшае пад Богам жывое істоты.

Сузіраньне й развагі будзілі ў ім пачуцьцё адзінства з сваімі продкамі. Можа яны гэтак-жа сама, наглядаючы за россыпам зорак у небе, пачувалі сябе часьцінай гэтага неабсяжнага сьвету й былі

зачараваныя ягонай прыгажосьцю.

Прыгадаўся Ул. Жылка зь ягонай лірай, дзе

"Зьвініць матыў і кожны тон —
Сусьветнай пекнаце уклон".

Адно, ягоную ўвагу ад гэтага назіраньня адцягвалі якіясь загадкавыя ўспышкі чырванавата-зелянаватага сьвятла над горадам, недзе ў раёне вакзалу. Выглядала, нібы нейкія ракеты ўзносіліся праз пэўныя прамежкі часу высока ў небе й зрабіўшы крывую ў выглядзе няпоўнае дугі на момант асьвятлялі высачыню рассыпаўшыся тысячамі дробных агеньчыкаў-іскрынак, хутка гасьлі. Ад гэтага цемра ставалася на нейкі час гусьцейшай і раптоўна запаноўвала заправўдная ноч, пакуль вочы ня звыкаліся й пачыналі выразьніваць шэраватыя цені высокіх будынкаў.

Ён глядзеў угору. Вось ізноў узьляцела зялёная, а за ёю чырвоная ракета.

— Гэта, мусіць, нейкія сыгнальныя знакі. Але чые? Савецкія, ці можа... нямецкія?

Яму цяжка было дапусьціць, каб гэта былі ўжо чужыя разьведчыкі ў самы першы дзень вайны.

Не пасьпеў ён узважыць сваіх меркаваньняў, як раптам пад вокнамі, што выходзілі на вуліцу й былі цяпер зачыненыя ваканьніцамі знадворку, пачуліся прыцішаныя мужчынскія галасы. Да вушэй даходзіла нейкая нявыразная гутарка. Было ўражаньне, што некага шукаюць. Кастусь насьцярожыўся й пачаў прыслухоўвацца. Падобна, штой маці прачнулася ды таксама прыслухоўвалася. Праўда, за часіну ўсё прыціхла.

— Сынок, хто гэта ходзіць пад вокнамі? — запытала маці прыўзьняўшы голаў ды глянуўшы на яго.

У гэты момант Кастусь быў зусім спакойны, зраўнаважаны нядаўным назіраньнем, не прадчуваў нічога благога й не прыдаваў асаблівай увагі пачутаму. Таму, каб заспакоіць маці, ён зусім шчыра, аўтарытэтным голасам сказаў:

— Ат, сьпі, мама, мала хто ходзіць. На кожнае такое адгукацца ня хопіць ні часу, ні змогі. Хай сабе ходзяць, калі ім хочацца швэндацца ўночы пад чужымі вокнамі. Ня трэба гэтаму даваць увагі. Сьпі, мамачка, сьпі...

Маці нічога не сказаўшы замружыла вочы, але ўжо заснуць не магла. Нешта нядобрае прадчувала матчынае сэрца. Гэта-ж ужо мусіць за поўнач. Каб хто толькі праходзіў, дык не запыняўся-б гэтак доўга тут ды без патрэбы не пачынаў-бы гэтых гаворак. Ой, нядобрае чулася матчынаму сэрцу...

— Ня дай, Божа, прыйдуць... А час благі... — Яна баялася давесьці думку да канца. Нічым ня выдала сыну сваіх турботаў, ляжала з замружанымі вачыма са сваімі цяжкімі матчынымі думкамі, удаючы, што нібы сьпіць. Нат на правы бок павярнулася, тварам да

сьцяны, каб схаваць свой нясьцерпны боль прадбачлівых пачуцьцяў небясьпекі. У думках яна зноў перабірала ўсе моманты ейнага жыцьця. Успомніла пра першае дзіця, ягонае ўзгадаваньне, вучэньне, сяброўства, ростані, шматгадовае бадзяньне, калі ня меў права вярнуцца ў родны горад пасьля засланьня. Урэшце падумала пра сумеснае жыцьцё, пасьля ягонага звароту ў роднае гняздо. І як тое верацяно, без унімку, круціліся ейныя думкі ўсё аб ім.

— Божа мой, Божа! Як-жа яму не шанцуе. Прычапілася ліха зь бядою й ня хоча адчапіцца, што тут не рабі. І няма куды зьбегчы ад яго. А тут гэтая вайна зноў наверзлася... Цяпер дрыжы ды думай, што нешта здарыцца. Насланьне ліхое!

— Чым-жа, Божа, ён цябе ўгнявіў? Ён-жа й вока чалавеку не запарушыць, ня тое, што нешта злое зробіць. Божа, мой Божа, адвядзі ад яго гэту напасьць, пашлі яму ўдачу зьберагчы сябе ў гэтае бясчасьсе. Няхай яно абыйдзе яго ўзбочнымі шляхамі ды адвядзе ад яго ўсе злыя сілы...

— Малю цябе, літасьцівы Збаўца... Збаў нас ад ліха... — шаптала яна ўпотай, нячутна для іншых.

Матчына трывога міжвольна перадавалася Кастусю. Можа ён і ня даў-бы ніякае ўвагі крокам ды гутаркам за вокнамі, каб ня ейныя трывожныя запыты, якія ў яго спарадзілі нейкі нявыразны, захаваны спалох. Гэта ня быў страх за свой лёс. Зусім не. У гэты момант ён зусім не адчуваў ніякага страху за самога сябе. Яму і ў думку не прыходзіла, што якаясь небясьпека можа гэтак хутка стаць перад ім адразу-ж, у гэтую першую ваенную ноч.

Небясьпека магла пагражаць значна пазьней, калі, скажам, фронт зрушыўся-б, і Менск апынуўся ў раёне блізкім да франтовых дзеяньняў. Выглядала, што пройдзе час, пакуль улады агледзяцца ды пачнуць зьбіраць "ворагаў народу" ды ізаляваць небясьпечаы элемент.

(далей будзе)

---

Максім Багдановіч

## НА ЧУЖЫНЕ

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок,
Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў цяньку васілёк.

"Здароў будзь, зямляча!" — чуць бачны ў даліне
Панура, нявесела шэпча ён мне:
— "Успомнім, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане".

## СЁЕ - ТОЕ... І яшчэ НЕШТА...

Мяне лаюць — значыць, я існую.

**Яго сталым пунктам апоры была буфэтная стойка.**

Чым карацейшы розум, тым даўжэйшы язык.

**Пяць дзён не працуе, а два адпачывае...**

Калі ў цябе дрэмле талент, дык хоць сам ня сьпі.

**Аматараў бутэлькі вельмі цяжка вывесьці на правільны шлях: яны ледзь трымаюцца на нагах.**

Нясьці свой крыж зручней за ўсё на бліжнім.

**Папера не чырванее ад сораму. Папера бялее ад страху, што яе сьпішуць глупствам.**

Узяўся-б за розум, ды дзе яго ўзяць?..

**Дасягнуць дасканаласьці цяжка, але-ж дурням гэта ўдаецца.**

Чалавек жыве век, а добрая справа — два.

**Хлусьні было прыемна, што яе называлі «ілжэ - ісьцінай».**

Сьвіньня за вушамі сонца ня бачыць.

**Калі час — грошы, чаму жыцьцё — капейка?**

Калі не наеўся, то й не наліжашся.

**Хацеў праўдзе паглядзець у вочы, ды яна ад яго адвярнулася.**

Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.

**Разам з сапраўднымі посьпехамі прыходзяць фальшывыя сябры.**

Хто цягне, таго паганяюць.

**Хто заўсёды сядзіць на мелі, той ніколі ня ўтопіцца.**

На тое шчупак у рэчцы, каб карасі не драмалі.

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

Валодаў ён такім уменьнем:
Плыць ціха, ціха па цячэньню,
Ня ведаў, што віры бываюць,
А зараз — бурбалкі пускае.

Язэп Кудзеля



Язык з вушамі не ў ладу.
Ён быў заўсёды «ў хаду».
Што вушы скажуць па сакрэту,
Язык адразу ўсяму сьвету.
За што бываюць і расплаты —
Б'юць па вушах языкаватых.

Міхась Скрыпка

— Колькі малака ў дзень дае ваша карова?
— Дзесяць літраў.
— А колькі прадаяце?
— Дванаццаць.

— Карове хвост псуе фігуру, —
Зьвінеў камар, упіўшыся ў скуру.
А авадзень на гэта: — Сьмех, ды годзе —
Зусім ёй хвост не падыходзіць.



— Паваліўся плот, Сымон!
— Вось і добра, — кажа ён. —
Гаспадар зь мяне талковы:
Хай падсохне — будуць дровы!

— Зноў па задачках двойку атрымаў, —
Міхаэлку бацька дакараў.
— Віны сваёй у гэтым я ня бачу,
Вы-ж з мамай так рашылі мне задачу.

Ігната сталі дакараць:
— Прап'еш ты розум, хлопец.
— Нашто яго мне прапіваць,
Калі й грошай хопіць.

— Учора я, —
Сказаў Мікола Толю, —
Пацалаваў у парку Волю.
— І што яна?
— Такую заляпіла аплявуху,
Аж зазьвінела ў левым вуху.
— А ты?
— Я тут-жа, брат,
Пакляўся зь перапуду,
Што болей цалаваць яе ня буду.
— Ну, а яна?
— Ды што яна, —
Сказаў Мікола гэтак глуха, —
Чамусь заехала мне
І ў другое вуха.

— Добра табе: ты ўжо абедзвёх дачок выдаў замуж.
— Але-ж засталася яшчэ жонка...



# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК










— Я ж катэгарычна забараніў размаўляць аб спорце з кліентамі.



